**Бадак Алесь**

**Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў. – Мн., Выдавецкі дом «Звязда», 2014 – 200 с.**

Чытачоў твораў, якія ўвайшлі ў гэту кнігу, чакаюць захапляльныя падарожжы ў самыя незвычайныя і загадкавыя краіны: у адной з іх жывуць толькі гультаі, у другой — ведзьмы, а ў трэцяй і ўвогуле валадарыць Белая Варона. Сярод іншых герояў — добрыя Пластмасавыя Чалавечкі і мудрыя феі, вясёлыя Сонечныя Зайчыкі і змрочны Ваўкалак, а таксама звычайныя хлопчыкі і дзяўчынкі, якія з'яўляюцца ўдзельнікамі самых незвычайных і неверагодных гісторый.

**ISBN** 978-985-575-004-9

# НЕЗВЫЧАЙНАЕ ПАДАРОЖЖА Ў КРАІНУ ВЕДЗЬМАЎ

## 1. НЕПРЫЕМНАЯ СУСТРЭЧА

На прыпынку людзей было многа, але Данік стаяў каля самай броўкі — як толькі аўтобус, чмыхнуўшы, расчыніў дзверы, ён ускочыў першы і заняў месца каля акна. Вы калі-небудзь ездзілі ў аўтобусах, седзячы каля акна? Ну, вядома ж, ездзілі! Тады вам не трэба тлумачыць, чаму пасажыры, нават калі іх на прыпынку мала, яшчэ да таго як пачуецца гэтае незадаволенае "чмы-х-х!", пачынаюць прабірацца бліжэй да броўкі. Правільна, каб заняць лепшыя месцы — каля акна, адкуль, напрыклад, вельмі зручна лічыць машыны, якія праносяцца міма. Граня, Данікаў сябрук з паралельнага класа, хваліўся, быццам аднойчы налічыў цэлую сотню, але Граню змахляваць, што чыхнуць,— паглядзіць так, быццам ты яму яшчэ і дзякуй павінен сказаць. Данікаў ракорд — шэсцьдзесят чатыры машыны, і гэта без усялякага падману.

Дзверы аўтобуса зачыніліся. Данік прымасціў у нагах цяжкі школьны ранец і затрымаў позірк на нечых дзіўных паношаных чаравіках з загнутымі, як лыжы, наскамі. Гэта з якога музея яны сюды трапілі?! Даніку закарцела зірнуць, хто б мог насіць такі абутак, хоць і так было ясна, што іх гаспадар далека не яго равеснік і чакае не дачакаецца, пакуль Данік саступіць яму месца. Вось табе і маеш, адно сеў, а ўжо трэба ўспорвацца! Аднак хлопчык вырашыў счакаць некалькі хвілін — а раптам хто-небудзь усхопіцца раней? Павінен жа ў гэтым аўтобусе ехаць яшчэ хоць адзін выхаваны пасажыр!

І тут на спінку пярэдняга сядзення — ну, проста перад яго носам! — апусцілася рука, спрэс пасечаная дробнымі маршчынкамі. На пальцах былі доўгія пазногці, закручаныя на канцах літараю "г". Але не яны здзівілі хлопчыка. На ўказальным пальцы ён убачыў шырокі залаты пярсцёнак з круглым крышталікам, усярэдзіне якога мерна пагойдвалася рыбіна вока!

Данік не вытрываў, ускінуў галаву і ўбачыў твар старой жанчыны — ссохлы, выцягнуты, з двума доўгімі сівымі валаскамі-антэнамі на падбародку. І вочы — такія ж халодныя, рыбіныя, як і на пярсцёнку.

— Ты хіба не ведаеш, што трэба саступіць мне месца? — пагрозліва спытала бабулька нізкім непрыемным голасам.

Папраўдзе, усё ў ёй Даніку было непрыемным: голас, твар, рукі, старая камізэлька і доўгая чорная спадніца з вялікімі латкамі, дзіўныя чаравікі...

— Я не магу, мне нага баліць! — буркнуўшы, зманіў ён. І падумаў: "Ну, зараз пачнецца!"

Але бабулька адно скрывілася, пры гэтым так зіркнула на Даніка, што ён міжволі ўцягнуў галаву ў плечы і апусціў вочы. Невядома, што было б далей, але тут аўтобус нечакана заглох і спыніўся. Бабулька працiснулася да выхада і загрукала ў дзверы так настойліва, што шаферу давялося расчыніць іх. Толькі дзіўная пасажырка выйшла, як аўтобус сам па сабе завёўся. Шафёр недаўменна пацiснуў плячыма — колькі разоў здаралася, што яго машына ні з таго ні з сяго глохла, але каб сама заводзілася!..

Нарэшце аўтобус павярнуў на іншую вуліцу, з левага боку якой ужо заканчваўся горад і пачыналася поле, за полем цямнеў лес.

Данік падняўся, каб прайсці да выхада, але нечакана войкнуў і прысеў на правую нагу.

— Хлопчык, што з табой? — пачуў ён над сабой нечы голас і, скрывіўшыся ад болю, адказаў:

— Нага...

## 2. ХАТКА НА ЎСКРАЙКУ ЛЕСУ

Як вядома, усе хваробы дзеляцца на прыемныя і непрыемныя. Прыемна прастудзіцца адразу пас ля зімовых канікулаў, цэлы дзень ляжаць у пасцелі, глядзець тэлевізар і ўяўляць, як у гэты час у школе твае сябры пакутуюць каля дошкі ці за партай. А вось калі баліць зуб — тут ужо прабачце. Лепш ужо вытрываць катаванне выклікам да дошкі.

Даніку са сваей нагой цяжка было вызначыцца: радасць яму нечакана выпала ці, наадварот, непрыемнасць. Спачатку, пакуль у школе не скончыліся заняткі, ён, кульгаючы ад крэсла да тэлевізара, ад тэлевізара да кухні, ад кухні да ложка, уяўляў сябе сапраўдным героем, які толькі што ўратаваў сваю класную кіраўніцу (а яшчэ лепш — дырэктарку школы!). Аднак неўзабаве пачаліся летнія канікулы, і Даніку перастала хацецца быць героем, хацелася на вуліцу. Але не вельмі куды падасіся, кульгаючы,— ні табе ў футбол пагуляць, ні на роліках пакатацца.

Тым часам лепшыя дактары горада не маглі зразумець, што здарылася з нагой хлапчука.

Праўда, пра тое, што ён не захацеў саступіць месца дзіўнай бабулі, Данік доўга нікому не расказваў — ні маці, ні сястры, ні, тым больш, дактарам. Ды і што з таго, калі б ён і прызнаўся? Граня вунь кожны раз, калі ўрокі не вывучыць, якую-небудзь хваробу выдумляе, і хоць бы адна з іх да яго прыліпла!

Зняверыўшыся ў дактарах, Данікава маці паслухала добрых людзей і пачала рабіць настой з розных зёлак, каб націраць імі сынаву нагу. І тут нехта падказаў ёй, што за полем, на ўзлеску, у хатцы-шпакоўні, якая адна засталася ад колішняй вёскі, жыве старая знахарка. Калі возьмецца, любую хваробу як рукой здыме. Адно што не кожнаму яна дапамагае, а іншага і за парог не пусціць, або так зіркне спадылба — у самога прападзе ахвота заходзіць.

Пачуўшы пра знахарку, Данік ні з таго ні з сяго заўпарціўся.

— Не хачу нікуды ісці! — замахаў ён рукамі.

І чым больш маці з Карынаю, сястрой Данікавай, яго ўгаворвалі, тым больш ён упарціўся.

Калі маці пайшла на працу, Карына сказала:

— І што ты ўпіраешся, як малое дзіця!

Даніку ўвесну споўнілася дзесяць гадоў — вядома, якое ж ён малое дзіця!

— Я на тваім месцы пагадзілася б да каго хочаш ісці, абы толькі нагу вылечылі.

Карыне было ўжо чатырнаццаць гадоў, і ёй здавалася, што гэта дастаткова важкая прычына, каб Данік яе ва ўсім слухаўся.

— Не пайду! — буркнуў брат.

— Ну чаму?!

І тут Данік не вытрымаў і расказаў сястры пра сустрэчу з незвычайнай бабуляй.

— Можа, гэта і была тая знахарка! — панізіўшы голас, закончыў ён.

— А ты папрасі ў яе прабачэння,— прапанавала Карына.

— Ага, зараз! — чмыхнуў Данік.— Ты б паглядзела на яе! Страшнілка на дзвюх нагах, а не знахарка! Яна мяне не толькі не вылечыць, а зробіць, што я зусім хадзіць перастану!

Карына хацела зноў запярэчыць брату, але ў ягоным голасе было столькі рашучасці, што яна змоўчала і больш ужо не чаплялася са сваімі парадамі. Аднак і думаць пра Даніка не перастала.

Назаўтра, нікому нічога не сказаўшы, дзяўчынка выйшла з дому, перабегла цераз кальцавую дарогу і па зялёным полі накiравалася да лесу. Раніца была халодная. Сонца не паспявала выбрацца з адной хмаркі, нібы шэрай гурбы снегу, як тут жа правальвалася ў іншую.

Хатка, у якой жыла знахарка, быццам дазорца, выглядала на поле з-за магутных лапаў высокіх елак маленькім вокам-акенцам. Другое вока-акенца пазірала ў глыб лесу.

Карына падышла да пакрыўленых рассохлых дзвярэй і пастукала. Не дачакаўшыся адказу, націснула на клямку, лёгка піхнула дзверы, і яны са скрыпам расчыніліся. Усярэдзіне хатка здалася яшчэ меншай, чым звонку. Справа ад дзвярэй стаяла печ, злева — доўгі стол. За сталом на лаўцы сядзела бабулька ў пацёртай камізэльцы і хустцы, завязанай на падбародку. Яна перабірала зёлкі і кідала іх у чыгунок.

— Добры дзень,— павіталася Карына.

— От і добра, што прыйшла,— не падымаючы вачэй, сказала знахарка, быццам даўно чакала дзяўчынку.— Пайдзі назбірай сухога галля, а то трэба ў печы прапаліць, а я нешта занядужала.

Карына хоць і здзівілася такому прыёму, аднак паслухмяна выйшла з хаты. Калі яна вярнулася з бярэмем галля, знахарка сказала:

— Рэдка да мяне ходзяць госці, дый тых сюды гоніць хвароба, а не ахвота. А ты, бачу, здаровая.

— У мяне брат хворы,— ціха адказала дзяўчынка.— У яго ні з таго ні з сяго пачала балець нага.

— Ні з таго ні з сяго,— насмешліва паўтарыла знахарка.— Можа, пераступіў цераз саломінкі, якія ляжалі крыжам, вось і забалела.

— Адкуль жа ў Мінску саломінкі? — здзіўлена запярэчыла Карына.

— Значыць, доўга скакаў на адной назе.

— Ды ў яго нага забалела ў аўтобусе, ён не мог там скакаць.

Знахарка пакруціла галавой і нарэшце адклала сваю працу.

— Ці ёсць у цябе якая-небудзь яго рэч?

— Яго рэч? — разгублена перапытала дзяўчынка.

— Альбо хай сабе што-небудзь, да чаго ён нядаўна датыкаўся.

Карына пацiснула плячыма.

— Ёсць! — раптам усклікнула яна.— Гадзіннік! Мой гадзіннік зламаўся, і я ўзяла панасіць Данікаў — усё роўна ён не выходзіць на вуліцу.

— Пакажы,— загадала знахарка.

Карына выцягнула левую руку. Гадзіннік быў новенькі, на скураным раменьчыку — яны з маці падарылі яго Даніку некалькі месяцаў таму на дзень нараджэння.

Знахарка падпаліла ў печы некалькі сухіх галінак і загадала:

— Здымі раменьчык і кінь у агонь.

— Навошта? — спалохалася дзяўчынка.

Але знахарка нічога не адказала, адно ўздыхнула.

Карына мусіла падпарадкавацца, хоць ёй было вельмі шкада скуранога раменьчыка. Што яна цяпер скажа Даніку?

Як толькі ад раменьчыка застаўся адзін попел, знахарка зграбла яго на савок, затым перасыпала ў жалезны кубачак, спырснула вадой і, закрыўшы кубак далонню, патрэсла. Пасля яна доўга глядзела на попел, і ў яе глыбокіх вачах спачатку з'явілася недаўменне, а пасля трывога.

— А ты нічога ад мяне не ўтойвала? — павярнулася яна да Карыны.

— Я не ведаю... — разгубілася дзяўчынка.— Данік гаварыў мне пра бабульку ў аўтобусе. Ён думаў, што гэта вы, таму і не захацеў ісці да вас.

І яна расказала ўсё, што даведалася ад брата пра яго сустрэчу з дзіўнай бабулькай. І чым далей яна расказвала, тым больш змрочным станавіўся твар знахаркі.

— Ясна! Гэта была ведзьма! — сказала знахарка, як толькі Карына закончыла расказваць.— Альбо яна не паслухалася Ганесты, альбо Ганеста пачала патураць гэтым ліхадзейкам.

— А хто такая Ганеста? — здзіўлена спытала Карына.

— Хм,— скрывілася знахарка,— Ганеста — уладарка Краіны Ведзьмаў.

— А хіба ёсць такая краіна?

— Ёсць,— уздыхнула бабулька.— І калі твой брат хоча, як раней, бегаць і скакаць на абедзвюх нагах, яму трэба ісці туды, да самой Ганесты. Толькі яна можа зняць з яго чары.

— А калі я пайду замест яго? — не задумваючыся, спытала Карына.

Знахарка недаўменна паглядзела на дзяўчынку.

— Не думай, што гэта так проста: пайшла, папрасіла — і твой брат здаровы. Ганеста — ведзьма, і гора таму, хто не спадабаецца ёй ці не дагодзіць чым.

— А як да яе трапіць? — не зважаючы на апошнія словы знахаркі, спытала Карына.

— Гэта можна зрабіць толькі ў ноч на Івана Купалу, калі зацвіце папараць. Сарваўшы кветку, трэба выйсці на лясную сцежку, якая ў адзін бок вядзе на поўдзень, а ў другі — на поўнач, павярнуцца тварам на поўдзень, пацерці павекі пялёсткам кветкі папараці і з заплюшчанымі вачыма ісці па сцежцы, пакуль кветка ў руках не засохне.

— А хіба папараць цвіце? — спытала Карына.

Але знахарка нібы не пачула, узяла са стала чыгунок з зёлкамі і панесла на прыпечак.

Карына не стала перапытваць, падзякавала бабульцы і пайшла да дзвярэй. На парозе раптам азірнулася і спытала:

— А навошта ведзьмы носяць пярсцёнак з рыбіным вокам?

— Гэтае вока дапамагае знаходзіць сцежку ў сваю краіну ў любую пару года,— не азіраючыся, растлумачыла знахарка.— І помні, ведзьмы могуць ператварацца ў каго хочаш, нават у птушак і звяроў. Але ты іх заўсёды пазнаеш па гэтым пярсцёнку з рыбіным вокам.

### 3. У ПОШУКАХ ПАПАРАЦЬ-КВЕТКІ

Пра тое, што была ў знахаркі, Карына не прызналася ні Даніку, ні маці.

А калі прыйшоў час шукаць папараць-кветку, яна сказала брату:

— Ты ж ведаеш, вы з мамаю для мяне самыя дарагія людзі ў свеце. І я хачу, каб ты быў здаровы, і зраблю для гэтага ўсё, што змагу. Толькі не хвалюйся, калі раптам нешта здарыцца... Так і павінна быць, і ўрэшце ўсё скончыцца добра.

— Што здарыцца? — здзіўлена перапытаў Данік, але Карына ўжо выйшла з пакоя і, абуўшы лёгкія белыя туфелькі, з хвіліну пастаяла каля дзвярэй, слухаючы, як на кухні шуміць вада — маці мыла посуд.

Карына не ўмела і не хацела махляваць, а сказаць праўду, куды яна сабралася, было б яшчэ горш — маці яе нізавошта б не пусціла поначы ў лес, ды і не паверыла б ні ў якую Краіну Ведзьмаў.

"Прабач, мамачка,— у думках папрасіла Карына.— Але нічога лепшага мы з табой усё роўна б не прыдумалі".

Чым бліжэй дзяўчынка падыходзіла да лесу, тым страшней ёй рабілася. Месяц хоць і вісеў на небе, свяціў быццам пад прымусам і толькі і чакаў, калі можна будзе сігануць за далягляд.

"А раптам я не знайду папараць-кветку? — думала Карына, прыспешваючы крок.— І потым, бабулька сказала, у Краіне Ведзьмаў апынешся, калі засохне кветка,— гэта ж колькі трэба ісці? І як даведацца, што сцежка вядзе на поўдзень, а не на захад? — Карына спынілася і паглядзела на месяц.— Вось хто мне дапаможа! — здагадалася яна.— І мурашкі. Яны заўсёды будуюць свае домікі з паўднёвага боку дрэў. І ўсё ж трэба зайсці да бабулькі — можа, яна яшчэ што параіць".

У вокнах знахарчынай хаткі было цёмна. Карына пастукала ў дзверы, але за імі ніхто не адазваўся. Дзяўчынка паспрабавала адчыніць іх, аднак на гэты раз дзверы не паддаліся.

Уздыхнуўшы, Карына пайшла ў глыб лесу. Доўга блукала па ім, пакуль нарэшце ў цямнечы не ўбачыла папараць. Але дарэмна яна шукала паміж вялікіх лістоў чароўныя кветкі — іх не было.

"Значыць, усё гэта няпраўда,— засмуцілася дзяўчынка.— Дарэмна я паверыла знахарцы. Кожны школьнік ведае, што папараць не цвіце".

Яна стомлена апусцілася на зямлю. Як быць далей? Вяртацца дадому альбо працягваць пошукі? Раптам месяц схаваўся за воблака, і ў той жа момант Карыне здалося, што дрэвы вакол яе, нібы жывыя, пачалі паволі рухацца, набліжацца адно да ад нага, сплятаючыся галінамі.

Карына ад страху заплюшчыла вочы, а калі расплюшчыла іх, убачыла многа прыгожых жоўтых кветак — гэта зацвіла папараць! Дрэвы ўжо стаялі нерухома, і месяц вылез з-за воблака і, здавалася, пазіраў уніз са здзіўленнем і недаверам. Карына асцярожна сарвала адну кветку, агледзелася па баках і ўбачыла непадалёку, каля высокай сасны, вялікі мурашнік. Куды цяжэй аказалася знайсці сцяжынку, якая б вяла на поўдзень. У гэтым лесе быццам зусім не стала сцежак. Карына кідалася то ў адзін бок, то ў другі — паспрабуй тут угадай, куды бегчы!

Нарэшце яна спынілася, каб аддыхацца, апусціла вочы і ўбачыла, што якраз стаіць на ёй — вузкай, амаль непрыкметнай, зарослай травою сцяжынцы. Павярнуўшыся тварам на поўдзень, Карына хутчэй адарвала ад кветкі адзін пялёстак, заплюшчыла вочы і памазала ім павекі. Не прайшло і хвіліны, як павекі пачалі цяжэць. Дзяўчынку агарнула дрымота, а ногі самі павялі яе наперад.

Невядома, колькі часу яна ішла па лясной сцяжынцы, як раптам…

— Ай! — ускрыкнула Карына, наткнуўшыся на нейкую перашкоду, і, згубіўшы раўнавагу, упала.

## 4. ГРАНЯ

Карына не моцна выцялася, але яе дрымоту як рукой зняло. Яна расплюшчыла вочы і ўбачыла перад сабой хлопчыка гадоў дзесяці ў пацёртых джынсах, пакарочаных да калена, і шэрай безрукаўцы, які, як і яна, ляжаў на зямлі і недаўменна пазіраў на яе.

Першым падхапіўся хлопчык і пацёр правае плячо.

— Прабач, калі ласка,— сказала Карына, падняўшыся і атрасаючы са сваёй блакітнай сукенкі пясок.

— Трэба глядзець, куды ідзеш,— буркнуў хлопчык і перастаў церці плячо.

— Трэба,— пагадзілася Карына, а сама падумала: "Хоць як я магла глядзець, калі мне сказалі заплюшчыць вочы?"

— Моцна баліць? — спачувальна спытала яна, кіўнуўшы на плячо.

— І нічога не моцна,— хмыкнуў хлопчык.— А, калі хочаш ведаць, баліць яно і не з-за цябе зусім.

— А з-за каго? — здзівілася Карына.

— З-за таго, з кім табе лепш не сустракацца. Слухай,— прыжмурыўся хлопчык,— мне здаецца, я цябе ўжо недзе бачыў.

— І я цябе. Вось толькі дзе?

— А я ведаю! Ты Данікава сястра.

— А ты… ты…

— А я — Граня, яго аднакласнік. Бачыліся мы ў вашай кватэры, калі я браў у Даніка лыжы.

— Відаць,— няўпэўнена кіўнула Карына і ў гэты момант заўважыла ў руцэ хлопчыка кветку папараці.— А што ты тут робіш?

— А ты? — насцярожыўся Граня.

— Я… я іду да сваёй знаёмай.

— Хм, і я… да знаёмага.

Некалькі імгненняў яны пільна глядзелі адно аднаму ў вочы. Карына першая адвяла позірк і раптам усклікнула:

— Дзе мы?

## 5. КРАІНА СОНЕЧНЫХ ЗАЙЦОЎ

Карына і Граня здзіўлена глядзелі па баках. Яны стаялі пасярод блакітнага поля, залітага сонцам. Блакітным яно было таму, што на ім раслі адны блакітныя кветкі.

— Слухай,— узрадавалася Карына,— па-мойму, мы прыйшлі ў Краіну Ведзьмаў!

— Ага,— насмешліва сказаў Граня,— толькі ведзьмы, мабыць, калі ўбачылі нас, ад страху пахаваліся. Я думаў, такія, як ты, ужо не верацъ у казкі,— хлопчык глядзеў на Карыну знізу ўверх, і яму вельмі не хацелася, каб дзяўчынка размаўляла з ім, як з якой-небудзь малечай.

— А хіба ты не верыш? — здзівілася Карына.— Толькі не гавары, што ідзеш да свайго знаёмага.

— У ведзьмаў верыць мая бабуля, а не я,— патлумачыў Граня.— Яна зацягнула мяне да знахаркі, і тая нарасказвала ўсялякіх небыліц пра іхнюю краіну. Быццам толькі там можна зняць чары з маёй рукі.

— А што з ёй здарылася? — пацікавілася Карына.

— Ха, гэта ніводзін доктар не можа сказаць! Ішоў сабе са школы, а тут нейкая старая просіць паднесці ёй торбу. І бачыць жа, што нам не па дарозе, а ўсё роўна: "Памажы, памажы." — перакрывіў Граня бабулю.— А ў мяне самога ў сумцы кніг, што паваліцца можна. Але хіба ёй гэта растлумачыш? Я і сказаў, каб не крыўдзіць: "Мне рука баліць". Яна толькі з'едліва так усміхнулася і далей пайшла. А мне рука, і праўда, балець пачала.

— І пасля гэтага ты не верыш у ведзьмаў? — недаверліва спытала Карына.

— Я не такі наіўны, каб верыць, што ёсць краіна, дзе жывуць адны ведзьмы,— няпэўна адказаў Граня.

— Ну, а папараць,— не здавалася Карына,— яна ж зацвіла! Ну і што? — паціснуў плячыма Граня.— А хто сказаў, што яна не павінна цвісці? Глядзі.— Граня працягнуў Карыне далонь, на якой ляжала жоўтая кветка,— калі верыць знахарцы, у Краіну Ведзьмаў мы павінны дайсці, як толькі гэтая кветка засохне. Па-твойму, яна сухая?

Карына падняла з зямлі сваю кветку, якую ўпусціла, калі падала.

— І праўда,— расчаравана сказала яна,— мая таксама не засохла.

— Ды пакуль яна засохне, пройдзе цэлы месяц! — махнуў здаровай рукой Граня.

— Раз мы пагадзіліся на гэтае падарожжа, то павінны ісці да канца,— упэўнена сказала Карына.

— Ды каб не ты, я ўжо немаведама дзе быў бы,— буркнуў Граня, незадаволены тым, што Карына паводзіць сябе так, быццам яна тут галоўная. І, павярнуўшыся да дзяўчынкі спіной, ён пайшоў па полі.

— Куды ты? — крыкнула наўздагон Карына.— У тым баку не поўдзень, а захад!

— Не,— спыніўшыся, пакруціў галавой Граня,— з табой, відаць, не вернется дадому і да канца канікулаў. Там поўдзень, а не захад!

І ён упэўнена пайшоў далей.

Карына паглядзела па баках: а можа, і праўда, Граня лепш запомніў накірунак? Яна схавала жоўтую кветку ў маленькую кішэньку і дагнала хлопчыка.

— А як цябе аднаго адпусцілі ў Краіну Ведзьмаў? — спытала Карына.

— Што я — дзяўчынка, каб у некага дазволу пытацца? — пагардліва сказаў Граня.

Карыне надакучылі яго насмешкі:

— Калі ты не верыш ні ў якія казачныя краіны, то чаго ж папёрся поначы ў лес?

Граня адказаў не адразу, нібы раздумваў, ці варта ўвогуле з дзяўчынкамі гаварыць на такія сур'ёзныя тэмы. Нарэшце неахвотна прамовіў:

— Калі вырасту, хачу стаць лётчыкам. А ў лётчыкі з хворай рукою не бяруць. Тут куды хочаш пойдзеш, абы толькі яна перастала балець.

Па дарозе Карына збірала блакітныя кветкі, каб пасля сплесці з іх вянок. Праўда, яны пачыналі ўжо вянуць — відаць, над гэтым полем даўно не ішоў дождж.

І вось, калі Карына ў чарговы раз нахілілася, каб папоўніць свой блакітны букецік, проста з-пад яе рукі выскачыла дзіўнае стварэнне — звер не звер, птушка не птушка.

— Ай! — спалохана ўсклікнула яно і завісла ў паветры. Але праз імгненне расцягнула свой рот у шырокай усмешцы і сказала:

— Прывітанне!

— Ты хто? — недаўменна спытала Карына.

— Сконі, сонечны заяц,— весела адрэкамендавалася дзіўнае стварэнне.— Прабачце, калі я вас напалохаў. Проста я спаў на кветках, а адна з іх раптам рванулася з-пад маёй галавы, і я ледзь не зваліўся на зямлю.

Сонечны заяц быў вельмі падобны на звычайных зайцоў, толькі зусім празрысты — як сонечныя зайчыкі, якіх пускаюць з дапамогай люстэрка.

— Скажы, калі ласка, а гэта часам не Краіна Ведзьмаў? — спытала Карына ў сонечнага зайца, калі крыху ачулася ад здзіўлення. Граня тым часам усё азіраўся па баках: ён ніяк не мог паверыць, што побач ніхто не хаваецца з люстэркам у руках.

— Не, гэта Краіна Сонечных Зайцоў,— адказаў Сконі. Ён быццам толькі цяпер убачыў кветкі, якія трымала Карына, і спалохана ўсклікнуў: — Што ты нарабіла! Нашто ты сарвала гэтыя кветкі?!

— А чаму іх нельга рваць? — здзівілася дзяўчынка.— Іх жа тут цэлае поле!

— Але ўсе яны належаць Белай Бароне! І калі яна ўбачыць, што ты… што ты… яна разлуецца і… і…

Карына не стала чакаць, пакуль Сконі замоўкне, паколькі гэта магло заняць шмат часу, і спытала:

— А хто яна такая, Белая Варона?

— О! — усклікнуў Сконі.— Белая Варона — цяперашняя Валадарка нашай краіны. Раней тут жылі толькі мы, сонечныя зайцы. Пакуль аднекуль не прыляцела яна і не аб'явіла, што цяпер будзе валадарыць нашай краінай.

— Не ўяўляю, як можна баяцца вароны,— насмешліва сказаў Граня.

— Што ты! — прыцішыў голас Сконі.— Белая Варона прыгразіла, што нашле сюды чорную хмару, калі мы не будзем яе слухацца.

— Падумаеш,— ухмыльнуўся Граня.

— Вы так баіцеся хмары? — спытала Карына.

— Яна закрые сонца, і нас не стане,— растлумачыў Сконі і цяжка ўздыхнуў.

— А хіба тут ніколі не бывае хмараў і не ідзе дождж? — пацікавілася Карына.

— Не,— сказаў сонечны заяц.— У нашай краіне і месяц свеціць амаль гэтак жа ярка, як і сонца, таму мы не ведаем, што такое цемра.

— Цяпер я разумею, чаму кветкі на гэтым полі такія вялыя — ім не хапае вады,— з жалем прамовіла Карына.

— І Белая Варона тое ж казала. Але ў нашай краіне няма ніводнай рэчкі. А Яе Вялікасць вельмі любіць свае кветкі — яна прынесла іх насенне з іншай краіны. І сказала, калі мы...

Аднак сонечны заяц не паспеў дагаварыць, як у небе з'явілася вялікая Белая Варона.

— А, папаліся, нягоднікі! — хрыпла закрычала яна і стала кружыцца над падарожнікамі, апускаючыся ўсё ніжэй і ніжэй.

Сонечны заяц закалаціўся ад страху, ціха паўтараючы адно і тое ж: "Ой, што будзе! Ой, што будзе!"

Граня сачыў за Белай Варонай, разявіўшы рот, а Карына звярнулася да яе з усёй ветлівасцю, на якую была здатная:

— Прабачце, калі ласка, я не ведала, што гэта Вашы кветкі.

— Яна не ведала! — з'едліва пракрычала Белая Варона.— Вы толькі паслухайце: яна, аказваецца, не ведала! А можа, ты думала, што гэта твае кветкі?

— Не, вядома.

— Чаму ж ты тады пакваплася на чужое?!

Карыне так і хацела сказаць, што каму-каму, а воронам усё ж трэба было б памаўчаць пра "чужое", але як-ніяк над ёй кружылася ўладарка цэлай краіны, і дзяўчынка спакойна прамовіла:

— Прабачце, але ж Вашы кветкі праз некалькі тыдняў усё роўна завянуць.

Белая Варона нарэшце перастала кружыцца і апусцілася на поле крыху наводдаль Карыны і Грані.

— Вось,— гнеўна прахрыпела яна,— гэта і будзе вашым пакараннем! Вы пойдзеце... не, адзін з вас пойдзе ў суседнюю краіну па ваду, а другі застанецца тут. Пасля наадварот. І так — пакуль не пальеце ўсё поле.

— Ага, разагналіся! — чмыхнуў Граня.— Ды я зараз... Але Карына тузанула яго за руку, не дала дагаварыць.

— Вы мудрая Варона, Вы валадарыце цэлай краінай,— пачцівым тонам звярнулася яна да птушкі,— і павінны разумець, што нават калі мы пальём Ваша

поле, кветкам гэтай вільгаці хопіць ненадоўга — праз месяц яны зноў пачнуць вянуць.

Валадарцы Краіны Сонечных Зайцоў вельмі спадабалася, што яе назвалі мудрай.

— Што ж мне рабіць, каб кветкі не засохлі? — занепакоена спытала яна.— Я іх так люблю!

— Здаецца, я ведаю, як Вам дапамагчы,— крыху падумаўшы, сказала Карына.— Але мне патрэбна будзе рыдлёўка.

— Рыдлёўка? — сумелася Белая Варона.— Хм, тады мне давядзецца... давядзецца...— прамармытала яна.— Добра, я паспрабую дастаць рыдлёўку.

Птушка вярнулася хвілін праз дзесяць — пер'е на хвасце тырчэла ва ўсе бакі, быццам валадарку Краіны Сонечных Зайцоў нехта добра паматлашыў.

"Ці не з-за рыдлёўкі ёй так перапала?" — падумала Карына, а ўголас прамовіла:

— А цяпер нам трэба пасярод поля выкапаць калодзеж.

— Каму гэта "нам"? — абурыўся Граня.— Мне баліць рука, і я не збіраюся нічога капаць.

— Вядома, ты не зможаш капаць,— пагадзілася Карына.— Я сама паспрабую.

— Пачакайце! — усклікнуў Сконі, пра якога тут усе ўжо нават забыліся.— Я паклічу сваіх сяброў — сонечных зайцоў. Хоць мы і не такія дужыя, як людзі, затое нас шмат.

І праўда, хутка з усіх канцоў поля пачалі збягацца сонечныя зайцы. Калі яны сталі па чарзе ўвішна капаць калодзеж, Карына звярнулася да Белай Бароны.

— Каб чэрпаць ваду, патрэбны вядро і моцная вяроўка,— нагадала яна.

— Вядро, вяроўка...— азадачана прабубніла Белая Варона.— Вядро, вяроўка...

Яна неахвотна ўзмахнула крыламі і знікла ў тым жа накірунку, што і тады, калі лятала па рыдлёўку.

Калі Белая Варона вярнулася з невялікім вядзерцам і вяроўкай, калодзеж быў выкапаны.

— Ваша Вароніна Вялікасць, цяпер мы можам ісці? — з надзеяй спытала ў яе Карына і пачула, як Граня насмешліва фыркнуў. Дзіўна, што ён яшчэ столькі часу цярпеў і не кінуўся на Варону з кулакамі ці яшчэ чаго-небудзь не вытварыў.

— Так і быць, я адпускаю вас,— велікадушна сказала Валадарка Краіны Сонечных Зайцоў, некалькі разоў абышоўшы калодзеж. Пры гэтым яна пастаянна спынялася і зазірала ў яго, быццам баялася, што вада ў ім можа знікнуць.

— Тады Вы, можа, падкажаце, як нам трапіць у Краіну Ведзьмаў? — зноў спытала Карына.

Белая Варона здзіўлена ўтаропілася на дзяўчынку.

— Жудасная краіна,— прахрыпела яна.— І, на шчасце, яна не мяжуе з маёю краінай. Але адразу за гэтым полем пачынаецца краіна Далінія. Спытайце ў далінцаў, яны хоць і нікчэмныя стварэнні, аднак маюць вушы, вочы і нават крышку мазгоў. Яны раскажуць вам, як трапіць да ведзьмаў.

Развітаўшыся з Белай Воронай і сонечнымі зайцамі (па-праўдзе, развіталася адна Карына, Граня толькі нешта пабубніў сабе пад нос), падарожнікі пайшлі далей.

— Ты так сур'ёзна размаўляла з гэтай Варонай, што, пазіраючы на цябе, можна было са смеху парвацца,— сказаў Граня.

— А як я, па-твойму, павінна была размаўляць з Валадаркай краіны? — паціснула плячыма Карына.

— Валадаркай! — перакрывіў яе Граня.— Звычайная хлуселька.

— Калі б яна не хлусіла, то, можа, так і была б заўсёды звычайнай белай варонай, і ніхто б яе не слухаўся,— задумліва заўважыла Карына і паглядзела на букет, які Варона дазволіла дзяўчынцы ўзяць з сабой.— Затое яна так любіць кветкі і хоча засеяць імі ўсю Краіну Сонечных Зайцоў!

### 6. НА ЧУЖЫМ ГАРЫШЧЫ

За полем з блакітнымі кветкамі рос рэдзенькі лясок, які падарожнікі прайшлі за некалькі хвілін. З другога боку да яго падступалася бяскрайняя даліна. У даліне, непадалёку ад лесу, стаяў невялікі, круглы, як труба, домік з разнымі размаляванымі вокнамі, з дахам, падобным на перакуленую глыбокую талерку.

— Калі ў гэтым доме і не ведаюць, як трапіць у Краіну Ведзьмаў, то, можа, нас хоць чым-небудзь пачастуюць,— з надзеяй сказала Карына.— Ніколі не адчуваеш сябе такой галоднай, як тады, калі няма чаго з'есці.

Падарожнікі падняліся на маленькі драўляны ганачак і пастукалі ў маленькія круглыя дзверы. Прайшла хвіліна — ім ніхто не адказаў.

— Ну вось і паелі, і даведаліся, як ісці ў Краіну Ведзьмаў,— змрочна сказаў Граня.

— А можа, нас проста не пачулі? — Карына ўспомніла, як яна трапіла ў хатку знахаркі, і, націснуўшы на ручку, легка піхнула дзверы. На радасць падарожнікам, дзверы адчыніліся.

Карына і Граня пераступілі парог і апынуліся ў невялікіх сенцах — пустых, калі не лічыць вузкай і на выгляд не вельмі надзейнай драўлянай лесвіцы, якая падымалася да круглай дзіркі ў столі.

— Добры дзень! — гучна сказала Карына.— Ці ёсць хто-небудзь дома?

Угары пачуўся шоргат, аднак з адказам там не спяшаліся.

— Па-мойму, нас не чуюць.— Карына счакала яшчэ хвіліну і пачала асцярожна ўзбірацца па лесвіцы, якая пад ёй прагнулася так, што, здавалася, вось-вось зломіцца. Як толькі дзяўчынка паднялася, услед за ёй палез і Граня. Падарожнікі апынуліся на гарышчы, заваленым рознымі скрынкамі і лахмоццем, і са старым куфэркам пасярэдзіне.

— Тут ёсць хто-небудзь? — спытала Карына, азіраючыся па баках.

З-за куфэрка паказалася смешная маленькая галава і спалохана спытала:

— Вы хто?

— Не бойся,— паспешна адказала Карына,— мы проста хацелі даведацца, як адсюль трапіць у Краіну Ведзьмаў.

— У Краіну Ведзьмаў? — здзіўлена перапытала смешная галава і схавалася за куфэркам.

Неўзабаве адтуль выйшаў маленькі чалавечак ростам з паўметра, вушасты і з такімі доўгімі рукамі, што маленькія кішэні на яго штанах давялося прышываць ніжэй каленяў. У чалавечка былі вялікія вочы, нос нагадваў бульбінку, а рот ён меў такі шырокі, што здавалася, быццам чалавечак увесь час усміхаецца.

— Першы раз бачу людзей, якія шукаюць дарогу ў Краіну Ведзьмаў,— прызнаўся ён.

— Ды мы не па сваёй ахвоце туды ідзём,— сумна ўсміхнулася Карына і, пакуль Граня з цікаўнасцю разглядаў дзіўнага чалавечка, расказала пра мэту іх падарожжа.

— Я ведаю, дзе жывуць ведзьмы,— уважліва і з нязменнай усмешкай на твары выслухаўшы дзяўчынку, прамовіў чалавечак.— Нашу краіну з іхняй раздзяляе рака. Праўда, праз яе няма ніводнага маста, бо ні ў каго яшчэ не з'яўлялася жадання пабываць на тым баку, але я ведаю на ёй усе брады.

— Значыць, ты дапаможаш нам? — узрадавалася Карына.

— Мне гэта няцяжка,— паціснуў плячыма чалавечак.— Толькі вам давядзецца крыху пачакаць.

Ён палез у куфэрак і дастаў аксамітавы халат, упрыгожаны дробненькімі брыльянтамі. Накінуўшы халат на плечы, з гонарам спытаў:

— Ну як?

— Хоць сёння ў цырк,— ледзь не пырснуў са смеху Граня.

Чалавечка, і праўда, можна было прыняць за якога-небудзь маленькага фокусніка альбо клоуна.

Спалохаўшыся, што ён можа пакрыўдзіцца (хоць, пагадзіцеся, цікава было б паглядзець на пакрыўджанага чалавека, у якога з твару не сыходзіць усмешка), Карына паспешна сказала:

— У гэтым халаце ты падобны на чараўніка.

— Праўда? — узрадаваўся чалавечак і нечакана дадаў: — А я і ёсць чараўнік.

## 7. ГІСТОРЫЯ З ЧАРОЎНЫМ ПОСАХАМ

Карантышка скінуў з сябе халат, зноў зазірнуў у куфэрак і дастаў невялікі — якраз пад яго рост — посах, усыпаны залатымі каменьчыкамі.

— Вось,— з гонарам прамовіў чалавечак, паказваючы залаты посах гасцям.

І ён расказаў Карыне і Граню дзіўную гісторыю свайго роду, якую нават Граня выслухаў уважліва, і на яго твары не было відаць і ценю сумнення ў яе праўдзівасці.

Аказалася, карантышку завуць Лін, а краіна, у якую трапілі Карына і Граня, называецца Далінія. Усе продкі Ліна былі чараўнікамі. Ну, не такімі, вядома, як фея Урсула — галоўная і самая магутная чараўніца Далініі. Але сёе-тое, напрыклад, пасгаць на зямлю дождж альбо снег, ім нічога не значыла. Дзіва што, продкі Ліна былі Галоўнымі Кіраўнікамі Надвор'я ў Далініі. Ясны дзень ці пахмурны — гэта залежала ад іх. Што і казаць, праца вельмі адказная, бо Далінія — краіна далінаў, амаль усе жыхары яе земляробы; не ўгадаеш з надвор'ем — прыбавіш ім лішняе працы.

Продкі Ліна выконвалі свае абавязкі спраўна. І Урсула аднойчы ўзнагародзіла іх чароўным посахам, упрыгожаным залатымі каменьчыкамі. З дапамогай гэтага посаха можна было вельмі хутка перамяшчацца ў прасторы.

Падарунак Урсулы аказаўся якраз дарэчы. Далінія ў той час была вялікай краінай, а ў вялікай краіне не так і проста вызначыць, якое надвор'е патрэбна ў розных яе частках. Але варта павярнуць на чароўным посаху адно з сініх колцаў па гадзіннікавай стрэлцы, стукнуць посахам тры разы — і ты ўжо ў іншым канцы краіны.

Падарунак феі перадаваўся з пакалення ў пакаленне як самае каштоўнае, што было ў доме чараўнікоў. І калі на свет з'явілася мама Ліна, залаты посах павінен быў дастацца ёй, як толькі яна вырасце.

А пакуль — пакуль ёй нічога не гаварылі пра яго і хавалі посах у шуфлядзе старэнькай шафы. Вы спрабавалі што-небудзь хаваць у шуфлядзе шафы? Вядома, не! Да гэтага могуць дадумацца толькі дарослыя, якія чамусьці лічаць, быццам яны лепшыя хавальпчыкі ў свеце. Але вы ж ведаеце, што проста смешна хаваць што-небудзь у шафе, калі ў доме ёсць гарышча!

Таму аднойчы здарылася тое, што і павінна было здарыцца. Калі бацькі мамы Ліна адлучыліся па сваіх справах, дзяўчынка і выцягнула посах з шуфляды.

Праўда, яна не ведала, што гэта чароўны посах — пагуляла з ім і кудысьці закінула. А тут, як на бяду, ураджай у краіне ўжо быў сабраны, і чароўным посахам карысталіся не дужа часта — хапіліся яго толькі праз тыдзень.

Маленькая віноўніца прызналася, што знайшла яго ў шафе, але куды дзела, успомніць так і не змагла.

Урсула, калі даведалася пра гэтае здарэнне, вельмі раззлавалася і пазбавіла бабулю і дзядулю Ліна дару кіраваць надвор'ем, а прызначыла іх захавальнікамі скарбаў. Вядома, праца таксама крышку чароўная, аднак не такая цікавая.

З таго часу фея пачала сама кіраваць надвор'ем у краіне, але спраў у яе заўсёды было шмат, і яна пастаянна забывалася то паслаць хмары, то разагнаць іх, і тады ў Далініі або некалькі тыдняў стаяла сухмень, або ліў дождж.

Аднак далінцы хоць і бурчэлі на кепскае надвор'е, праз гэта не сталі менш любіць сваю валадарку — усё роўна яна была вельмі добрай і справядлівай феяй.

Заканчваючы расказваць гісторыю з чароўным посахам, Лін з палёгкай уздыхнуў:

— А сёння, зусім выпадкова, я знайшоў яго тут, на гарышчы, пад куфэркам. Мне трэба хутчэй аднесці посах нашай валадарцы — магчыма, тады яна даруе нашаму роду і зноў прызначыць нас Галоўнымі Кіраўнікамі Надвор'я. Вось чаму я не магу зараз паказаць вам, як перабрацца цераз рэчку ў Краіну Ведзьмаў. Мне вельмі хочацца трапіць да Урсулы раней, чым вернуцца мае бацькі.

— А дзе твае бацькі? — пацікавілася Карына.

— Закопваюць скарбы. Толькі...— Лін цяжка ўздыхнуў, яго настрой рэзка змяніўся,— баюся, чароўны посах нам цяпер не вельмі спатрэбіцца.

— Чаму? — здзівілася Карына.

— А, — Граня паспешна выгукнуў:

— Тады аддай яго мне! Ён мне, ведаеш, як спатрэбіцца!

— Гэта раней наша краіна была вялікая,— пачаў тлумачыць Лін.— Але некаторыя далінцы палічылі, што Урсула прымушае іх залішне многа працаваць. Яны сталі пагаворваць, што фея магла б зрабіць так, каб на нашых агародах круглы год усё расло само па сабе, а нам заставалася б толькі сабраць ураджай. Спачатку такіх далінцаў было няшмат, але яны падбухторвалі іншых супраць феі. І калі незадаволеных аказалася некалькі соцень, яны накіраваліся да замка Урсулы, каб выказаць ёй свае патрабаванні. Вядома, Урсула магла пакараць непаслушнікаў, але яна зрабіла па-іншаму: тым, хто не хацеў працаваць, выдзеліла частку Далініі, дзе яны маглі жыць па сваім разуменні. Ім забаранялася толькі адно — пакідаць сваю тэрыторыю. Непаслушнікі аказаліся такімі гультаямі, што нават не сталі апрацоўваць зямлю, на якой пасяліліся, і яна пачала зарастаць лесам.

— І што,— спытаў Граня,— ніхто з іх так і не захацеў вярнуцца назад?

— Не,— адказаў маленькі скарбнік.— Цяпер у іх як бы асобная краіна, якую мы называем Лясоніяй.

— Значыць, тых, хто жыве ў ёй, вы называеце лясонамі? — здагадалася Карына.

— Лясонамі,— кіўнуў Лін.— У іх цяпер нават ёсць свая Валадарка — Вірынея. Праўда, яна не фея і не можа чараваць, але там яе ўсе чамусьці слухаюцца.

— Што ж тут дзіўнага,— весела сказаў Граня,— толькі што мы бачылі Белую Варону, якая валадарыць Краінай Сонечных Зайцоў.

— Ах! — усклікнуў Лін.— Відаць, гэта тая самая Белая Варона, якая часта прылятае сюды з-за лесу, каб што-небудзь украсці. Сёння ўкрала ў нас адну з рыдлёвак, якімі мы закопваем скарбы.

— Яна, яна! — засмяяўся Граня.— Мы самі бачылі тую рыдлёўку!

— Значыць, вы ідзяце з Краіны Сонечных Зайцоў? — спытаў скарбнік, уважліва разглядваючы гасцей з галавы да ног, быццам толькі што іх упершыню ўбачыў.

— Мы ідзём з краіны, у якой жывуць людзі,— сказала Карына.

— О, мы называем яе Краінай Веліканаў,— з павагай у голасе прамовіў Лін.— Гэта вельмі далёка адсюль.— Ён раптам схамянуўся: — Вы, напэўна, галодныя? У мяне ёсць піражкі з цёртымі яблыкамі. Я іх усё роўна не люблю, так што можаце з'есці ўсе.

## 8. "АДДАЙЦЕ ПОСАХ!"

Піражкоў была цэлая міса, але яна аказалася такой маленькай, а самі піражкі зусім малюпасенькімі, так што Карына і Граня ўмалацілі іх за некалькі хвілін і як след не пад'елі. Але больш ім нічога не прапаноўвалі, таму госці падзякавалі і сталі разглядаць кухню. Папраўдзе, у ёй і разглядаць асабліва не было чаго: маленькая печ, маленькі буфет з дробным посудам на палічках, пасярод кухні мясціўся стол (вядома ж, таксама невялікі), каля яго стаялі тры табурэткі, якія больш паходзілі на ўслончыкі.

Праўда, гэта калі на ўсё глядзець вачыма Карыны і Грані. Для скарбніка, які сам ад гаршка паўвяршка, кухня была нават прасторная, а ўсё, што знаходзілася ў ёй, ні вялікае ні малое — такое, якім і павінна быць.

— Пакуль я вярнуся ад Урсулы, вы можаце крыху адпачыць,— сказаў Лін і расчыніў дзверы, за якімі аказалася ўтульная спальнічка.

Аднак ніводзін з трох ложкаў, што стаялі ў ёй, сваімі памерамі не быў разлічаны на Карыну і Граню. Зразумеўшы гэта, Лін цяжка ўздыхнуў — так зрабіў бы на яго месцы кожны гасцінны гаспадар, які не ва ўсім здолеў дагадзіць гасцям,— і прапанаваў:

— Вы можаце пагартаць кніжкі (некалькі маленькіх кніжак былі раскіданы на стале, які стаяў каля адзінага акенца ў спальні) або пагуляць у бін-бон.

— А што гэта за гульня такая? — здзіўлена спытаў Граня.

— Зараз я навучу вас у яе гуляць, адно спачатку пераапрануся — усё-ткі не кожны дзень даводзіцца бываць у замку Урсулы.

Лін дастаў з шафы ярка-зялёную камізэльку і прымераў яе перад люстэркам, якое вісела на сцяне.

— Ну як? — спытаў ён, павярнуўшыся тварам да Карыны і Грані.

— Па-мойму, зялёны колер табе вельмі пасуе,— пахвальна кіўнула Карына.

Скарбнік зноў паглядзеўся ў люстэрка, прыдзірліва папраўляючы на сабе камізэльку, і задумліва прамовіў:

— А можа, мне апрануць аксамітавы халат з брыльянтамі? Ах, не, гэта будзе надта смела і нават задзірліва. Пакуль што мы не маем права яго насіць. Я пайду ў зялёнай камізэльцы. Толькі... толькі...— Лін доўга і незадаволена разглядаў сябе з усіх бакоў і нарэшце ўсклікнуў: — Вось чаго мне не хапае!

Ён кінуўся да шафы, дастаў з яе цёмна-сіні капялюш з шырокімі загнёнымі палямі і тут жа прымераў яго перад люстэркам.

— Здаецца, акурат да месца. А то скарбнік на прыёме ў валадаркі краіны і без капелюша! Смех, дый годзе! Што б я тады здымаў з галавы, вітаючыся з феяй? Ах, гэта ж трэба... Што было б...

Чым далей гаварыў скарбнік, тым цішэй і невыразней гучалі яго словы — па ўсім відаць, Лін пачынаў ужо хвалявацца перад сустрэчай з Урсулай.

— Посах! Дзе мой чароўны посах? — раптам спахапіўся ён.

— На кухні,— паспешна адказала Карына, якой перадалося хваляванне карантышкі.— Я зараз прынясу.

Яна кінулася з пакоя, але толькі ўбегла на кухню, як застыла ад здзіўлення: каля расчыненага акна стаялі два маленькія даўгарукія чалавечкі. У руках яны трымалі залаты посах і ўважліва разглядалі яго.

Чалавечкі ўбачылі Карыну, ускочылі на падаконнік і праз імгненне апынуліся на вуліцы.

Не доўга думаючы, Карына кінулася за імі.

— Аддайце посах! — закрычала яна чалавечкам, але для маленькіх уцекачоў гэта прагучала як: "Давайце, бяжыце яшчэ хутчэй!", і яны прыпусцілі так, быццам хацелі ўстанавіць сусветны рэкорд па ўцёках. Зрэшты, можа, гэта ім і ўдалося.

Ростам чалавечкі былі не вышэй за Ліна, і дзяўчынка, якая да таго ж па фізкультуры мела адны пяцёркі, падумала: "Не можа быць, каб такая малеча бегала хутчэй, чым я".

Невядома, што б сказаў яе настаўнік фізкультуры, назіраючы за гэтаю пагоняй, в.а ўсялякім разе, наўрад ці пахваліў бы сваю лепшую вучаніцу: адлегласць паміж ёй і маленькімі чалавечкамі хоць і не расла, але і не карацела.

## 9. КРАІНА ГУЛЬТАЁЎ

Наперадзе паказаўся рэдзенькі лясок, уцекачы ўбеглі ў яго і быццам скрозь зямлю праваліліся. Карына кінулася ў адзін, у другі бок і ледзь не наскочыла на карантышку ў зялёных латаных-пералатаных шорціках, які ляжаў пад дрэвам і задумліва пазіраў на неба.

— Прабач, ты не бачыў, тут ніхто не прабягаў? — спытала Карына нецярпліва і ў той жа час далікатна.

Але карантышка ў зялёных шорціках нават не павярнуў у яе бок галавы, і ёй давя лося спытаць яшчэ раз і ўжо больш настойліва.

Нарэшце карантышка адарваў свой позірк ад неба і перавёў яго на Карыну. У вачах чалавечка было недаўменне, і Карына падумала, што зараз ёй давядзецца зноў паўтараць свае пытанне.

Але толькі яна раскрыла рот, як карантышка незадаволена сказаў:

— Можна падумаць, калі некалькі разоў задаць адно і тое ж пытанне, то хутчэй атрымаеш адказ.

— Можна падумаць, ты не мог адказаць на яго, калі я спыталася першы раз,— узлавалася Карына.

— Ну, мне ж трэба было спачатку падумаць,— крыху здзіўлена сказаў чалавечак.

— Хіба я спытала нешта такое, пра што трэба доўга думаць?!

— Вядома,— спакойна адказаў чалавечак.— Я ляжу гадзіны чатыры, і за гэты час тут шмат хто мог прайсці альбо... Хоць, не, прабягаць тут ніхто не прабягаў, інакш гэта б я запомніў.

— Ну, вось, бачыш,— незадаволена прамовіла Карына,— мог бы сказаць адразу. Я столькі часу на цябе патраціла.

— І ўчора тут ніхто не прабягаў, і пазаўчора,— быццам не чуючы дзяўчынку, прадаўжаў карантышка.— І ўвогуле, калі табе трэба нехта, хто любіць бегаць, то ты яго шукаеш не ў той краіне.

— Ты хочаш сказаць, што ў тваёй краіне ніхто не бегае? — недаверліва спытала Карына.

— Не, я хачу сказаць, што ў нас гэта не прынята,— уздыхнуў чалавечак так, быццам размаўляў з надакучлівым немаўлём.

Карына азірнулася вакол і раптам усклікнула:

— А, гэта, відаць, Лясонія? Краіна гультаёў? Сказаўшы "гультаёў", дзяўчынка спалохана прыкрыла рукой рот — як гэта ў яе з языка сарвалася?!

Але чалавечак не толькі не пакрыўдзіўся на "гультаёў", але нават з гонарам дадаў:

— Вядома. Самых сапраўдных.

— Ну і ну,— разгублена прамовіла Карына. З хвіліну яна маўчала, раздумваючы, што ёй рабіць далей.— Паслухай, а ты можаш паказаць мне, дзе жыве ваша Валадарка?

Чалавечак здзіўлена паглядзеў на яе, але не спяшаўся з адказам.

"Цікава,— падумала Карына, не рызыкуючы зноў паўтарыць свае пытанне,— колькі часу яму спатрэбіцца, каб сабрацца з думкамі?"

І Карына пачала лічыць: "Раз, два, тры, чатыры..."

Чалавечак адазваўся, калі яна далічыла да дваццаці.

— А Вірынея ведае, што ты хочаш з ёй сустрэцца? — пацікавіўся ён.

— Не,— пакруціла галавой дзяўчынка.

— Тады можаш не спяшацца,— чамусьці ўзрадавана сказаў карантышка.

— Я не магу не спяшацца— мне трэба як мага хутчэй убачыць валадарку вашай краіны,— запярэчыла Карына.

— Мажа, табе і трэба,— паціснуў плячыма чалавечак,— але Вірынея цябе ўсё роўна зараз не прыме.

— Чаму?

— Таму што яна спіць.

— Спіць? — здзіўлена ўсклікнула дзяўчынка.— Але ж да вечара яшчэ далека!

— Ну і што? — сказаў чалавечак.— Ты хіба ясі толькі тады, калі цябе паклічуць за стол, а не заўсёды, калі табе хочацца есці?

Пра яду карантышка нагадаў зусім няўчас, у Карыны слінкі пацяклі ад аднаго гэтага слова, і ёй захацелася хутчэй змяніць тэму.

— Я — гэта я, а Валадарка — гэта Валадарка,— сказала яна — праўда, не зусім упэўнена.

— Вядома,— падхапіў чалавечак.— Таму Вірынея павінна ва ўсім нам паказваць прыклад. І спаць столькі, колькі ніхто з нас не здолее.

Карына зразумела, што далей спрачацца не мае сэнсу, і сказала:

— І ўсё ж, калі табе не вельмі цяжка, пакажы мне, дзе яна жыве.

## 10. ШКОЛА ГУЛЬТАЁЎ

Чалавечак ішоў вельмі марудна, раз-пораз то азіраючыся па баках, то задзіраючы галаву ў неба, дзе плыло маленькае белае воблачка. Але Карына ўжо была рада і таму, што ён увогуле пагадзіўся паказаць ёй замак Валадаркі Лясоніі, і не падганяла яго. Яна спрабавала з ім загаварыць, аднак чалавечак адказваў неахвотна, а часам і не да месца, таму адзінае, што дзяўчынка змагла даведацца больш-менш пэўна, гэта яго імя — Ор.

Хутка наперадзе сталі паказвацца невялікія домікі, якія мелі даволі дзіўны выгляд. Яны былі пабудаваныя так, што маглі разваліцца ў любое імгненне. У адным не хапала вокан, у другім — дзвярэй, у трэцім не было даху.

Каля домікаў валялася столькі смецця — розных паперак, шалупіння, агрызкаў, старых паламаных рэчаў,— быццам гаспадары ніколі не прыбіралі свае надворкі.

"Ну і запусценне!" — падумала Карына.

І, быццам падслухаўшы яе думкі, Ор сказаў:

— Гэта яшчэ што! Прыходзь да нас праз год, паглядзіш, якая тут будзе любата!

— Магу сабе ўявіць,— іранічна прамовіла Карына.

— А што! Газоны, клумбы — усё гэта зусім запусціцца, і тады можна будзе хадзіць дзе захочаш.

Карына паглядзела па баках — газоны і клумбы, пра якія гаварыў Ор, і так зараслі пустазеллем, куды ўжо далей!

Тым часам яны наблізіліся да будынка, на касабокіх дзвярах якога вісела шыльда: "МАГАЗІН".

— Калі ў вас ёсць свой магазін, значыць, у ім нешта прадаюць. А раз у ім нешта прадаюць, значыць, вы не такія ўжо і гультаі,— заключыла Карына.

— Ха! Знайшла дурняў! — усклікнуў Ор.— Прадаюць! Ды і не магазін тут, а школа.

— Школа? — недаўменна перапытала Карына.

— Ага,— кіўнуў Ор.— Гэтую шыльду нехта ад некуль прыцягнуў. Перапісваць, зразумела, паленаваліся, так і павесілі.

— Значыць, вы ўсё ж вучыцеся! — заўважыла Карына.— А раз вы вучыцеся, значыць...

— Вядома, вучымся,— перабіў яе Ор.— Круглы год.

— Ты хочаш сказаць, што ў вас не бывае нават летніх канікулаў? — сумелася Карына.

— Можаш сама пераканацца,— хітравата ўсміхнуўся Ор і павёў яе ўсярэдзіну будынка.

У школе аказаўся толькі адзін кабінет, у якім за партамі сядзела чалавек трыццаць вучняў. На дошцы вялікімі літарамі была напісана тэма ўрока:

*"ЯК ПРАЖЫДЗЬ СТО ГАДОЎ*
*КАЛІ НІЧОХА НІ РАБІДЗЬ?"*

— Нічога сабе тэмачка,— прамармытала Карына, налічыўшы на дошцы аж пяць памылак.— У вас на уроках праходзяць такую... такія тэмы?

— А то! — з гонарам сказаў Ор.

— Чаму ж тады ты не на занятках? — іранічна спытала дзяўчынка, якой пачало здавацца, што яе тут проста вырашылі разыграць.

— А яны яшчэ не пачыналіся,— растлумачыў Ор.

— І праўда, вучні займаліся чым хацелі. Адны размаўлялі, іншыя шамацелі папяровымі мяшэчкамі, у якія клапатлівыя бацькі паклалі бутэрброды, пончыкі і фрукты, нехта спаў, а нехта задумліва пазіраў у акно — калі, вядома, акном можна назваць пусты праём у сцяне.

— І невядома, ці сёння пачнуцца,— дадаў Ор.

— А дзе ж ваш настаўнік? — спытала Карына.

— Настаўнік?

Ор выцягнуў шыю і зазірнуў пад настаўніцкі стол.

— Ды вунь спіць!

— Настаўнік спіць? — не паверыла Карына і таксама зазірнула пад стол.

Неверагодна! Падклаўшы доўгія рукі пад галаву, там пасопваў маленькі чалавечак у старой, у некалькіх месцах залатанай шэрай камізэльцы і памятых чорных штанах.

— Ціха! — зашыпелі на іх вучні.— Не разбудзіце яго!

Ор паказаў Карыне рукой, каб яна нахілілася, і прашаптаў ёй на вуха:

— Ведаеш, колькі мы шукалі такога настаўніка? Цэлы год! Гультай з гультаёў! Яму цаны няма! Ён нават лянуецца нам адзнакі ставіць! Мы самі сабе ставім, хто якія хоча.

— Напэўна, у вас тут адны выдатнікі? — ухмыльнулася Карына.

— Што ты! — абурыўся Ор.— Яшчэ чаго не хапала! У нас ва ўсіх амаль адны двойкі!

— Па-мойму, двойкі трэба ставіць не толькі вам, але і вашаму настаўніку, раз ён без памылак не можа напісаць нават тэму урока.

— Я ж і кажу: яму цаны няма! — па-свойму расцаніў словы Карыны Ор.

— І ён што — адзін вядзе ўсе прадметы?

— Што значыць "усе прадметы"? У нашай школе адзін прадмет!

— Хацелася б ведаць, як ён называецца,— з усмешкай сказала Карына.

— "Гультайствазнаўства", як жа яшчэ! — з гонарам прамовіў Ор.

— І праўда, як я сама да гэтага не дадумалася,— паціснула плячыма Карына: якія яшчэ прадметы могуць быць у школе, дзе вучацца адны гультаі і дзе настаўнік — несусветны гультай, які не мог прыдумаць нічога іншага, як заснуць пад сталом у класе!

— Калі ты думаеш, што гэта самае лепшае, на што ён здатны, то памыляешся,— усцешана сказаў Ор.— Сёння ён хаця б да школы дайшоў, а то бывае, што на паўдарозе ляжа пад якім-небудзь дрэвам і спіць.

## 11. У ЗАМКУ ВІРЫНЕІ

Ор некалькі разоў пазяхнуў і сказаў Карыне:

— Слухай, я, відаць, застануся тут. Ніхто не ведае, калі прачнецца настаўнік, а мне не хочацца прапусціць пачатак урока.— Ён зрабіў паўзу, каб яшчэ некалькі разоў пазяхнуць.— А да замка Вірынеі адсюль блізка, толькі нікуды не зварочвай з дарогі, па якой мы ішлі.

Пазіраючы ў сонныя вочы Ора, Карына не сумнявалася, што ён вырашыў застацца ў класе, каб крыху паспаць. "Ну і дрыхні,— нязлосна падумала яна.— Ды і чаго яшчэ ад цябе чакаць, раз ты жывеш у краіне адных гультаёў".

Дзяўчынка падзякавала Ору і выйшла са школы.

— Да замка Вірынеі, і праўда, было хвілін дзесяць хады. Карына не раз бачыла ў кніжках малюнкі старажытных замкаў, таму адразу здагадалася, што перад ёю. Хоць, трэба сказаць, не кожны б на яе месцы здагадаўся. Замак выглядаў так, быццам нядаўна трымаў варожую асаду. Драўляныя абарончыя сцены былі амаль разбураныя. Праўда, калі Карына падышла бліжэй, то зразумела, што ніхто іх не разбураў,— іх проста паленаваліся дабудаваць.

Дзяўчынка думала, каля варотаў яе спыніць грозная варта, але там нікога не аказалася. Толькі каля дзвярэй палаца, таксама запушчанага і недабудаванага, яна ўбачыла лясона, які мірна драмаў, прытуліўшыся спіной да сцяны і трымаючы ў руках вялізную рагатку, якая, па ўсім відаць, служыла яму зброяй.

Карына доўга думала, будзіць ёй вартаўніка ці не. "Раз у гэтай краіне паўсюль спяць сярод белага дня,— нарэшце вырашыла яна,— значыць, ён займаецца тым, чым і павінен займацца. Ва ўсялякім разе, яму не павінна папасці ад Вірынеі за тое, што прапусціў мяне без яе дазволу".

Карына ўвайшла ў палац і апынулася ў вялікай люстэркавай зале. Па праўдзе кажучы, палацы ёй уяўляліся іншымі. У іх усё павінна зіхацець золатам і срэбрам, на сценах і на стол павінна гарэць шмат свечак. І, вядома ж, зірнуўшы на падлогу, пад ногі, дзяўчынка павінна была б убачыць сваё адлюстраванне.

У зале ж пахла сырасцю і стаяў паўзмрок, бо ўсе аканіцы аказаліся нагл уха зачыненымі, і святло трапляла толькі праз дзірку ў даху. На люстэрках, якія віселі на сценах, ляжаў такі вялікі пласт пылу, што глядзецца ў іх не мела ніякага сэнсу.

"Не можа быць, каб у гэтым змрочным палацы жыла Валадарка краіны,— падумала дзяўчынка.— Пэўна, ёй пабудавалі новы. А што рабіць з гэтым будынкам, пакуль не вырашылі. І, напэўна, ён хутчэй зусім разваліцца, чым яны вырашаць",— уздыхнула яна, успомніўшы пра Ора — несусветнага гультая.

З люстэркавай залы Карына перайшла ў іншую, такую ж прасторную і змрочную,— святло ў яе трапляла праз ледзь прыадчыненыя аканіцы.

Дзяўчынка чакала, што і тут будзе пуста і бязлюдна. Аднак яна памылілася. Пасярод залы стаяў вялікі трон, на якім спала маленькая жанчына. Але што за выгляд быў у яе! Даўно нячэсаныя і нямытыя валасы збіліся ў каўтуны, твар перапэцканы, на руках доўгія недагледжаныя пазногці. Адзенне — кароткая, у тлустых плямах спаднічка і некалі белая, а цяпер брудна-шэрая кофтачка,— відаць, даўно не мянялася і не мылася.

"Няўжо яна і ёсць Валадарка краіны Лясоніі?" — падумала Карына, са здзіўленнем разглядаючы жанчыну.

Але даведацца гэта можна было, толькі разбудзіўшы яе.

— Добры дзень, Ваша Вялікасць,— не вельмі гучна, каб не напалохаць соню, сказала Карына.— Прабачце, што патрывожыла Вас.

Жанчына паволі расплюшчыла вочы і недаўменна ўтаропілася ў дзяўчынку.

— Хто ты і як пасмела разбудзіць мяне? — сонным, незадаволеным голасам спытала яна.

— Я шукаю двух жыхароў Вашай краіны, якія...— пачала тлумачыць Карына, але Вірынея (цяпер дзяўчынка ўжо не сумнявалася, хто перад ёй) перабіла яе, адначасова пазяхаючы і пры гэтым нават не прыкрываючы рукою рот:

— Якая на табе прыгожая сукенка! Калі яе парэзаць, якраз хопіць матэрыялу на дзве сукенкі для мяне.

— А ў чым жа, па-вашаму, тады буду хадзіць я? — не вельмі ветліва спытала Карына.

— А ты можаш утачыць маю вопратку. У мяне яе процьма.

— Вось ужо чаго мне дакладна не хочацца, дык гэта ўточваць і насіць Ваша адзенне,— зусім асмялела Карына.

— Як? Ты не хочаш насіць тое, што насіла я, Вірынея? — здзіўлена і ў той жа час пагрозліва спытала Валадарка Лясоніі.

— Не хачу,— пакруціла галавой Карына.— Яно бруднае!

— Ну і што? — паціснула плячыма Вірынея.— Любое адзенне становіцца брудным, калі яго доўга не мыць.

— І Вам, жанчыне, пра гэта не сорамна гаварыць? — не вытрымала Карына.

Сказаўшы так, яна падумала, што Вірынея раскрычыцца і пачне пагражаць турмою, а можа яшчэ горшымі страхоццямі ("Ну, мы яшчэ паглядзім, ці так проста будзе выканаць гэтыя пагрозы!" — абнадзеіла сябе дзяўчынка, узгадаўшы, што ў Лясоніі з-за гультайства нічога не робіцца хутка і талкова), аднак Вірынея цяжка ўздыхнула і нечакана прызналася:

— Сорамна. Як ты думаеш, чаму ў маім палацы так цёмна? — спытала яна даверліва.

— Таму, што Вы лянуецеся расчыніць аканіцы,— не доўга думаючы, адказала дзяўчынка.

— Не,— сумна ўсміхнулася Вірынея.— Гэта маглі б зрабіць і мае слугі. Цёмна, каб не было відаць, які тут бруд і беспарадак.

— Чаму ж Вы не загадаеце сваім слугам прыбраць тут усё і вымыць? — спытала Карына,

— Хм, я Валадарка Краіны Гультаёў і павінна адпавядаць свайму статусу,— растлумачыла Вірынея, і ў яе голасе не адчувал ася асаблівага шкадавання.

— Няўжо жаданне займаць гэты трон можа быць вышэй за жаданне адчуваць сябе сапраўднай жанчынай — прыгожа апранацца, фарбаваць вусны? — задумліва прамовіла Карына.

— Замаўчы! — усклікнула Вірынея.— Я ўжо забылася, што такое фарбаваць вусны. І калі б не ты!.. Гавары, што цябе сюды прывяло?.. Чысцюлька!..

— Я ж ужо казала,— уздыхнула Карына,— што шукаю двух жыхароў Вашай краіны. Яны ўкралі...

— Усё ясна,— не даслухаўшы, перабіла Карыну Вірынея,— украсці маглі толькі Фірс і Мітрох. Ніхто іншы з лясонаў пальцам не паварушыць, каб падняць тое, што нехта згубіў, а залезці ў чужую кішэню тым больш. Дык што яны ў цябе ўкралі?

— У мяне — нічога,— пакруціла галавой Карына.

— Як нічога? — не зразумела Вірынея.— Навошта ж ты тады нагаворваеш на сумленных лясонаў?

— Я не нагаворваю,— пакрыўджана сказала Карына.— Яны ўкралі не ў мяне, а... у аднаго майго сябра, які жыве ў Далініі.

— А, у Далініі! — пагардліва прамовіла Вірынея.— Я не магу несці адказнасць за тое, што адбываецца ў Далініі.

— Але ж укралі лясоны! — нагадала Карына.

— Хто ўкраў, мяне не цікавіць, таму што гэта было на тэрыторыі іншай краіны,— упарта паўтарыла Вірынея.

— Але ж гэта несправядліва,— заўважыла Карына.

— Якраз такі і справядліва,— запярэчыла Вірынея.— Што я буду мець з таго, што загадаю вярнуць нейкаму далінцу яго рэч? А можа, ён сам згубіў яе? Можа, яна вывалілася з яго кішэні? Хто дакажа, што яе ўкралі?

— Яна не магла вываліцца з кішэні,— пасля кароткай паузы сумна адказала Карына.— Гэта быў посах.

— Які посах? — насцярожылася Вірынея.

— Упрыгожаны залатымі каменьчыкамі.

Апошнія словы Карына прамовіла так, быццам гаворка ішла пра звычайныя каменьчыкі, якія валяюцца на дарозе.

Але, пачуўшы пра золата, Вірынея захвалявалася і заёрзала на троне.

— Так і быць,— сказала яна,— я загадаю прывесці сюды гэтых двух злодзеяў, а пасля падумаю, што рабіць з украдзеным посахам.

І Валадарка затрэсла званочкам, які вісеў на тоненькай нітцы над яе тронам. Яна трэсла доўга, у Карыны аж зазвінела ў вушах. Нарэшце Вірынея адпусціла званочак і заплюшчыла вочы, быццам сабралася падрамаць.

— Па-мойму, Вас не пачулі,— крыху счакаўшы, нясмела заўважыла Карына.

— Пачулі,— абыякава адказала Вірынея.— Але пакуль гэтыя гультаі расчухаюцца, пройдзе хвілін дзесяць.

І праўда, толькі хвілін праз дзесяць расчыніліся дзверы бакавога пакоя, і ў троннай зале з'явіліся двое заспаных слуг у паношаных камізэльках у цёмна-зялёныя пасачкі і чорных штанах, якія наўрад ці калі прасавалі. Моўчкі пакланіўшыся Вірынеі, слугі сталі чакаць яе загаду.

— Вось што,— грозна прамовіла Валадарка краіны,— знайдзіце і прывядзіце сюды Фірса і Мітроха. І няхай прыхопяць з сабой украдзены посах.

— І, калі ласка, загадайце ім, каб яны прывялі злодзеяў як мага хутчэй,— ціха папрасіла Вірынею Карына.

— Ды ідзіце прамой дарогай, а не той, што вядзе ў абыход усіх вёсак,— прабурчала Вірынея.

— Як скажаце, Ваша Вялікасць. Вядома, калі б у нас былі крылы, мы маглі б рухацца, зусім не разбіраючы дарог, але не хвалюйцеся, мы і так не прымусім Вас доўга чакаць,— хітра прыжмурыўшыся, сказалі слугі і няспешна пакінулі палац.

— Ну вось, заўтра, ці, у крайнім выпадку, паслязаўтра яны прывядуць злодзеяў,— задаволена сказала Вірынея.

— Калі?! — усклікнула Карына.

— Заўтра ці паслязаўтра,— спакойна паўтарыла Яе Вялікасць.— Ты ж сама хацела, каб я іх прыспешыла.

## 12. ПЕРАМЕНЫ Ў ПАЛАЦЫ

Карыне надакучыла сядзець без справы, чакаючы, пакуль слугі прывядуць злодзеяў, і яна спытала ў валадаркі Лясоніі:

— А можна, я расчыню аканіцы, хоць ненадоўга? Я недзе чытала, што калі ўвесь час знаходзіцца ў цёмным пакоі, то псуецца зрок.

Праўда, Карына не была да канца ўпэўнена, што менавіта так там было напісана, але цяпер гэта не мела асаблівага значэння.

— Няўжо? — недаверліва і ў той жа час трывожна сказала Вірынея.— Ты ведаеш, колькі месяцаў я сяджу ў гэтым палацы? Думает, я стала кепска бачыць? Не трэба верыць усяму, што ты чытаеш. Вось у нас на дзвярах школы напісана: "Магазін", але кожны ведае, што ніякага магазіна ў Лясоніі няма.

— Гэта толькі ў Вашай краіне такое можа быць,— фыркнула Карына.— Быццам я пра сябе пякуся,— з крыўдай у голасе дадала яна.

— Добра, калі табе так хочацца, расчыні,— крыху падумаўшы, дазволіла Вірынея.— Хоць я цярпець не магу, калі хто-небудзь лезе не ў сваю справу.

Карына расчыніла аканіцы, паглядзела вакол сябе і не змагла ўтрымацца, каб не ўсклікнуць:

— Ах, як тут брудна! Мусіць, у палацы не прыбіралі некалькі месяцаў?!

— Што значыць, "некалькі месяцаў"? Тут яшчэ ні разу не прыбіралі.— Вірынея старалася гаварыць абыякавым тонам, але па яе вачах было відаць, што і ёй не вельмі прыемна бачыць вакол столькі бруду.

— Раз мне ўсё роўна цяпер няма чаго рабіць, можна, я падмяту і памыю падлогу? — спытала Карына.

— Ты хіба не баішся, што з цябе будуць смяяцца мае слугі? — здзівілася Вірынея.

— Мне няма чаго баяцца,— адказала Карына.— Я прыйшла сюды з краіны, дзе ўсе працуюць. І некаторым гэта нават падабаецца.

Атрымаўшы дазвол Вірынеі, Карына ўзялася за работу. Праз некалькі гадзін падлога ў тронная зале блішчэла, як добра наваксаваны чаравік.

Падмацаваўшыся халоднымі і крыху падгарэлымі (о, хіба цяпер гэта мела нейкае значэнне!) блінчыкамі са смятанай, якія па загадзе Вірынеі прынясла Карыне пульхная кухарка, дзяўчынка занялася вокнамі. Пад вечар і яны пазбавіліся ад бруду і пылу і сталі прапускаць у залу значна больш святла.

Вірынея не хавала свайго задавальнення. Валадарка Лясоніі правяла Карыну ў адну са сваіх спальняў і прапанавала ёй мяккую пасцель. Праўда, пасцель нехта разаслаў абыяк, і навалачку на падушку чамусьці нацягнулі на левы бок, але такой бяды — Карына хутка зрабіла ўсё як належыць і заснула моцным сном, які звычайна заўсёды бывае пасля доўгай дарогі і нялёгкай працы.

Нараніцу дзяўчынка перш-наперш накіравалася на кухню і вырашыла сама прыгатаваць сняданак, не вельмі спадзеючыся на гультаяватых кухарак, якія, пэўна, яшчэ спалі.

Не прайшло і гадзіны, як па ўсім палацы паплыў прыемны пах смачнага сняданку. Першай ад яго прачнулася Вірынея і доўга не магла даўмецца, што так дзіўна — аж слінкі цякуць — пахне.

Затым прачнуліся кухаркі. Яны хоць і былі гультаяватымі і самі ніколі не гатавалі нічога радобнага, аднак адразу здагадаліся, што гэта пахнуць смажаная бульба і грыбны суп. Проста ў начных сарочках і пантоплях кухаркі кінуліся на кухню. Услед за імі з'явілася Вірынея.

Карына запрасіла Яе Вялікасць за стол і паставіла перад ёй сняданак. Вірынея зачэрпнула лыжку грыбнога супу, паспытала і нават заплюшчыла вочы ад задавальнення.

— Ах, як смачна! — нарэшце сказала яна.

— Калі б мы не былі гультайкамі,— уздыхнулі кухаркі,— мы маглі б кожны дзень гатаваць смачныя стравы.

— А вы ўмееце? — здзівілася Карына.

— Вядома, умеем! — у адзін голас адказалі кухаркі.

— Па-мойму, можна хаця б раз у некалькі дзён гатаваць смачныя стравы і пры гэтым заставацца гультайкамі,— пасля кароткай паузы сказала Карына.— Так, Ваша Вялікасць? — звярнулася яна да Вірынеі.

— Я лічу, што іх проста неабходна гатаваць,— кіўнула Валадарка Лясоніі, аплятаючы грыбны суп за абедзве шчакі.

Як след падмацаваўшыся і сама, Карына ўспомніла, што сёння яшчэ не мылася, і спытала ў ад ной з кухарак, прыгожай доўгавалосай дзяўчыны, ці ёсць у палацы ванны пакой.

— Ёсць,— адказала маладая кухарка.— Праўда, ім ніхто ніколі не карыстаецца.

"Ну, у гэтым я амаль не сумнявалася",— падумала Карына, а ўголас прамовіла:

— Галоўнае, каб у ім была вада.

— Вада ў ім павінна быць,— супакоіла Карыну кухарка і адвяла яе ў ванны пакой, большую частку якога займала чыгунная ванна. Для маленькіх лясонаў яе памеры былі вельмі нават унушальныя, але калі б Карына вырашыла пакупацца, то дзяўчынцы давялося б сядзець у ёй сагнуўшы калені.

Карына пакруціла кранік і падставіла пад яго палец.

— Ой, вада нават цёплая! — радасна ўсклікнула яна.

— Гэта ад сонца,— патлумачыла маладая кухарка.— Вада з зямлі паступае ў бочку, якая знаходзіцца на даху. У ёй яна за дзень награецца так, што за ноч не паспявае астываць.

Карына старанна памыла твар і рукі і пашукала вачыма ручнік, але яго ў ванным пакоі не аказалася.

"Вядома,— падумала дзяўчынка,— адкуль ён будзе, калі тут ніхто не мыецца. Давядзецца так сохнуць".

Карына паглядзела на кухарку: няўжо яна ніколі не мыецца? І няўжо яна гатуе ежу бруднымі рукамі?

Але і твар, і рукі дзяўчыны падаліся ёй бездакорна чыстымі. Як і яе блакітная сукенка — праўда, у некалькіх месцах залатаная.

"Значыць, Вірынея перабольшвала, калі гаварыла, што ўсе яе слугі такія ж неахайныя, як і яна,— вырашыла Карына.— Бедная, яна так трасецца за свой трон, што гатова ахвяраваць усім, абы ніхто не падумаў, быццам яна не самая вялікая гультайка ў гэтай краіне!"

Карына вырашыла зноў пабачыцца з Валадаркай Лясоніі. Следам за ёй з ваннага пакоя выйшла і маладая кухарка. У гэты момант міма іх да выхада з палаца важна прайшоўся маленькі дзядок у чорным фраку і з папкай у руках.

— А што гэта ў яго ў роце? — здзіўлена спытала Карына.

— Соска,— абыякава адказала кухарка.

— Соска? — Карына ледзь стрымалася, каб не засмяяцца.

— Ну, вядома,— сказала кухарка такім тонам, быццам усе дзядулі ў Лясоніі смакталі соскі.— Гэта Галоўны Захавальнік Дзяржаўных Таямніц,— панізіўшы голас, патлумачыла яна.— Ён заўсёды, пакідаючы свой дом, бярэ з сабою соску, якую мае права вынуць з рота толькі тады, калі размаўляе з Яе Вялікасцю.

— Чаму? — спытала Карына.

— Каб выпадкова не выдаць каму-небудзь якую-небудзь дзяржаўную таямніцу.

Следам за Галоўным Захавальнікам Дзяржаўных Таямніц з троннай залы выйшаў яшчэ адзін маленькі дзядок — таксама ў чорным фраку і з папкай пад пахай. Твар яго быў задумлівы і змрочны. Праходзячы міма Карыны і кухаркі, дзядок раздражнёна вымавіў:

— Падумаць толькі! Ёй захацелася новую сукенку! Што пра яе падумаюць падданыя?!

— А гэта хто такі? — спытала Карына ў кухаркі.

— Гэта Галоўны Дарадца Яе Вялікасці,— адказала дзяўчына.

— І што ён раіць? — праводзячы дзядка цікаўным позеркам, спытала Карына.

— Усё, што можа быць карысным Яе Вялікасці,— сказала кухарка.— Раз у год Вірынея прымае Галоўнага Дарадцу з дакладам, у якім ён раіць, што рабіць, каб нічога не рабіць і жыць яшчэ лепш.

Відаць, яго парады на гэты раз не вельмі спадабаліся Яе Вялікасці, калі ён такі змрочны,— заўважыла Карына.

У тронную залу яна ўвайшла адна, а кухарка вярнулася на кухню.

Вірынея сядзела на троне, задумліва пазіраючы ў акенца, праз якое ў залу прабіваліся ранішнія промні сонца.

— Ах, Ваша Вялікасць! — з парога ўсклікнула Карына.— Я і не думала, што ў Вашым палацы ёсць цёплая вада! Мне здаецца, Вы б таксама зараз не адмовіліся прыняць ванну.

— Ты зноў пачынаеш гаварыць розныя глупствы,— прабурчала Вірынея.— Што падумаюць пра мяне слугі, калі ўбачаць, што я мыюся ў ваннай?

— Па-мойму, яны памруць ад зайздрасці,— сама сабе сказала Карына, а ўголас прамовіла: — Вядома, Вашай Вялікасці самой гэтым займацца не да твару. Але, калі Вы не супраць, я магу паслужыць Вам. Можаце не сумнявацца, Ваша рэпутацыя самай вялікай гультайкі Лясоніі не пацерпіць. Я ўсё зраблю сама, Вам не давядзецца і пальцам паварушыць.

Прапанова Карыны была такой заманлівай, а тон такім пераканаўчым, што Вірынея не стала ўпарціцца, толькі няшчыра ўздыхнула:

— Ах, ну хіба што... Раз ты так дамагаешся і абяцаеш...

— Вы толькі паглядзіце — няўжо гэта Яе Вялікасць? Не можа быць! Якая яна харошанькая! А валасы, паглядзіце, якія пышныя ў Яе валасы! — шапталіся служанкі, калі Вірынея выйшла з ваннага пакоя і разам з Карынай няспешна накіравалася ў тронную залу. Чыстая, у свежавымытай і высушанай на сонцы белай сукенцы, яна выглядала значна маладзейшай, чым была зусім нядаўна.

Ідучы, Вірынея баялася пачуць у свой адрас ціхія насмешкі і кпіны, маўляў, вось яна якая, наша Валадарка,— толькі прыкідвалася, што яна самая вялікая гультайка і неахайніца ў свеце, а на самай справе вунь што творыць. Аднак з усіх бакоў чуліся толькі здзіўленыя воклічы і захапленне.

Карына таксама была здзіўлена тымі пераменамі, якія адбыліся з Вірынеяй, аб чым некалькі разоў паўтарыла Яе Вялікасці.

"Ну што ж,— вырашыла дзяўчынка,— не будзем спыняцца на паўдарозе. У палацы трэба ўсё давесці да ладу. Можа, тады я змагу даказаць лясонам, што ганарыцца сваім гультайствам неразумна".

Пад вечар палац было не пазнаць. Ён зіхацеў так, што Вірынея з непрывычкі жмурылася і, пераходзячы з ад наго пакоя ў другі, захоплена ўсклiквала:

— Ах!

Следам за ёю хадзілі слугі і таксама ўсклiквалі:

— Ах!

## 13. ЗНІКНЕННЕ КАРЫНЫ

Заставалася яшчэ залатаць дзірку ў столі, і тады ў палацы не сорамна было б прымаць самых высокіх гасцей з розных краінаў.

Аднак без мужчынскіх рук з такой работай справіцца было няпроста, і Карына пачала думаць, як прымусіць прыдворных лясонаў залезці на дах палаца і адрамантаваць яго, каб у той жа час не зачапіць іх гультайскае самалюбства.

Пэўна, дзяўчынка ўсё ж нешта прыдумала б, але тут парадныя дзверы палаца расчыніліся, і парог пераступілі двое слуг Яе Вялікасці, якія вялі Мітроха і Фірса.

Хоць для Карыны ўсе лясоны знешне былі вельмі падобныя паміж сабой, яна адразу пазнала злодзеяў. Больш за ўсё дзяўчынку ўсцешыла тое, што адзін з іх трымаў залаты посах. Мітроха і Фірса павялі ў тронную залу. Як толькі злодзеі ўбачылі валадарку Лясоніі, іх твары выцягнуліся ад здзіўлення.

— Хто гэта? — прашаптаў Мітрох.

— Думаеш, гэта не Вірынея? — прамармытаў Фірс.

— А што здарылася з яе валасамі і… і тварам? — яшчэ цішэй прагаварыў Мітрох.

— А можа, яна ўжо навучылася чараваць? — спалохана сказаў Фірс.— Паглядзі, як змяніўся палац. Хіба сам па сабе ён мог бы так змяніцца?

Яе Вялікасць кінула строгі позірк на злодзеяў і сказала:

— Як вы пасмелі скрыць ад мяне тое, што былі ў Далініі і ўкралі там залаты посах?

— Ваша Вялікасць,— паспешліва прамовіў Ор,— мы не збіраліся нічога скрываць. Наадварот, мы ўжо і самі хацелі ісці да Вас, каб падарыць Вам залаты посах.

— А тут з'явіліся Вашы слугі і сталі крычаць на нас, падганяць,— дадаў Фірс.

— Вы хацелі падарыць залаты посах мне? — сумелася Вірынея, нібы не адчуваючы ў голасе маленькіх злодзеяў ніякага фальшу.

— Ну, вядома,— заківалі галовамі Мітрох і Фірс. Карына здзіўлена паглядзела на Вірынею: няўжо яна не разумее, што яны маняць? Але Валадарка Лясоніі не звяртала ніякай увагі на дзяўчынку. Яна працягнула руку злодзеям і сказала:

— Што ж, давайце яго сюды.

Мітрох са шкадаваннем аддаў Вірынеі залаты посах.

— Ваша Вялікасць, вы абяцалі вярнуць яго майму сябру,— занепакоілася Карына.

— Хм, але цяпер гэта ўжо мой падарунак,— задумліва сказала Вірынея, з цікавасцю разглядаючы залаты посах.

— Але ж ён украдзены! — нагадала Карына.

— Не ведаю, ці маеш права ты цяпер патрабаваць яго назад,— паморшчылася Валадарка Лясоніі.— Пакуль ён быў проста ўкрадзенай рэччу, то, безумоўна, належаў твайму сябру. Але цяпер, калі стаў падарункам, ён як бы ўжо і не яму належыць, а мне.

У голасе Яе Вялікасці з'яўлялася ўсё больш упэўненасці, і Карына зразумела, што цяпер, калі чароўным побахам завалодала Вірынея, вярнуць яго Ліну будзе значна цяжэй, чым калі б ён знаходзіўся ў руках маленькіх злодзеяў.

І тут Карыне прыйшла ў галаву выратавальная ідэя.

Дзяўчынка знарок цяжка ўздыхнула і сказала:

— А мой сябар вельмі даражыў ім, бо посах мае чароўную сілу.

Заўважыўшы на твары валадаркі Лясоніі насцярогу, Карына паспешна дадала:

— Напрыклад, ён можа ператварыць Ваш драўляны трон у трон з чыстага золата.

("Я яшчэ ніколі так не махлявала",— падумала яна.)

— А ты ведаеш, як ім карыстацца? — нецярпліва спытала Вірынея.

— О, гэта вельмі проста! — усклікнула Карына, з цяжкасцю хаваючы сваё хваляванне.— Дазвольце, Ваша Вялікасць, я пакажу Вам.

І яна працягнула руку.

Вірынея некалькі хвілін сядзела нерухома, быццам западозрыла нядобрае. Яе вялікія вочы бегалі сюды-туды — Валадарка Лясоніі пра нешта напружана думала.

Карына ўжо хацела апусціць руку, але тут Вірынея ўздыхнула і сказала:

— Добра, паглядзім, што ў цябе атрымаецца. Яна паднялася з трона і перадала посах Карыне. Дзяўчынцы толькі гэта і трэба было. Яна абвяла развітальным позіркам тронную залу і сказала, звяртаючыся да Вірынеі:

— Дзякуй Вам, Ваша Вялікасць!

І павярнула колца на чароўным посаху.

У гэты момант Вірынея раскрыла рот, каб нешта сказаць Карыне, ды так і застыла, не ў сілах вымавіць хоць слова — на тым месцы, дзе толькі што стаяла дзяўчынка, нікога не было.

## 14. ПЕРШЫ І АДЗІНЫ АСТРАНОМ-ГЕОГРАФ ЯЕ ВЯЛІКАСЦІ

Усё адбылося так хутка, што Карына нават не паспела нічога зразумець — у вачах на імгненне стала цёмна, і быццам бы нейкая невядомая сіла рэзка падняла яе ў паветра і тут жа апусціла назад.

— Ай! — усклікнула дзяўчынка.

— Ай! — пачулася зусім побач.

Гэта спалохана крыкнуў Лін, перад якім невядома адкуль і як з'явілася Карына.

Разам з Лінам каля яго доміка стаялі Граня і двое незнаемых Карыне далінцаў — па іх шырокіх ратах было няцяжка здагадацца, што гэта бацькі маленькага скарбніка.

— Ты вярнулася! — узрадаваўся Лін, які яшчэ хвіліну таму няўцешна сумаваў, дакараючы сябе за тое, што пакінуў без нагляду чароўны посах.

Карына падрабязна расказала, як ёй давялося пабываць у Лясоніі.

— Дзякуй, дзіцятка,— пяшчотна прамовіла Лінава Маці, пазіраючы на Карыну знізу ўверх, паколькі была ёй толькі да пояса.— А мы, прызнацца, падумалі, што гэта ты...— маленькая жанчына хацела сказаць "украла", але перадумала і сказала: — узяла чароўны посах.

— Я ж гаварыў вам, што яна не здатная на гэта! — умяшаўся Граня.— А вы мне не верылі.

Маленькая жанчына ўздыхнула, а Лінаў Бацька, які таксама адчуваў сваю няёмкасць перад дзяўчынкаю, паспяшаўся перамяніць тэму.

— Табе абавязкова трэба пайсці разам з намі да Урсулы,— сказаў ён.— Яна павінна ведаць, хто дапамог нам вярнуць ёй чароўны посах.

Праз некалькі хвілін скарбнікі і Карына з Гранем выйшлі на сцежку, якая вяла да палаца валадаркі Далініі. Чароўны посах нёс Лін, горда трымаючы яго ў руках, быццам дрэўка сцяга.

Палац знаходзіўся пасярод невялікага гарадка з маленькімі прыгожымі дамамі і зялёным скверыкам на галоўнай плошчы. Як і належыць палацу, у якім жыве Валадарка краіны, ён выдзяляўся сярод іншых пабудоў асаблівай раскошай і харавством. Сцены яго былі аздоблены ізумрудамі, перад парадным уваходам стаялі калоны, пакрытыя чыстым золатам, шкло ў вокнах пераліваласа на сонцы рознакаляровымі блікамі.

Галоўны Вартаўнік палаца, даведаўшыся пра мэту прыходу дзіўнай кампаніі, у якой было двое іншаземцаў, правёў усіх у вялікую залу і загадаў чакаць. Падлога, сцены, столь — усё ў зале зіхацела і пераліваласа рознымі колерамі, аж сляпіла вочы.

Праз хвіліну Галоўны Вартаўнік вярнуўся і запрасіў скарбнікаў прайсці следам за ім. Карына і Граня засталіся адны. Юныя падарожнікі паволі хадзілі па зале і дзівіліся то вялікімі карцінамі, якія паўсюль віселі на сценах, то вялікімі люстрамі, што звісалі з высокай столі.

Раптам з дзвярэй, за якімі нядаўна зніклі Галоўны Вартаўнік і скарбнікі, хутка выйшаў маленькі чалавечак паважнага ўзросту з глобусам у руцэ. Пазіраючы сабе пад ногі, ён наскочыў на Карыну і ад нечаканасці выпусціў з рук глобус.

— Ах, прабачце! — прамармытаў чалавечак, ускінуўшы рукі.— Я так задумаўся, што не заўважыў вас.

Карына падняла глобус і працягнула чалавечку.

— Дзякуй, дзякуй,— некалькі разоў паўтарыў той, беражліва прымаючы шар, размаляваны ў розныя колеры.

— Вы, напэўна, мясцовы настаўнік? — пацікавілася Карына.

— Настаўнік? Што вы! Я Першы і Адзіны Астраном-Географ Яе Вялікасці,— прадставіўся дзядок.

— Чаму Першы і Адзіны? — здзіўлена спытала Карына.

— Першы, таму што да мяне ніхто не займаў гэтую высокую пасаду,— растлумачыў вучоны.— А Адзіны, таму што ў нашай краіне няма іншых астраномаў і географаў. А гэта,— чалавечак паказаў на глобус,— гэта наша планета! Я вылічыў! Я правёў матэматычныя разлікі і вылічыў, што наша планета мае форму шара! Уяўляеце?

— Уяўляю,— кіўнула Карына, ледзьве хаваючы усмешку, а Граня толькі хмыкнуў, з цікавасцю разглядаючы дзядка.

— Вы мяне разумееце! Ніхто мяне дагэтуль не разумеў, ніхто мне не верыў, усе мяне называлі дзіваком, які на старасці з'ехаў з глузду, а вы... Вы разумееце мяне, вы верыце мне, я гэта бачу па вашых вачах!

— Але чаму я не павінна вам верыць? — паціснула плячыма Карына.— Вы ж не сказалі нічога...

— Вось! Вашы словы — гэта гаючая вада, якая вяртае мне душэўныя сілы! — усклікнуў Першы і Адзіны Астраном-Географ, перабіваючы дзяўчынку.— Але ўсе лічаць, што наша планета не можа быць круглай!

— Якое глупства! — засмяялася Карына.— Ды ў нас кожнаму школьніку вядома, што Зямля мае форму шара, праўда, крыху сплюснутага.

— Як? — расчаравана прамовіў дзядок.— У вас гэта вядома кожнаму школьніку?

— Даўно,— кіўнула Карына.

— Вы хочаце сказаць, што я не першы, хто вылічыў, што наша планета не плоская?! — не мог паверыць Першы і Адзіны Астраном-Географ.

— На жаль,— сказала Карына.— Яшчэ да нашай эры грэчаскія філосафы і астраномы былі перакананы, што Зямля круглая. Мала таго, ужо тады грэчаскі вучоны Эратасфен вылічыў даўжыню акружнасці зямнога шара, а вялікі астраном Пталемей у пачатку нашай эры даводзіў, што наша планета — шар, заключаны ў яшчэ большы шар нябеснага зводу.

Карына цікавілася астраноміяй, ведала шмат з таго, чаго яшчэ не расказвалі на уроках, і была рада, што ў яе з'явілася магчымасць лішні раз паказаць сваю дасведчанасць.

Не толькі Першы і Адзіны Астраном-Географ, але нават Граня слухаў яе разявіўшы рот.

— Да нашай эры... Эрата... Эратасфен... Даўжыня акружнасці...— слабым голасам паўтарыў дзядок.— А я лічыў, што зрабіў адкрыццё, і мае імя... Ах, як я памыліўся!.. А мне да таго ж ніхто не верыць...

— Не адчайвайцеся,— паспрабавала суцешыць дзлінца Карына.— У нас таксама не адразу ўсе паверылі, што Зямля круглая. За такія перакананні некаторых вучоных нават спальвалі на кастры.

— Спальвалі на кастры? — спалохана перапытаў дзядок, але тут жа схамянуўся і горда расправіў плечы.— Ісціну нельга спаліць на кастры. Вось, глядзіце,— ён пакруціў глобус.— Бачыце, я нанёс на яго ўсе вядомыя навуцы краіны. Вось ваша краіна, пазнаяце?

— Карына ўважліва паглядзела на тое месца, куды паказваў Першы і Адзіны Астраном-Географ і дзе вялікімі літарамі было напісана:

"*КРАІНА ВЕЛІКАНАЎ*".

Абрысы Краіны Веліканаў, афарбаваныя ў чырвоны колер, зусім не нагадвалі абрысы Беларусі ці суседніх з ёй краінаў, якія можна знайсці на школьных картах. Але дзяўчынка не хацела яшчэ больш засмучаць Астранома-Географа і сказала:

— Быццам бы так, падобная.

Тут яе позірк упаў на суседнія з Краінай Веліканаў дзяржавы.

"ДАЛІНІЯ" — прачытала Карына надпіс на вялікай, амаль такой жа, як і "яе" краіна, тэрыторыі, зафарбаванай у блакітны колер.

А побач, у заходнім накірунку, знаходзілася ў два разы меншая тэрыторыя зялёнага колеру.

"ЛЯСОНІЯ" — сведчыў надпіс. Яшчэ далей на захад размяшчалася краіна, зафарбаваная ў шэры колер.

"КРАІНА ВЕДЗЬМАЎ" — было пазначана на ёй.

## 15. ПАДАРУНАК УРСУЛЫ

У гэты момант дзверы, каля якіх стаялі Карына і Астраном-Географ Лясоніі, расчыніліся, на парозе з'явіўся Галоўны Вартаўнік і ўрачыста прамовіў:

— Гасцей з Краіны Веліканаў Яе Вялікасць кліча да сябе.

Праз хвіліну Карына і Граня апынуліся ў троннай зале.

Яна зіхацела так, быццам усё — сцены, падлога і столь — было пакрыта золатам. У кутку ў бліскучым крэсле маленькі музыкант ціха іграў на флейце. Мяккая прыемная музыка разлівалася па ўсёй зале.

У самым цэнтры залы на залатым троне сядзела Валадарка Далініі Урсула. Гэта была зусім яшчэ маладая жанчына са светлымі кучаравымі валасамі, якія закрывалі яе плечы. Доўгая паўпразрыстая сукенка Урсулы пераліваласяа каштоўнымі каменьчыкамі. У руках Валадарка Далініі трымала чароўны посах. Каля трона стаялі скарбнікі.

Урсула ўважліва паглядзела на гасцей і падзякавала Карыне, што тая дапамагла скарбнікам вярнуць посах. Затым Яе Вялікасць пацікавілася, куды і з якой мэтай накіроўваюцца падарожнікі. Атрымаўшы падрабязны адказ, Урсула доўга сядзела моўчкі, задумліва пазіраючы недзе міма Карыны і Грані. Нарэшце яна сказала:

— Кожны, хто хоць раз сустракаўся з ведзьмамі, стараецца трымацца ад іх далей. Пра іх вераломства вядома ва ўсім казачным свеце. Але ў вас, і праўда, няма іншага выйсця, як сустрэцца з Ганестай. Ніводная фея не зможа зняць вядзьмарскія чары. І ўсё ж я пастараюся дапамагчы вам.

З гэтымі словамі Урсула два разы гучна пляснула ў далоні, і ў троннай зале тут жа з'явіўся маленькі слуга ў бліскучым зялёным фраку і высокім капелюшы. Урсула нешта шапнула яму на вуха, слуга паспешна выйшаў, але праз хвіліну вярнуўся і працягнуў Яе Вялікасці дзве залатыя ніткі. Урсула сказала Карыне і Граню падысці да яе бліжэй і завязала ім на запясці левай рукі па нітцы.

— Цяпер,— прамовіла яна,— ніводная ведзьма не зможа вас зачараваць і ператварыць у каго-небудзь.

Падзякаваўшы Урсуле, Карына і Граня пакінулі палац. У след за імі з палаца выбег Лін.

— Я правяду вас да мяжы з Краінаю Ведзьмаў. Трэба ісці вось па гэтай дарозе,— ён паказаў на адну са шматлікіх сцежак і не стрымаўся, каб не пахваліцца: — Яе Вялікасць дазволіла маім бацькам зноў стаць Галоўнымі Кіраўнікамі Надвор'я!

— Значыць, ты цяпер таксама стаў чараўніком? — з зайздрасцю спытаў Граня.

— Не,— засмяяўся Лін,— пакуль я не вырасту, мне ніхто не даверыць ніводнага сакрэту, якім валодаюць чараўнікі. Мне яшчэ трэба шмат вучыцца.

— Ну, проста, як у нашай краіне,— уздыхнуў Граня.— Нідзе няма справядлівасці. Дарослыя толькі і ведаюць: вучыся, вучыся.

— Табе было б карысна пабываць у Лясоніі,— з лёгкім дакорам сказала Карына.— Ты б убачыў, да чаго даводзіць гультайства.

— Я не гультай,— пакрыўдзіўся Граня.— Думаеш, я нічога не разумею? Гэта дарослыя адно гавораць, што толькі і думаюць пра нас, хочуць, каб нам жылося лепш. А на самай справе думаюць найперш пра сябе. Вось скажы, ці забаронена дарослым рабіць што-небудзь, што можна дзецям?

Карына задумалася, але Граня не стаў чакаць адказу.

— Вядома, не! — усклікнуў ён.— Затое дзецям амаль нічога нельга з таго, што дазваляецца дарослым. Нам нельга, а дарослым можна хоць да раніцы сядзець у гасцях і не баяцца, што іх пасля за гэта адлупцуюць. Ім можна глядзець любыя фільмы, нават калі там увесь час страляюць. Ім можна самім вадзіць аўтамабіль, а мы павінны дабірацца ў школу на аўтобусах.

— Ну, гэта ты ўжо хапіў,— запярэчыла Карына.— Уяўляю, што было б, калі б табе дазволілі сесці за руль і выехаць на які-небудзь праспект.

— Ах, ах! Што было б! — перадражніў яе Граня.— Хіба цяжка прыдумаць для нас машыны, сапраўдныя, як у дарослых, але не такія складаныя? А хіба нельга зрабіць спецыяльныя дарожкі, на якіх мы маглі б вучыцца ездзіць? Тады кожны, пакуль вырасце, навучыўся б ездзіць так, што ў горадзе зусім не было б аварый.

— Значыць, ты ўсё ж згодны, што ўсяму спачатку трэба вучыцца? — з усмешкай спытаў у Грані Лін, які мала што зразумеў з яго апошніх слоў.

— Хіба я сказаў — усяму? — чмыхнуў Граня.— І вось яшчэ ўзялі за моду — вырашаць за мяне, колькі мне вучыцца і што трэба ведаць, а што не.

— Мой брат таксама так разважае,— уздыхнула Карына.

Як ён там цяпер? Хутчэй бы ўжо трапіць у гэтую Краіну Ведзьмаў.

— Бачыце на даляглядзе лес? — спытаў Лін.— Ад яго пачынаецца Краіна Ведзьмаў.

## 16. ГРАНЯ ПАЗНАЕ ВЕДЗЬМУ

Праз паўгадзіны падарожнікі падышлі да шырокай рэчкі.

— У гэтым месцы,— сказаў Лін, стоячы каля самай вады,— на той бок магу перайсці нават я, а вам будзе яшчэ прасцей.

Карына і Граня развіталіся з ім як з самым блізкім сябрам.

Вада ў рацэ была цёплая і, праўда, на ўсю шырыню ракі не падымалася вышэй калена, так што, зняўшы абутак, падарожнікі без праблем перайшлі на другі бераг.

— Памятаеш, што сказала знахарка? — нагадала Карына.— Кветка папараці павінна засохнуць тады, калі мы апынемся ў Краіне Ведзьмаў.

Дзяўчынка дастала з кішэні сваю кветку, якая, быццам попел, тут жа рассыпалася на далоні. Раптам наляцеў вецер і ў адно імгненне развеяў і тое, што засталося ад кветкі.

— А дзе твая? — спытала Карына ў Грані, са шкадаваннем пазіраючы на сваю пустую далонь.

— Згубіў,— прамармытаў Граня.— Адно ж не вельмі яна і патрэбная была. Мы і без яе трапілі ў Краіну Ведзьмаў.

Падарожнікі абуліся і рушылі да лесу, які падступаўся амаль да самай рэчкі. У лесе было ціха і змрочна. Густыя лапы высокіх дрэў спляталіся, хаваючы ад вачэй неба. Жорсткі папаратнік хвастаў па нагах, дастаючы да самых каленяў.

— Трэба шукаць сцежку,— сказала Карына.— У кожным лесе павінны быць сцежкі.

— А можа, мы першыя, каго занясло сюды,— зморшчыўся Граня.

— Затое будзе што расказаць дома,— не губляла аптымізму Карына.

— Ага, калі нам яшчэ павераць,— ухмыльнуўся Граня.— І калі мы не заблудзімся тут.

— Тады давай разыдземся ў розныя бакі,— прапанавала Карына.— Так мы хутчэй знойдзем калі не сцежку, то хаця б паляну, на якой можна адпачыць.

І падарожнікі рушылі ў глыб лесу, час ад часу перагукваючыся, быццам грыбнікі. Але колькі яны ні блукалі між дрэў, сцежкі нідзе не было — нібыта па гэтым лесе, і праўда, ніхто да іх не хадзіў.

Раптам нібы з-пад зямлі перад Карынаю з'явілася бабулька ў падраных, ношаных-пераношаных лахманах. Бабульчын твар быў сухі і выцягнуты, а на падбародку тырчэлі два доўгія сівыя валаскі.

— Што, прыгажуня, шукаеш у гэтым лесе? — спытала яна, хітра прыжмурыўшы маленькія вочы.

— Мы шукаем валадарку Краіны Ведзьмаў,— прастадушна адказала Карына, узрадаваная тым, што нарэшце ў лесе трапілася жывая душа.

Бабулька зіркнула па баках, заўважыла Граню і нядобра ўсміхнулася.

— Ну, што ж, я дапамагу вам,— прамармытала яна, і, дзіва, там, дзе толькі што быў густы папаратнік, раптам з'явілася добра вытаптаная сцежка.

— Ідзіце за мной,— сказала бабулька і, шоргаючы чаравікамі з завостранымі наскамі, пасунулася па сцежцы.

Карына пачакала Граню, і яны няспешна пайшлі следам за дзіўнай бабулькай.

Спачатку сцежка вяла прама, а пасля рэзка павярнула ўправа і ўперлася ў замшэлую, пахіленую хатку. Дах яе прагніў, а на коміне вароны звілі гняздо. Крывыя дзверы былі падпёртыя кіем.

— Вы, мусіць, стаміліся,— сказала падарожнікам бабулька.— То заходзьце ў хату, крыху адпачняце, а я, кхі-кхі,— закашлялася старая,— пачастую вас смачным абедам.

Яна адперла дзверы, паставіла кій каля сцяны і першай пераступіла парог. Але як толькі бабулька знікла за парогам, Граня схапіў кій і падпёр ім дзверы.

— Ты што?! — спалохана ўсклікнула Карына.— Што ты робіш?

— Уцякайма хутчэй! — крыкнуў хлопчык.— Я пазнаў яе!

— Каго ты пазнаў? — не магла зразумець Карына.

У гэты момант бабулька з усяе моцы загрукала ў дзверы.

— Адапрыце, падшыванцы! — грозна загадала яна.— Адапрыце, а то яператвару вас у нікчэмных мышэй!

— Як бы не так! — выгукнуў Граня, але, на ўсялякі выпадак, усё ж адступіў ад парога.— Будзеш сядзець там датуль, пакуль не здымеш чары з маёй рукі!

— Ты хочаш сказаць, што гэта тая самая Ведзьма? — здзіўлена спытала Карына.

— Ага,— кіўнуў Граня.— Я пазнаў яе.

— Вось я табе зараз здыму чары! — прыгразіла Ведзьма.— Пачакай, толькі выберуся.

За дзвярыма стала ціха, і раптам з шумам расчынілася маленькае акенца, у якім паказалася галава Ведзьмы.

— Ага-а! — закрычала галава.— Ну, пачакайце ж, галубчыкі!

Сказаўшы гэта, Ведзьма высунулася з акна па пояс і, узняўшы руку, пагрозліва прамовіла заклінанне:

— Шыма-дыма-шах!

Карына і Граня адчулі, як зямля пад імі здрыганулася, а залатыя ніткі, завязаныя Урсулай, апяклі запясце.

— Што такое? — усклікнула Ведзьма, калі ўбачыла, што яе чары не падзейнічалі.— Што такое? Вы павінны былі ператварыцца ў мышэй!

І яна пачала вылазіць праз акно, пакрэктваючы і папыхваючы.

— Уцякайма! — крыкнуў Граня.

Падарожнікі рынуліся назад па сцежцы, якая прывяла іх да Ведзьмінай хаткі. Але не паспелі яны адбегчыся і некалькі метраў, як сцежка раптам знікла — пад нагамі і вакол быў усё той жа калючы і высокі папаратнік. Ды Карына і Граня ўжо не зважалі на гэта і беглі, пакуль зусім не выбіліся з сіл.

## 17. ЗАЛАТЫ ПАВУК

— Так мы можам апынуцца яшчэ ў якой-небудзь краіне,— цяжка дыхаючы, сказаў Граня.— І што гэта за лес, у якім то з'яўляюцца, то прападаюць сцежкі!

— А вось і яшчэ адна,— разгублена сказала Карына.

І праўда, у некалькіх кроках ад іх ляжала віхлястая сцяжынка, хоць, здавалася, яшчэ хвіліну таму яе тут не было.

— Адкуль яна ўзялася? — недаўменна спытала дзяўчынка.

— Відаць, мы яе проста адразу не заўважылі,— не вельмі ўпэўнена прамовіў Граня.— Цікава толькі, куды яна вядзе?

— Куды б яна ні вяла,— уздыхнула Карына,— па ёй усё ж лягчэй ісці, чым па гэтым папаратніку, тым больш, мы ўсё роўна не ведаем, у якім баку жыве Валадарка Краіны Ведзьмаў.

Падарожнікі выбраліся на сцяжынку.

— Хоць бы знакі якія паставілі,— прабубніў Граня.

— Ага,— насмешліва падхапіла Карына.— "Налева пойдзеш — валадарку Краіны Ведзьмаў знойдзеш, направа пойдзеш..." Глянь! — раптам усклікнула яна і паказала рукой на каменны дом, які стаяў на палянцы метрах у ста ад іх — сцяжынка вяла проста да яго.

Падарожнікі моўчкі наблізіліся да дома і пераглянуліся ў нерашучасці. Затым Карына працягнула руку да цяжкіх дубовых дзвярэй, каб пастукацца. Але не паспела яна дакрануцца да іх, як дзверы нехаця, з працяглым і пагрозлівым скрыпам расчыніліся.

Карына і Граня асцярожна ступілі за парог і апынуліся ў вялікім змрочным пакоі, пасярод якога ляжаў доўгавалосы хлопец, звязаны па руках і нагах вяроўкамі. Вакол хлопца на падлозе былі раскіданы залатыя камяні.

— Дапамажыце! — прыўзняўшы галаву, дрыготкім голасам папрасіў Доўгавалосы.

Карына і Граня патапталіся на месцы і нясмела падышлі бліжэй да небаракі.

— Дапамажыце,— паўтарыў той, але ўжо больш настойліва.— Хутчэй, чаго вы стаіце! Не марудзьце!

Падарожнікі пераглянуліся і, апусціўшыся на калені, пачалі паспешліва развязваць Доўгавалосага. Спачатку ў іх нічога не атрымлівалася — вузлы былі заціснуты вельмі моцна, а Граня да таго ж мог працаваць толькі адной рукой.

— Што гэта за вяроўкі такія? — не вытрымаў ён.— Нейкія слізкія, фу...

— Гэта павуціна,— уздыхнуў Доўгавалосы.

— Такая тоўстая? — аж здрыганулася Карына.— Які ж тады сам павук?

Але хлопец нібы не пачуў пытання, адно падганяў:

— Хутчэй, хутчэй!

Раптам Карына звярнула ўвагу на левую руку Доўгавалосага — на безыменным пальцы быў пярсцёнак з крышталікам, у якім пагойдвалася рыбіна вока. Дзяўчынка адразу ж успомніла словы знахаркі, што Ведзьма можаператварацца ў каго заўгодна, але яе заўсёды можна пазнаць па такім пярсцёнку. Карына разгубілася: няўжо гэты хлопец на самай справе ведзьма? Але хто і навошта яго звязаў?

Яна зірнула на Граню: чаму ён не звяртае ўвагі на пярсцёнак? Забыўся пра знахарчына папярэджанне?

Як толькі яны развязалі Доўгавалосага, той адразу падхапіўся на ногі і сказаў:

— Добра, што вы зайшлі ў гэты дом. Я ляжаў тут двое сутак і ўжо не спадзяваўся, што нехта дапаможа мне выбрацца адсюль. Вось залатыя камяні, вазьміце колькі хочаце.

— А хто вас...— пачаў Граня, але Карына перабіла яго.

— Дзякуй, нам не трэба золата,— паспешна адмовілася яна.

— Што значыць "не трэба"? — занепакоіўся хлопец.— Яшчэ ніхто ніколі ад яго не адмаўляўся! Золата — гэта... гэта такое багацце, якое вам і не снілася!

— Нічога нам не трэба,— упарта паўтарыла Карына і ўзяла Граню за руку.

Калі не трэба вам, то спатрэбіцца вашым бацькам. Яны-то вам дзякуй не скажуць, калі дазнаюцца, што вы адмовіліся ад такога багацця.

Але Карына ўжо цягнула Граню да парога. І толькі каля самых дзвярэй спынілася і, азірнуўшыся, насцярожана спытала ў Доўгавалосага:

— Скажыце, а хто вас так звязаў?

— О, лепш вам не сустракацца з ім! — папярэдзіў Доўгавалосы.— Залаты Павук не любіць чужынцаў.

— Залаты Павук? — у адзін голас усклікнулі Карына і Граня.

— Так, ён гаспадар гэтага лесу,— кіўнуў хлопец.— І калі даведаецца, што вы трапілі ў яго ўладанні, не пакіне вас жывымі. Спачатку ён апляце вас сваей павуцінай — слізкай і тоўстай. Затым пачне высмоктваць з вас кроў, але не ўсю адразу, а... Ціха! — Доўгавалосы прыклаў палец да вуснаў.— Здаецца, ён вяртаецца! Ён вяртаецца!

І хлопец з перакошаным ад страху тварам выскачыў з каменнага дому. Падарожнікі кінуліся за ім, але ён як скрозь зямлю праваліўся.

— Што будзем рабіць? — дрыготкім голасам спытаў Граня.— У які бок уцякаць?

— Пачакай,— ціха сказала Карына,— здаецца, гэта быў ніякі не хлопец.

— А хто?

— Гэта была Ведзьма. Я бачыла ў яе на пальцы пярсцёнак з крышталікам, у якім плавала рыбіна вока. Так што, можа, ніякага Залатога Павука тут і няма, Ведзьма ўсё выдумала.

Але толькі Карына прамовіла гэтыя словы, як у гушчары пачулася нечае цяжкае сапенне. У наступнае імгненне з-за кустоў вылезла страшная пачвара — велізарны Павук, спіна якога зіхацела золатам.

— Залаты Павук! — жахнуўся Граня.

Яны не сталі марудзіць і кінуліся наўцёк. Залаты Павук аказаўся не такі хуткі і праз некалькі хвілін застаўся далёка ззаду.

## 18. ДЗІЎНЫ ЗАМАК

— А ты казала, што ніякага Залатога Павука ў гэтым лесе няма,— нагадаў Граня, калі яны, зняможаныя ўцёкамі, схаваліся пад кашлатай елкай.

— Мне здаецца, усё гэта хітрыкі Ведзьмы,— сказала Карына.

— І Залаты Павук? — засумняваўся Граня.

— І Залаты Павук,— кіўнула Карына.— Нездарма ён з'явіўся пасля таго, як знік той... хлопец. Відаць, Ведзьма не вельмі хоча, каб мы дайшлі да валадаркі гэтай краіны. Разумееш?

— Я толькі разумею, што хто б там ні быў, Павук ці Ведзьма, але калі ён нас дагоніць, ні табе, ні мне мала не падасца,— ухмыльнуўся Граня.

— Затое цяпер можна спадзявацца, што Валадарка гэтай краіны нам усё ж дапаможа, раз Ведзьма перашкаджае сустрэцца з ёй.

— Ага, толькі тую валадарку яшчэ знайсці трэба! Я не здзіўлюся, калі ў наступны раз Ведзьма ператворыцца ў якога-небудзь лятучага мядзведзя. Ад яго не вельмі ўцячэш! Глянь,— Граня паказаў на зараснікі малінніку,— колькі тут маліны. Не хочаш пакаштаваць?

— А раптам яна атручаная? — засумнявалася Карына.

— Баязліўка!

Граня не мог не скарыстаць магчымасць, каб хоць тут паказаць свае геройства, і першы адправіў у рот цэлую жменю ягад.

— Смачная! — радасна ўсклікнуў ён.

Праз імгненне падарожнікі ўжо рвалі ягады ў чатыры рукі, пакуль уволю не наеліся маліны, надзіва буйнай і салодкай.

Тым часам насунуўся вечар, і ў лесе стала зусім цёмна. Карына і Граня вырашылі пераначаваць пад разлапістай елкай. Яны стаміліся так, што заснулі адразу ж, і прачнуліся толькі тады, калі зусім развіднела.

Падарожнікі зноў паелі салодкай маліны і рушылі далей.

Хутка яны патрапілі на сцежку, шырокую і добра ўтаптаную,— ісці стала лягчэй і весялей.

Раптам Карына і Граня ўбачылі вельмі мурзатую дзяўчынку гадоў васьмі з рыжымі раскудлачанымі валасамі. Яна сядзела пад дрэвам і ела сыраежку, адкусваючы ад грыба па каліву.

— Ты не скажаш, як нам знайсці валадарку Краіны Ведзьмаў? — звярнулася да яе Карына.

— А што там шукаць,— не перастаючы жаваць, адказала тая грубым недзіцячым голасам.— Ідзіце так, як ішлі, і гэтая дарога прывядзе вас да яе палаца.

Падарожнікі падзякавалі Рыжай Дзяўчынцы, але як толькі крыху адышліся, Карына задумліва прамовіла:

— Дзіўны ў яе голас — як у старой. І пярсцёнак... Ты бачыў на яе руцэ пярсцёнак з рыбіным вокам? — трывожна спытала яна ў Грані.

— Бачыў! А можа, гэта была малая ведзьма? Знахарка гаварыла, што ўсе ведзьмы носяць пярсцёнкі з рыбіным вокам.

Сцяжынка некалькі разоў паварочвала то ўлева, то управа, пакуль перад падарожнікамі, як і абяцала Рыжая Дзяўчынка, не паўстаў вялікі дом. Праўда, зусім не велічны, як гэта звычайна бывае з апартаментамі казачных валадароў. Бярвенні былі складзены так, што сям-там у сценах засталіся шчыліны.

Толькі падарожнікі наблізіліся да дома, як з яго шырокіх дзвярэй выйшла маладая жанчына, маленькая, вастраносая, у доўгай чорнай сукенцы і старых чаравіках з завостранымі наскамі — ну, зусім як у Ведзьмы, што заявілася ў іх горад.

— Хто вы такія і што вас прывяло да мяне, валадаркі Краіны Ведзьмаў? — строга спытала яна.

Карына і Граня пераглянуліся: ці сапраўды перад імі тая, за каго сябе выдае? Відаць, іхнюю насцярожанасць заўважыла жанчына.

— Можаце не адказваць. Я — Валадарка Краіны Ведзьмаў, я — чараўніца, таму і так бачу, што ў цябе,— яна тыкнула пальцам, паказваючы на Граню,— баліць рука. І ты прыйшоў да мяне, каб я зняла з яе чары. Хіба не так?

— Так! — збянтэжыўся Граня. Цяпер ужо ён не сумняваўся, што перад ім сапраўды Валадарка Краіны Ведзьмаў.

— Але чаму прыйшла ты сюды? — звярнулася Вастраносая да Карыны.

— Я таксама прыйшла прасіць у Вас дапамогі,— сказала Карына.— Адна Ведзьма зрабіла так, што ў майго брата раптам пачала балець нага, і цяпер ён не можа хадзіць.

— Хм,— хітравата ўсміхнулася жанчына,— з ведзьмамі часам такое здараецца. Любяць яны пасваволіць.

Твар жанчыны раптам пасуровеў.

— Але не трэба на іх нагаворваць! Ты,— звярнулася яна да Грані,— не паднёс Ведзьме сумку, а твой брат,— Вастраносая халоднымі вачыма паглядзела на Карыну,— не саступіў Ведзьме месца ў аўтобусе. Хіба не так?

Карына і Граня маўчалі, апусціўшы галовы.

— Так,— адказала за іх чараўніца і ўхмыльнулася.— Але вам пашанцавала: я добрая Валадарка, і мне няцяжка зняць з яе чары.

З хвіліну жанчына думала пра нешта свае, пасля загадала Граню:

— Пойдзеш са мной у дом. А ты,— загадала яна Карыне,— будзеш чакаць яго тут. Толькі нікуды не ідзі, калі хочаш, каб я зняла чары з твайго брата.

Карына хацела запэўніць, што без дазволу валадаркі Краіны Ведзьмаў яна і кроку не зробіць, але чараўніца не стала яе слухаць і, прапусціўшы наперад Граню, знікла за дзвярыма.

Карыне давялося чакаць даволі доўга. Нарэшце з дому выйшаў Граня. Вочы яго дзіўна блішчэлі.

— Ну што? — нецярпліва спытала Карына.

— Бачыш? — хрыпла прамовіў Граня і патрос правай рукой.— Валадарка Краіны Ведзьмаў зняла з мяне чары. І з твайго брата зняла.

— Праўда? — узрадавалася Карына.— Трэба ёй падзякаваць. Можна зайсці ў дом?

— Не,— прахрыпеў Граня.— Яна чытае Кнігу заклінанняў і не хоча, каб яе дарэмна турбавалі.

— А што з тваім голасам?

— А што з голасам? — сумеўся Граня.— А, ды гэта Ведзьма дала мне выпіць халоднага зёлкавага настою, і я ахрып. Затое цяпер мая рука зноў здаровая. І брат твой цяпер здаровы. Так што можаш вяртацца дадому.

— А ты? Ты сказаў так, быццам не збіраешся ісці разам са мной?

— Я... я хачу яшчэ пабыць тут,— адказаў Граня, стараючыся не глядзець Карыне ў вочы.— Ведзьма абяцала навучыць мяне чараваць.

— Чараваць? — здзіўлена перапытала Карына.

— Ну, не задарма ж,— крыху раздражнёна патлумачыў Граня.— Ёй хочацца пабываць у нашай краіне, паглядзець, як мы жывём... Я запрасіў яе ў госці, а яна паабяцала, што навучыць мяне чараваць.

Карына слухала Граню і не магла паверыць у шчырасць яго слоў. Здавалася, ён нешта недагаворваў. Што? І тут яна зірнула на правую руку хлопчыка і ўбачыла на ёй пярсцёнак з крышталікам, у якім пагойдвалася рыбіна вока! Карына ледзь не ўскрыкнула. Няўжо? Значыць, перад ёй Ведзьма, якая прыняла знешні воблік Грані?!

Але дзіўна: Карына нават не адчула страху перад усёмагутнай Ведзьмай. Можа, таму, што бачыла ўсяго толькі хлопчыка, разам з якім прайшла шмат кіламетраў і нават паспела пасябраваць? Аднак дзе сапраўдны Граня? Што зрабіла з ім Ведзьма?

Стараючыся гаварыць спакойна, каб чараўніца нічога не западозрыла, Карына прамовіла з прытворным шкадаваннем:

— Як сабе хочаш. А мне трэба ж спяшацца назад. Я ж нікому не сказала, куды збіраюся. Напэўна, мяне ўжо даўно кінуліся шукаць па ўсім горадзе. Вось толькі як мне патрапіць на дарогу, па якой можна вярнуцца дадому?

— А яе і шукаць не трэба,— сказала Ведзьма ў вобліку Грані.— Ідзі па гэтай сцежцы, нікуды не зварочвай.

Карына ўздыхнула, маўляў, ёй, вядома, не вельмі хочацца вяртацца адной, але што зробіш, і пайшла па сцежцы, на якую паказала Ведзьма ў вобліку Грані. Але як толькі сцежка павярнула ўбок і Ведзьмін дом схаваўся за кашлатымі елкамі, Карына з усіх ног кінулася ў гушчар.

## 19. СТАРАЯ ВАРОНА

Хутка лес пачаў радзець. Карына спынілася, каб аддыхацца, як раптам пачула над галавой працяглае:

— Ка-а-ар-р!

Задраўшы галаву, дзяўчынка ўбачыла на бярозе Старую Варону, якая з цікаўнасцю пазірала на яе.

— А я ўжо думала, што ў гэтай краіне жывуць адны ведзьмы,— узрадавалася Карына нечаканай сустрэчы.— Калі ты яшчэ і гаварыць умееш, то мне вельмі пашанцавала.

— Ка-а-ар-р! Ка-а-ар-р! — некалькі разоў паўтарыла Варона.

— Не ўмееш,— уздыхнула Карына.— Відаць, у казачных краінах размаўляць умеюць толькі Белыя Вароны,— успомніла яна пра валадарку Краіны Сонечных Зайцоў.

— Не смяшы мяне! — раптам адазвалася Старая Варона.— Я нават здагадваюся, пра якую Белую Варону ты мелеш.

— Загаварыла! Загаварыла! — узрадавалася Карына.

— Знайшла каго мне ставіць у прыклад! Гэтая шэльма і круцелька не ведае і паловы тых слоў, што ведаю я.

— Можа быць,— лёгка пагадзілася Карына, абы каб не пакрыўдзіць Старую Варону: можа, яна дапаможа ёй сустрэцца з Ганестай?

— Так і ёсць, не сумнявайся! Яна лічыць, раз стала Валадаркай цэлай краіны, то цяпер разумнейшая за ўсіх варон. Як бы не так! Шэльма і круцелька! Я справілася б не горш за яе. Але не вароніна гэта справа — валадарыць краінай.

— Вы так лічыце? — Карына хацела падхваліць Старую Варону.— Краіны ж бываюць розныя... О, я пражыла на гэтым свеце вельмі шмат і ведаю, што гавару,— змрочна прамовіла птушка.— Нас, варон, усе называюць неразу мнымі. Але, скажы, пакуль мы з табою размаўляем, ты западозрыла, што ў мяне мала розуму?

— Не,— шчыра прызналася Карына.

— Вось бачыш! А ўсё таму, што я проста сяджу на бярозе і балбачу з табой. А калі б я пачала валадарыць якой-небудзь краінай, сунуць дзюбу не ў свае справы, мая неразумнасць адразу б вылезла наверх. І вось з-за такіх, як гэтая белая шэльма і круцелька, ва ўсім свеце і ведаюць, што мы неразумныя.

— А вы знаёмыя з Белай Варонай? — пацікавілася Карына.

— Ці мы знаёмыя! — у голасе птушкі адчулася пагарда.— Вядома, знаёмыя! Гэта мая стрыечная сястра, век бы мне яе не бачыць. І ад куль яна такая белая ўрадзілася! Іншая ад сораму крылы на сябе б налажыла, а гэтая ўбіла ў галаву, што яна нейкая асаблівая.

Старая Барона яшчэ доўга лаяла сваю сваячку, а Карына цярпліва чакала, калі яна выгаварыцца.

Нарэшце, скарыстаўшы паўзу, Карына спытала:

— Скажыце, а вы добра ведаеце гэты лес?

— Ха! Ці добра я ведаю гэты лес! Ды я магу лётаць па ім з заплюшчанымі вачыма!

— Тады вы, можа, пакажаце мне сцежку, якая вядзе да дома валадаркі Краіны Ведзьмаў?

— Да дома Ганесты вядуць усе сцежкі, якія ёсць у гэтым лесе, але не кожны, хто ходзіць па іх, можа патрапіць да яе,— напышліва сказала Старая Варона.

— Дзіўна,— нясмела заўважыла Карына.

— Нічога дзіўнага,— не пагадзілася Старая Варона.— Проста Ганеста іх так заблытала, кааб абы-хто не сноўдаўся каля яе дома. А ў цябе якая справа да яе? — насцярожылася яна.

Карына расказала сваю сумную гісторыю ад пачатку да канца.

— Гэта ўсё штучкі Аўгі,— упэўнена прамовіла Старая Варона, як толькі дзяўчынка замоўкла.— Яе даўно трэба як след правучыць за шкадлівасць. Так і быць, я пакажу табе дом Ганесты. Ідзі за мной.

І з гэтымі словамі Старая Варона зляцела з бярозы.

## 20. ВАЛАДАРКА КРАІНЫ ВЕДЗЬМАЎ ГНЕВАЕЦЦА

Варона ляцела крыху наперадзе. Карына ледзь паспявала за ёй. Яна то выходзіла на сцежку, то збочвала з яе і прадзіралася скрозь кустоўе, аб якое падзерла ўсе ногі.

Нарэшце Старая Варона апусцілася на вершаліну невысокай елкі і сказала:

— Далей ідзі адна. Толькі нікуды не зварочвай.

Карына падзякавала Вароне за дапамогу, пралезла праз густы алешнік і апынулася на шырокай паляне, пасярод якой стаяў вялікі драўляны дом з двума двухпавярховымі вежамі па баках. Ніжнія паверхі вежаў служылі дадатковымі ўваходамі ў дом, а на другіх паверхах выступалі прасторныя балконы. Да параднага ўвахода вёў ганак, над якім узвышаліся драўляныя калоны.

На ганку ляжаў вялікі Чорны Кот і, здавалася, спаў. Але як толькі Карына хацела прайсці міма яго, Чорны Кот расплюшчыў вочы і незадаволена сказаў:

— Ну вось, ходзяць-ходзяць тут усялякія і робяць выгляд, быццам не заўважаюць, што каля дзвярэй знаходзіцца Верны Вартаўнік валадаркі Краіны Ведзьмаў.

— Прабачце,— вінаватым голасам прамовіла Карына.— Прызнацца, мне нават у галаву не прыйшло, што вы можаце быць Вартаўніком валадаркі Краіны Ведзьмаў.

— Ну, вядома,— з крыўдай у голасе прамармытаў Чорны Кот,— ты падумала, ляжыць тут на ганку бяздомны кот і чакае, пакуль яму кінуць абгрызеную костачку.

— Не,— засмяялася Карына,— на бяздомнага ката вы не падобны. Хутчэй на любімага ката гаспадыні гэтага дома.

— Хм,— задаволена замурлыкаў Чорны Кот,— так яно і ёсць. Калі табе патрэбна Ганеста, то мусіш пачакаць, пакуль я паведамлю ёй пра твой візіт.

Карына згодна кіўнула, і Чорны Кот знік за дзвярыма. Праз хвіліну ён вярнуўся і сказаў:

— Валадарка Краіны Ведзьмаў чакае цябе.

І зноў улёгся на ганку і тут жа заплюшчыў вочы.

Карына думала, што ўбачыць старую бабульку, такую ж агідную і змрочную, як і Аўга, аднак Ганеста аказалася яшчэ даволі маладою жанчынай і з твару даволі прывабнай. Праўда, з яго ніколі не сыходзіла строгасць. Нават калі Ганеста ўсміхалася, вочы яе заставаліся халоднымі.

Валадарка Краіны Ведзьмаў была апранута ва ўсё чорнае, і на плечы яе спадалі доўгія чорныя валасы. Ганеста сядзела ў крэсле, трымаючы на каленях... Карына не магла паверыць: на каленях ляжаў той самы Чорны Кот, Верны Вартаўнік Ведзьмы, які, як ёй здавалася, застаўся на ганку!

"Відаць, у яе некалькі катоў",— падумала Карына, але Чорны Кот нечакана падміргнуў ёй, нібы старой знаёмай, і цяпер яна магла спрачацца на што заўгодна: гэта быў Верны Вартаўнік валадаркі Краіны Ведзьмаў!

— Што цябе прывяло сюды? — спытала Ганеста і пагладзіла Чорнага Ката.

Карына пачціва пакланілася Ведзьме і расказала, якая бяда прымусіла яе і Граню адправіцца ў такое небяспечнае падарожжа.

Пачуўшы пра штучкі адной са сваіх падданых, Валадарка Краіны Ведзьмаў так разгневалася, што Чорны Кот прадбачліва саскочыў з яе каленяў.

— Я ж забараніла ім бываць у Краіне Людзей! — закрычала яна.— Хто асмеліўся не паслухацца мяне?!

Ганеста рэзка паднялася з крэсла, падышла да дзвярэй, якія тут жа самі расчыніліся, і ўзняла ўгору рукі. У той жа момант усчалася такая бура, што нават задрыжэлі сцены дома. Дрэвы нахіліліся ад моцнага ветру, а некаторыя вецер выварочваў з карэннем, і яны з шумам і трэскам валіліся на зямлю.

Аднак праз хвіліну бура ўціхла, і Ганеста загадала Карыне:

— Ідзі за мною.

Карына паслухмяна выйшла з дому і ўгледзела на паляне шмат ведзьмаў. Сярод іх былі і старыя, і маладыя, але ўсе мурзатыя і апранутыя ў брудныя лахманы.

— Пакажы мне, каго з іх ты бачыла,— сказала Ганеста Карыне.

Дзяўчынка падышла бліжэй да ведзьмаў: усе яны былі падобныя адна на адну, і Карына баялася памыліцца. Яна падоўгу ўзіралася ў твар кожнай з іх і нарэшце тыцнула пальцам у старую, якая спадылба глядзела на Карыну.

— Што такое? Гэта няпраўда! Дзе ты магла мяне бачыць? — Ведзьма зрабіла выгляд, быццам вельмі здзівілася.— Ды хіба я магла...

Але Ганеста не дала ёй закончыць.

— Аўга! — грозна сказала яна.— Колькі разоў я цябе папярэджвала: мне надакучылі свае штучкі!

— Ды я, ды хіба можна... Як Вы маглі падумаць...— прабубніла Ведзьма, але, відаць, зразумела, што лепш не будзіць ліха.— Я больш не буду.

— Дзе хлопчык, які прыйшоў сюды разам з ёй? — Ганеста кіўнула ў бок Карыны.

— Дык гэта... Ён там...— прамармытала Аўга.

— Ён павінен быць тут, зараз жа! — загадала Ганеста і ўзмахнула рукой.

Старая Ведзьма закруцілася на месцы, як ваўчок, і, не перастаючы круціцца, у адно імгненне знікла з паляны. Прайшло не больш хвіліны, як яна вярнулася, і не адна, а разам з Гранем.

— Граня! — радасна ўсклікнула Карына.

Але хлопчык толькі здзіўлена лыпаў вачыма, азіраючыся па баках, і нічога не мог зразумець.

— Падыдзі да мяне,— загадала Ганеста Аўзе.

Старая Ведзьма пакорліва падышла, насцярожана пазіраючы ў вочы валадарцы.

— За тое, што ты не адзін раз парушала законы нашай краіны, я пазбаўляю цябе права насіць залаты пярсцёнак,— строгім і ў той жа час урачыстым голасам прамовіла Ганеста і працягнула руку.

— Ваша Вядзьмарская Вялікасць! — узмалілася Аўга.— Хіба можна — з-за нейкіх дзяцей! Яны яшчэ і не гэтага заслугоўваюць!.. Добра, калі Вы так хочаце, я больш не буду. І нагі маёй больш там не будзе! А калі я змахлюю, то хай...

— Пярсцёнак! — суха паўтарыла Ганеста.

Ведзьма замоўкла і нехаця зняла з пальца пярсцёнак з крышталікам, у якім пагойдвалася рыбіна вока, і працягнула Ганесце.

— А цяпер усе могуць вярнуцца па сваіх дамах,— ужо больш мяккім голасам прамовіла Ганеста.

— Ведзьмы, як па камандзе, закруціліся ваўчком і зніклі з паляны.

— Падыдзіце да мяне,— звярнулася Ганеста да Карыны і Грані.

Калі дзеці наблізіліся да Валадаркі Краіны Ведзьмаў, яна дакранулася да правай рукі Грані і сказала:

— Цяпер твая рука не будзе балець.

Граня памацаў плячо, затым патрос рукою і радасна ўсклікнуў:

— І праўда, не баліць!

Ганеста ўважліва паглядзела ў вочы Карыне і задумліва прамовіла:

— А вось зняць чары з твайго брата не так проста.

## 21. КУСТ ЧОРНЫХ ПАРЭЧАК

— Калі б у цябе была якая-небудзь яго рэч...— прадоўжыла Ганеста.

— Ёсць! — усклікнула Карына.— Ёсць!

І дзяўчынка дастала з кішэні акуратна адпрасаваную насоўку, якую, выпраўляючыся ў няблізкі свет, прадбачліва захапіла з сабой, і працягнула яе Ганесце.

Валадарка Краіны Ведзьмаў доўга круціла насоўку ў руках і нарэшце вярнула Карыне.

— Калі ў вас да мяне больш няма ніякіх спраў, можаце вяртацца дадому. І старайцеся больш не трапляцца на вочы ведзьмам. Вам пашчасціла, што вы змаглі знайсці мяне, хоць я і не разумею, як вам гэта ўдалося. Не чакайце, пакуль зменіцца мой настрой, і хутчэй вяртайцеся ў сваю краіну.

— А мой брат? — разгублена спытала Карына.— Хіба Вы не дапаможаце яму?

— Думаю, твайму брату ўжо не баліць нага,— спакойным і нават крыху абыякавым голасам адказала Ганеста.

Карына не ўтрымалася і радасна запляскала ў далоні. Затым яна доўга дзякавала Валадарцы Краіны Ведзьмаў — так доўга, што тая мусіла перапыніць яе хвалебную прамову.

— Вось самая кароткая дарога ў вашу краіну,— сказала Ганеста, паказваючы на сцяжынку, якой, як здалося Карыне і Граню, нядаўна яшчэ не было.— Ідзіце па ёй і нікуды не зварочвайце.

Развітаўшыся з Валадаркай Краіны Ведзьмаў, падарожнікі заспяшаліся дадому. Цяпер ісці было радасна і легка. І лес ужо не здаваўся такім змрочным, як раней.

Ад некуль з'явіўся прыгожы пярэсты матылёк, які доўга кружыўся над іх галовамі. Пасля матылёк паляцеў наперад і апусціўся на куст чорных парэчак, што рос пры сцяжынцы.

— Глядзі, якія буйныя парэчкі! — радасна ўсклікнуў Граня, калі падарожнікі наблізіліся да куста.

— Ніколі не бачыла, каб парэчкіраслі ў лесе,— задумліва сказала Карына.

— Ты раней і лесу, у якім жывуць ведзьмы, ніколі не бачыла,— ухмыльнуўся Граня.

Парэчкі аказаліся вельмі салодкімі, і калі падарожнікі пракусвалі чарговую ягадку, яна выпускала халодную кропельку чырвонага соку.

Увесь час, пакуль дзеці ласаваліся ягадамі, матылёк кружыўся над імі, а як толькі яны рушылі далей, ён, быццам ад парыву ветру, кінуўся ўніз, за парэчкавы куст.

Тут жа з-за куста паказалася Аўга. Старая Ведзьма выйшла на сцежку і доўга пазірала ўслед дзецям, злосна бліскаючы вачыма.

Сонца вісела над самымі галовамі падарожнікаў, і Карына сказала:

— Добра, калі мы да вечара паспеем вярнуцца дадому.

— Хутчэй бы,— прамармытаў Граня і пазяхнуў.— Так спаць захацелася, быццам тыдзень не спаў.

— І мне,— прызналася Карына,— Вочы проста самі зліпаюцца.

Далей падарожнікі ішлі моўчкі, а іх павекі рабіліся ўсё цяжэйшыя. Нарэшце дрымота і зусім авалодала імі. Яны пляліся, нічога не заўважаючы перад сабою. І калі раптам наперадзе па абодва бакі ад сцежкі, якая вяла іх дадому, аддзяліліся дзве маленькія сцяжынкі, Граня падпарадкаваўся нейкай невядомай сіле і збочыў на тую, што бегла ўлева, а Карына павярнула направа.

## 22. ПЛАСТМАСАВЫ ЧАЛАВЕЧАК

— Прабачце, вы не маглі б мне дапамагчы? Пачуўшы гэтыя словы, Карына схамянулася і паглядзелапа баках. Лес даўно скончыўся, вакол была ўзгорыстая мясцовасць з рэдкімі дрэвамі і кустамі.

— Вы не маглі б мне дапамагчы? — зноў пачула дзяўчынка і толькі цяпер заўважыла ў некалькіх кроках ад сябе дзіўнага чалавечка. Чалавечак быў цацачны, зроблены з пластмасы, ростам з паўметра. Праўда, ён меў толькі адну нагу і рухаўся на кастылях, якімі служылі галінкі кустарніка — з іх нават не было абарвана лісце.

— А чым я магу вам дапамагчы? — спытала Карына, пранікаючыся шкадобай да гэтага небаракі.

— Разумееце, я згубіў гайку, якая мацавала маю правую нагу. Гайка была ўжо старая, і разьба на ёй сцерлася. На адной назе мне цяжка яе шукаць.

— А дзе вы яе згубілі? Далека? — спытала дзяўчынка.

— Недзе вунь там, каля каштана, у траве,— паказаў рукой Пластмасавы Чалавечак.

Дзяўчынка накіравалася да дрэва, Пластмасавы Чалавечак, абапіраючыся на самаробныя кастылі, на адной назе паскакаў за ёй.

— Гэтыя пластмасавыя гайкі і балты, на жаль, вельмі хутка зношваюцца і часта губляюцца,— сумна гаварыў ён.— Ды і, увогуле, можна было што-небудзь прыдумаць, каб абысціся без іх. З імі так нязручна. Ох, ужо гэтыя канструктары!

— Вы хочаце сказаць, што вас зрабілі канструктары? — здзівілася Карына.

— Вядома, а хто ж яшчэ? Спачатку ўсе мы былі звычайнымі цацкамі, але пасля нашай феі захацелася нас ажывіць.

— Дзіўнае жаданне для феі,— паціснула плячыма Карына.

— Ну, для нашай феі гэта якраз самы звычайны занятак — ажыўляць пластмасавыя цацкі,— з горкай усмешкай сказаў Пластмасавы Чалавечак.

— Пачакайце! — раптам усклікнула дзяўчынка.— А як называецца ваша краіна?

— Так і называецца — Краіна Пластмасавых Чалавечкаў.

— Значыць… значыць, я заблудзілася! — разгублена прамовіла Карына.— Мы ішлі, і я задрамала. А Граня? Вы не бачылі на гэтай дарозе хлопчыка?

— Не, не бачыў,— пакруціў галавою Пластмасавы Чалавечак.— Я даўно тут стаю і нікога не бачыў. Прызнацца, тут рэдка хто ходзіць.

У гэты момант па дарозе прамчаўся пластмасавы аўтамабіль.

— Ну вось, прамаргаў,— нахмурыўся Чалавечак.— Па гэтай дарозе машыны і так ездзяць гады ў рады. Цяпер давядзецца пешшу дабірацца да горада. Калі, вядома, знойдзецца гайка,— дадаў ён, уздыхнуўшы.

— Не хвалюйцеся, я пастараюся знайсці яе,— паабяцала Карына.— А вы жывяце ў горадзе?

— Не, я жыву вунь у тым доміку.— Пластмасавы Чалавечак кіўнуў на цацачны домік, які стаяў на адным з узгоркаў.— Але ў мяне скончыліся запасныя гайкі, а іх можна купіць толькі ў горадзе.

Карына апусцілася на калені і пачала ўважліва разглядаць зямлю вакол дрэва. Першае, што яна знайшла, была пластмасавая нага.

— Гэта ваша нага? — спытала дзяўчынка. Пластмасавы Чалавечак кіўнуў:

— Хай пакуль паляжыць, усё роўна без гайкі карысці ад яе ніякай.

Карына прапоўзала па траве хвілін пяць і нарэшце радасна ўсклікнула:

— Знайшла!

Яна ўскочыла з каленяў і працягнула Пластмасаваму Чалавечку маленькую гаечку.

— Вось дзякуй! — узрадаваўся Чалавечак.— Падай, калі ласка, маю нагу.

Прымацаваўшы нагу да тулава, Пластмасавы Чалавечак прытопнуў і сказаў:

— От і добра. Да горада як-небудзь дабяруся. А вы куды ідзяце?

Карына паціснула плячыма:

— Я сама не ведаю, што цяпер рабіць. Відаць, мне застаецца спадзявацца толькі на дапамогу валадаркі вашай краіны. Вы не падкажаце, як мне яе знайсці?

— О, гэта якраз недалёка адсюль,— сказаў Пластмасавы Чалавечак.— Толькі раз ужо мы з вамі сустрэліся, у мяне да вас будзе адна просьба. Калі вам удасца трапіць у замак Неанілы... Разумееце, нас, простых цацак, туды не пускаюць. І толькі вы можаце...— Пластмасавы Чалавечак хваляваўся, таму рабіў частыя паузы.— Разумееце, яе канструктары... Некалі яны былі такімі ж, як і мы, звычайнымі пластмасавымі цацкамі. Але, заняўшы высокія пасады пры двары Яе Вялікасці, яны, карыстаючыся наіўнасцю і дабрынёй нашай феі, захапілі амаль усю ўладу ў краіне. Можа, нас гэта і не вельмі б хвалявала, каб... Ну, карацей, вы самі бачыце, што яны прыдумалі не вельмі ўдалыя мадэлі цацачных людзей, якія фея Неаніла пасля ажыўляе. У дамах, якія яны праектуюць, альбо працякаюць дахі, альбо не расчыняюцца дзверы. У іх машын часта адвальваюцца колы, а іх цягнікі часта сыходзяць з рэек. На шчасце, пасажыры з-за гэтага не вельмі церпяць, бо ўсе яны пластмасавыя. Самае ж нязручнае для нас — усе гэтыя гайкі і балты, на якіх трымаюцца нашы ногі, рукі і галовы.

— Але аб чым я павінна папрасіць фею Неанілу? — нецярпліва спытала Карына.

— Разумееце, у нашай краіне ёсць і іншыя канструктары. Яны жывуць за тым узгоркам, на якім стаіць мой дом. Мы даўно сябруем, таму я ведаю, што гавару. Яны, праўда, самавукі, не заканчвалі ніякіх акадэмій, але затое змаглі прыдумаць зусім новую мадэль пластмасавых людзей — больш даўгавечную і рухомую і без ніводнага болціка. Калі ласка, раскажыце феі пра іх.

— А што, гэтыя канструктары-самавукі таксама не маюць доступу ў замак? — спытала Карына.

— Ну, вядома! — усклікнуў Пластмасавы Чалавечак.— Прыдворныя каструктары нізавошта не дапусцяць іх да феі. На нас яны зарабляюць вялікія грошы. А тое, што прапануюць мае сябры, патрабуе значна меншых затрат на вытворчасць пластмасавых людзей. Да таго ж, калі б фея даведалася, што прыдворныя канструктары невукі, махляры і абібокі, яна, хутчэй за ўсё, іх выгнала б. Вось чаму яны робяць усё, каб у замак не трапілі мае сябры.

— Добра,— паабяцала Карына,— калі я сустрэнуся з феяй Неанілай, я абавязкова раскажу ёй пра вашых сяброў. Але, мне здаецца, будзе лепш, калі яны самі растлумачаць ёй, чым іх мадэлі пластмасавых людзей лепшыя. Таму перадайце ім, каб яны чакалі каля замка, пакуль фея іх не пакліча да сябе.

— Ах, я проста не ведаю, як вам дзякаваць! — усклікнуў Пластмасавы Чалавечак.

— Вы мне таксама дапаможаце, калі пакажаце дарогу да замка,— сказала Карына.

— Яна перад вамі,— раскінуў рукі Пластмасавы Чалавечак.— Вы якраз ішлі ў бок замка.

Карына развіталася з Пластмасавым Чалавечкам, а ён усё стаяў і махаў ёй услед, пакуль дзяўчынка не схавалася за узгоркам.

## 23. НЕАНІЛА АБЯЦАЕ ДАПАМОГУ

Каля варотаў замка стаялі два пластмасавыя афіцэры з пластмасавымі стрэльбамі на плячы.

— Стой! Ты да каго? — звярнуўся да Карыны адзін з іх, у званні капітана, зрабіўшы некалькі крокаў насустрач,— зрэшты, не зусім упэўненых, як-ніяк, дзяўчынка была ў некалькі разоў вышэйшая за кожнага з іх.

— Да феі Неанілы,— спакойна адказала Карына, паблажліва ўсміхаючыся і перасільваючы жаданне ўзяць афіцэра за плечы і падняць, каб лепш разгледзець.

Спакойны тон і паблажлівая усмешка яшчэ больш азадачылі афіцэраў.

— Каб патрапіць на аўдыенцыю да феі Неанілы, патрэбны спецыяльны дазвол,— сказаў Капітан.

— А хто мае права выдаць такі дазвол?

— Фея Неаніла.

— Хм,— задумалася Карына. Раптам яна хітра прыжмурыла вочы і ўпэўнена сказала: — Значыць, вы павінны прапусціць мяне, каб я магла ўзяць у феі Неанілы дазвол на аўдыенцыю.

І, не чакаючы, пакуль афіцэры вырашаць, як ім паводзіць сябе з ёю далей, увайшла ў замак і апынулася ў вялікім прыгожым садзе, у якім раслі розныя фруктовыя дрэвы. Між дрэў раскінуліся кветнікі. Паўсюль стаялі лавачкі. У глыбіні саду на арэлях гушкалася дзяўчынка гадоў сямі з прыгожым белым бантам у светлых валасах, у белай клёшнай сукенцы з карункамі на варатнічку і кароткіх рукавах.

"Я і не ведала, што ў фей бываюць дзеці",— падумала Карына і накіравалася да дзяўчынкі.

— Прывітанне,— сказала яна ўсміхнуўшыся. Дзяўчынка падазрона паглядзела на няпрошаную госцю і спытала:

— Ты хто?

— Я? — на імгненне разгубілася Карына.— Чалавек.

— Ты фея?

— Не,— пакруціла галавой Карына.— Я трапіла сюды з іншай краіны і хачу прасіць дапамогі ў феі Неанілы.

— Дапамогі? — перапытала дзяўчынка, не перастаючы гушкацца.— А ў чым табе трэба дапамагчы?

Карына вырашыла, што неабавязкова такой маляўцы расказваць пра свае прыгоды, і сказала:

— Я спадзяюся, што фея Неаніла дапаможа мне вярнуцца ў маю краіну, а можа, нават і дапаможа адшукаць аднаго хлопчыка.

— А ён што, згубіўся?

— Згубіўся. Ці магу я ўбачыць фею Неанілу?

— Я і ёсць Неаніла,— сказала дзяўчынка і нарэшце перастала гушкацца.

— Ды не... Мне трэба Валадарка Краіны Пластмасавых Чалавечкаў, разумееш?

— Я і ёсць Валадарка Краіны Пластмасавых Чалавечкаў,— з крыўдай у голасе сказала дзяўчынка і саскочыла з арэляў.

— Ты? — разгубілася Карына.

— Я,— кіўнула маленькая фея.— Якога хлопчыка трэба дапамагчы адшукаць, і ў якую краіну ты хочаш вярнуцца?

Карыне давялося зноў расказваць пра свае прыгоды.

— А пасля мы адчулі, што нам вельмі хочацца спаць. Як ішлі далей, ужо не памятаю, я ачнулася толькі ў Тваёй краіне. Баюся, што Граня адстаў альбо збочыў на іншую дарогу — тады ён можа заблудзіцца,— такімі словамі закончыла яна свой расказ.

— Як я табе зайздрошчу,— уздыхнула маленькая фея.

— Чаму?

— Ну, як жа, ты пабывала ў розных краінах, столькі ўсяго пабачыла. А ў мяне тут сумна, нічога цікавага не адбываецца, нават у цацкі няма з кім пагуляць. Таму я іх і ажыўляю.— Маленькая фея зноў уздыхнула і сказала: — Я пастараюся табе дапамагчы.

Яна ўзяла Карыну за руку і павяла па садзе.

— У замку ёсць верталёт, ты можаш абляцець на ім хоць усю краіну, і калі твой сябар недзе тут, знайсці яго будзе нескладана.

Яны ішлі паміж фруктовых дрэў, лапы якіх гнуліся пад цяжарам сакавітых пладоў. Праходзячы міма слівы, Карына падумала, што ў свеце няма нічога смачнейшага за слівы, але пасаромелася папрасіць у феі хоць адну сліўку. Калі ж яны праходзілі міма разлапістай грушы, Карына ўжо думала, што самае смачнае ў свеце — гэтыя грушы, і яна магла б зараз з'есці іх цэлы кошык. Ці хоць бы парачку. Ці хай сабе і адну. А калі яны падышлі да яблыні, маленькая фея, быццам прачытаўшы думкі Карыны, сарвала з дрэва вялікі ружовы яблык і працягнула госці:

— На, паспытай.

Карына з радасцю прыняла пачастунак.

Верталёт, які стаяў на маленькай пляцоўцы паміж дрэў, яна ўбачыла здалёк. Ён быў невялікі, і Карына падумала, што сядзець у ім давядзецца добра такі ўціснуўшы галаву ў плечы. А калі яны наблізіліся да верталёта, у Карыны з'явіліся падазрэнні, у параўнанні з якімі яго памеры былі проста дробяззю.

— А ён што — таксама пластмасавы? — насцярожана спытала яна ў феі.

— Вядома,— кіўнула Неаніла.

— І ён можа ўзляцець?

— А чаму не? — здзівілася Неаніла.— Праўда, спачатку ён быў цацкай, але я зрабіла так, каб на ім можна было падымацца ў паветра.

— І Ты лятала на ім? — асцярожна пацікавілася Карына.

— Яшчэ не,— прызналася маленькая фея.— Ды і куды мне ляцець? Магчыма, калі пасяброую з феяй якой-небудзь іншай казачнай краіны, тады. А так... Але ты не хвалюйся, мой Галоўны Канструктар гаварыў, што гэта самы надзейны верталёт у свеце.

Аднак апошнія словы Неанілы не вельмі супакоілі Карыну. Дзяўчынка некалькі разоў прайшлася вакол верталёта.

— На месцы Твайго Галоўнага Канструктара я не спяшалася б з такімі вывадамі,— сказала яна.— Нядаўна я размаўляла з адным пластмасавым чалавечкам...

— Усё ясна, ты баішся,— засмяяўшыся, перабіла яе маленькая фея.— Аказваецца, ты баязліўка. Ну, хочаш, я палячу разам з табой? Ён якраз разлічаны на двух пасажыраў.

— Мне здаецца, было б справядліва, калі б першым на ім паляцеў Твой Галоўны Канструктар,— заўважыла Карына.

— Баязліўка! — зноў засмяялася Неаніла.

Яна падышла да невысокага пластмасавага слупа і націснула на нейкую кнопачку. У той жа момант недзе далека пачуўся гук, які нагадваў сігнал цягніка. Толькі цяпер Карына заўважыла ў траве вузенькае чыгуначнае палатно.

Хутка здалёк пачулася чмыханне паравоза, пасля паказаўся і сам паравозік, які цягнуў за сабой зялёны вагончык. Паравозік рухаўся марудна, таму што пластмасавыя колы яго ўвесь час прабуксоўвалі. Нарэшце ён дайшоў да таго месца, дзе стаялі Неаніла са сваей госцяй, стомлена чмыхнуў і спыніўся. З зялёнага вагончыка выйшаў важны пан.

— Гэта мой Галоўны Канструктар,— адрэкамендавала яго Карыне маленькая фея.— А гэта мая госця Карына,— сказала яна, звяртаючыся ўжо да Галоўнага Канструктара.— Ёй патрэбен верталёт, але яна баіцца, што на ім небяспечна лётаць.

— Хм, а Вы не сказалі ёй, што Ваш верталёт самы надзейны ў свеце? — пацікавіўся Галоўны Канструктар.

— Сказала, але яна не верыць і хоча, каб ты першы палётаў на ім,— растлумачыла фея.

— Вядома, я зраблю ўсё, што Вы пажадаеце, але, павінен нагадаць, я атрымліваю грошы за тое, што займаюся канструяваннем, а не выпрабоўваннем сваіх мадэляў,— з крыўдай у голасе прамовіў Галоўны Канструктар і з гэтымі словамі накіраваўся да верталёта.

Паколькі верталёт для яго быць залішне вялікім, Галоўнаму Канструктару давялося падымацца ў кабіну па лесвіцы. Нарэшце запрацаваў прапелер, і верталёт адарваўся ад зямлі. Аднак, зрабіўшы невялікі круг над садам, ён раптам нібы папярхнуўся і заціх, прапелер перастаў круціцца.

## 24. КАНСТРУКТАРЫ-САМАВУКІ

Верталёт упаў у сад і цудам не разваліўся на часткі. Пакуль маленькая фея і Карына дабеглі да машыны, з яе ўжо вылез Галоўны Канструктар.

— А хто мне гаварыў, што гэты верталёт самы надзейны ў свеце? — грозна спытала ў Галоўнага Канструктара Неаніла.

— А хіба не так? — пытаннем на пытанне адказаў Галоўны Канструктар.— Паглядзіце, ён упаў з такой вышыні і зусім не разбіўся. Праўда, у ім трэба замяніць прапелер — гэта зойме некалькі дзён.

Карына ўявіла, што з ёй было б, калі б яна падчас падзення верталёта з такой вышыні знаходзілася ў ім, і гнеўна сказала Галоўнаму Канструктару:

— Ды табе не тое што верталёт, табе нельга канструяваць нават... нават... Табе нічога нельга канструяваць! Таму што ўсе твае канструкцыі — гэта адны недаробкі. Верталёты падаюць з неба, цягнікі сыходзяць з рэек. А пластмасавыя чалавечкі! Іх ногі і рукі пастаянна адвальваюцца, бо мацуюцца на ненадзейных болціках і гайках.

— Што яна такое гаворыць? — нахмурыўся Галоўны Канструктар.— Хто яе падвучыў? Ваша Вялікасць, не верце ёй!

— Ах, перастань,— паморшчылася Неаніла.— Я сама не раз табе гаварыла, што твая работа часам бывае нікуды не вартая. Але, на жаль,— звярнулася яна да Карыны,— у нас няма лепшых канструктараў.

— Ёсць! — запярэчыла Карына.— І, я думаю, яны ўжо стаяць каля варотаў замка.

— Не слухайце яе, Ваша Вялікасць! — залямантаваў Галоўны Канструктар.— Я ведаю ўсіх пластмасавых чалавечкаў нашай краіны. Усе лепшыя канструктары працуюць у Вашым замку. Не слухайце гэтую іншаземку! Адкуль яна тут узялася? Хто яе прапусціў?

Але Неаніла толькі ўсміхнулася, узяла Карыну за руку і сказала:

— Пойдзем паглядзім, хто там стаіць каля варотаў замка.

Галоўны Канструктар нехаця паплёўся следам за дзяўчынкамі.

Расчыніўшы вароты, Неаніла і Карына ўбачылі чатырох пластмасавых чалавечкаў, перад якімі са стрэльбамі наперавес стаялі афіцэры-вартаўнікі, не пускаючы іх у замак.

— Вы хто? — звярнулася Неаніла да пластмасавых чалавечкаў.

Адзін з чалавечкаў зрабіў крок наперад і, працягнуўшы феі вялікія скруткі паперы, сказаў:

— Баюся, мы яшчэ не маем права называцца канструктарамі, бо ўсё, што мы прыдумалі, пакуль можна ўбачыць толькі на гэтых чарцяжах. Але мы спадзяемся, яны Вас зацікавяць. Тут мадэлі цягнікоў, аўтамабіляў і нават пластмасавых людзей. Яны больш надзейныя і даўгавечныя, чым тыя, што робяць Вашы канструктары.

— Гэта змова! — замітусіўся Галоўны Канструктар.— Гэта змова! Што цяпер будзе?

Неаніла не ўзяла чарцяжы, аднак сказала:

— Добра, пойдзем у замак, і там вы мне ўсё раскажаце.

— Не верце ім, Ваша Вялікасць! — заенчыў Галоўны Канструктар.— Гэта вядомыя махляры і няздары, якія толькі і думаюць аб тым, каб заняць у замку месца Вашых лепшых у свеце канструктараў.

— Дазволь мне самой вырашаць, каму верыць, а каму не,— холадна прамовіла маленькая фея і павярнулася, каб ісці ў замак.

У прыгожай летняй альтанцы канструктары-самавукі расклалі на круглым століку свае чарцяжы.

— Вось,— сказалі яны,— тубусе распісана. Можаце паглядзець самі.

— Але я нічога не кемлю ў чарцяжах,— прызналася маленькая фея.

— Затое я кемлю! — крыкнуў Галоўны Канструктар, які спрабаваў дацягнуцца падбародкам да століка, але ў яго нічога не атрымлівалася.— Я кемлю і бачу, што гэтыя чарцяжы нікуды не вартыя.

— Замаўчы! — паківала пальчыкам на Галоўнага Канструктара Неаніла і звярнулася да канструктараў-самавукаў.— Можа, вашы чарцяжы і добрыя, толькі я хацела б праверыць здольнасці кожнага з вас у канкрэтнай справе.

— Тады няхай яны адрамантуюць Твой верталёт,— прапанавала Карына.

— Правільна,— пагадзілася Неаніла,— адрамантуйце мой верталёт — гэта будзе для вас першым выпрабаваннем.

Канструктары-самавукі вельмі ўзрадаваліся магчымасці паказаць свой спрыт у такой адказнай справе.

Праз паўгадзіны яны вярнуліся ў альтанку і далажылі:

— Вінтавая вось была замацавана вельмі кепска і не стаяла на сваім месцы. Мы ліквідавілі непаладку, аднак сама па сабе машына вельмі недасканалая. У нас ёсць схемы, па іх можна будаваць верталёты, якія лётаюць не толькі ўперад, але ўбок і нават назад.

— Лухта! — усклікнуў Галоўны Канструктар.— Такога не можа быць!..

— Скажыце,— перабіваючы Галоўнага Канструктара, звярнулася да майстроў-самавукаў Карына,— на верталёце, які вы толькі што рамантавалі, цяпер можна лётаць?

— Можна, хоць ён і не вельмі надзейны і разлічаны на кароткія адлегласці,— адказалі тыя.

— Ты дазволіш мне пашукаць на ім Граню? — спытала ў Неанілы Карына.

— Ну, вядома,— пяшчотна сказала маленькая фея.— Я буду рада, калі ты знойдзеш свайго сябра.

## 25. ЗНОЎ У КРАІНЕ ВЕДЗЬМАЎ

Верталёт ляцеў над дарогай, па якой нядаўна ішла Карына. За штурвалам сядзеў адзін з канструктараў-самавукаў.

— Дзіўна,— сказала дзяўчынка, разглядаючы кабіну,— мне здавалася, што ў верталётах павінна быць шмат розных кнопачак і правадкоў, а тут, апроч штурвала, нічога няма. Як гэта ён ляціць?

— Пра гэта лепш спытаць у нашай феі,— адказаў Майстар-Самавучка.— Яна ажыўляе нас і робіць так, каб маглі рухацца пластмасавыя цягнікі, машыны, верталёты.

— Значыць, ад вас, канструктараў, тут мала што залежыць? — расчаравана спытала Карына.

— Яшчэ як залежыць! — не пагадзіўся пластмасавы верталётчык.— Хіба машына можа ехаць, калі ў ёй адвальваюцца колы? Тут ніякая фея не дапаможа.

Карына мусіла пагадзіцца: і як ёй прыйшло ў галаву задаць такое недарэчнае пытанне?!

Тым часам наперадзе паказаўся лес.

— Усё,— сказаў Майстар-Самавучка,— там ужо іншая краіна.

— Табе забаронена туды ляцець? — з сумам у голасе спытала Карына.

— Можа, і не забаронена, не ведаю, але гэта вельмі небяспечна,— развёў пластмасавымі рукамі Майстар-Самавучка.

— Калі ласка,— папрасіла дзяўчынка,— мы далека не будзем залятаць, толькі крышачку — туды і назад.

Майстар-Самавучка ўздыхнуў, але не стаў больш пярэчыць. Верталёт паляцеў над вузенькай сцежкай — і так нізка, што ледзь не чапляў вершаліны дрэў.

— Думаю, нашай феі гэта не спадабаецца,— прамармытаў Майстар-Самавучка.

Раптам наперадзе паказалася бурная лясная рака. Праз раку вяла вузенькая кладачка з трох жэрдак — далека не кожны асмеліўся б перайсці па ёй на другі бераг.

— Дзіўна,— ледзь чутна прамовіла дзяўчынка,— няўжо я ішла па гэтай кладцы? Нічога не помню.

Рака засталася ззаду.

Нечакана сцежка, над якой яны ляцелі, злучылася з шырокай і прамой ляснай дарогай, з якой у гэтым жа месцы злівалася яшчэ адна вузенькая сцежка.

— Стой! — закрычала Карына, нібы яны ехалі на аўтамабілі, а не ляцелі на верталёце.— Вось дарога, па якой мы павінны былі вярнуцца дадому. Значыць, я сышла з яе! А Граня альбо пайшоў па ёй далей, альбо павярнуў на тую сцяжынку.

— Што будзем рабіць? — спытаў Майстар-Самавучка.

— Калі Граня нікуды не зварочваў, то ён ужо, магчыма, дома. А калі ён звярнуў на тую сцежку... Давай паляцім над ёй!

Майстар-Самавучка паслухмяна развярнуў верталёт. Некалькі хвілін яны ляцелі над сцежкай, і раптам наперадзе зноў паказалася бурная рака з такой жа вузенькай кладкай з трох жэрдак.

— Ах! — усклікнула Карына.— Калі ён спрабаваў ісці па ёй...

Яна не дагаварыла.

— А цяпер што будзем рабіць? — спакойна пацікавіўся Майстар-Самавучка.

— Давай сядзем каля ракі,— папрасіла Карына.

— Гэта яшчэ больш небяспечна, чым проста ляцець над тэрыторыяй чужой краіны,— папярэдзіў пілот, аде, тым не менш, зрабіў так, як сказала дзяўчынка.

Карына вылезла з верталёта і агледзелася. Раптам яна заўважыла, што пад ніцай вярбой, якая расла каля самага берага, нехта ляжыць. Карына падышла бліжэй і радасна ўсклікнула:

— Граня!

Ад гучнага воклічу Граня абудзіўся, расплюшчыў вочы і недаўменна ўтаропіўся ў дзяўчынку, спрабуючы спрасонку зразумець, дзе ён і што з ім.

У наступны момант хлопчык усхапіўся на ногі і, паглядзеўшы па баках, расчаравана прамовіў:

— Ну вось, а мне снілася, што я ўжо дома, сяджу за сталом і ем смачныя аладкі са смятанай. І трэба было табе разбудзіць мяне якраз тады, калі я толькі што ўзяўся за шостую аладку,— уздыхнуў ён.

— Я разбудзіла цябе, каб ты мог не ў сне, а папраўдзе вярнуцца дадому,— сказала Карына.— Зірні, на чым мы зараз паляцім.

Убачыўшы верталёт, Граня недаверліва пакасіўся на Карыну:

— Слухай, а ты ўпэўнена, што разбудзіла мяне?

— Усё залежыць ад таго, што ты бачыш перад сабой — верталёт ці аладкі,— засмяялася дзяўчынка.

Калі яны падышлі да верталёта, Граня разгублена сказаў:

— Дык ён жа пластмасавы!

— Пачакай, ты яшчэ не так здзівішся, калі ўбачыш пілота,— паабяцала Карына.

Праз хвіліну верталёт падняўся ў паветра і зрабіў круты разварот. У той жа момант рака ўспыхнула блакітным полымем і знікла. Там, дзе яна толькі што цякла, з'явіліся дрэвы. Між імі стаяла старая Аўга і трасла кулаком у бок верталёта, які хутка знікаў з яе вачэй.

### 26. ВЯРТАННЕ

— Вось ён які, твой сябар,— сказала Неаніла, з цікавасцю разглядаючы Граню, калі дзеці вылезлі з верталёта.— Ростам такі ж, як і я.

— Мой тата ў школе таксама кепска рос,— буркнуў Граня.— Затое цяпер ён самы высокі ў нашай сям'і.

— Хіба гэта так важна? — узняла бровы Неаніла, пасля звярнулася да Карыны:

— Я рада, што ты знайшла свайго сябра. Думаю, цяпер вы хутка трапіце дадому, бо ў маёй краіне ёсць дарога, якая вядзе проста ў Краіну Людзей. Але спачатку я хацела б, каб вы ў мяне павячэралі.

Карына і Граня не сталі адмаўляцца ад запрашэння і разам з маленькай феяй накіраваліся да альтанкі, у якой на століку ўжо стаялі талеркі з апетытнымі кавалачкамі смажанага мяса, гароднінай і садавінай.

Калі яны павячэралі, Неаніла правяла Карыну і Граню да варотаў замка і паказала на адну з дарог:

— Па гэтай дарозе трапіць у вашу краіну значна прасцей, чым вярнуцца назад. Таму падумайце, перш чым развітацца: можа, пагасцюеце ў мяне хаця б некалькі дзён?

Дзякуй, але нас ужо дома даўно чакаюць і хвалююцца,— уздыхнула Карына, якой, папраўдзе, вельмі хацелася пагасціць у Неанілы.

У гэты момант да іх падбег Галоўны Канструктар.

— Ваша Вялікасць! — звярнуўся ён да феі, узняўшы рукі.— Гэтыя канструктары-самавукі мяне зусім не слухаюцца! Яны разбіраюць у Вашым садзе чыгунку і хочуць будаваць новую! Але хіба можа ў самавукаў нешта атрымацца?! Вось пабачыце, Ваша Вялікасць...

— Ах, прабач, ты мне надакучыў,— перабіла яго маленькая фея, дастала з кішэні бліскучы пруцік і дакранулася ім да Галоўнага Канструктара.

— Ай! — усклікнуў Галоўны Канструктар і паваліўся на зямлю.

Неаніла яшчэ раз дакранулася да яго чароўным пруцікам, і Галоўны Канструктар зрабіўся зусім маленькім. Фея падняла яго, пакруціла ў руках і працягнула Карыне:

— Вазьмі на памяць. Цяпер гэта звычайная пластмасавая цацка.

— Дзякуй,— сказала Карына. Затым дастала з кішэні маленькае люстэрка.— А гэта Табе на памяць.

Калі замак застаўся далека ззаду, Карына задумліва прамовіла:

— Ёй, відаць, тут так адзінока.

— Калі б я ўмеў чараваць гэтак жа, як яна, мне б ніколі не было адзінока. Я знайшоў бы чым заняцца,— летуценна прамовіў Граня.

Карына ўздыхнула, але нічога не сказала. Наперадзе паказаўся лес.

— Во будзе цікава, калі мы зноў апынемся ў ведзьмаў! — прамармытаў Граня.

Карына маўчала. У яе вачах было столькі суму, што, здавалася, яна вось-вось заплача.

Лес сустрэў іх цішынёй і змрокам. Сонца ўжо схавалася за даляглядам, і на небе вісеў бледны, яшчэ белаваты месяц.

— Паглядзі! — раптам усклікнула Карына і паказала Граню руку. Залатая нітка, завязаная Урсулай на яе запясці, ператварылася ў звычайную шаўковую.

Граня зірнуў на сваю руку і ўбачыў такую ж шаўковую нітку.

— Цяпер ведзьмы могуць ператварыць нас у каго заўгодна,— занепакоіўся ён.

— Толькі наўрад ці яны стануць тут нас шукаць. Асабліва Аўга, пасля таго як Ганеста забрала ў яе пярсцёнак,— супакоіла Граню Карына.

Хутка дарога вывела іх на ўзлесак, за якім пачыналася поле. За полем шматлікімі агнямі свяціліся вокны і вуліцы вячэрняга горада.

— Слухай, гэта ж Мінск! — радасна закрычаў Граня.— Мінск! Мы дома!

Карына спынілася, дастала з кішэні пластмасавага чалавечка і некалькі хвілін трымала яго на раскрытай далоні, быццам чакала, што ён вось-вось замахае рукамі і пачне крычаць: "Адпусціце мяне! Я Галоўны Канструктар Яе Вялікасці феі Неанілы! Вы не маеце права насіць мяне ў кішэні!"

Але пластмасавы чалавечак маўчаў.

Тады Карына сціснула яго ў далоні і кінулася даганяць Граню. Хутка яны зноў ішлі побач.

Граня нешта сказаў дзяўчынцы, і яна звонка засмяялася. Гэты смех падхапіла рэха і панесла назад — ляснымі сцежкамі, таямнічымі і нябачнымі, што вядуць у дзіўныя і загадкавыя краіны, якія не знойдзеш на карце.

# ПРА МАЛПАЧКУ ЧЫТУ І ЯЕ СЯБРОЎ

## ЯК МАЛПАЧКА СТАЛА ПАДАРУНКАМ, І ШТО З ГЭТАГА АТРЫМАЛАСЯ

Гэта быў самы звычайны дзень, падобны на ўсе іншыя нічым не прыкметныя дні, у якія зусім не верыцца ў што-небудзь неверагоднае. Адным словам, такі ж звычайны, як і сённяшні. Паглядзі ў акно: хіба за ім не ўсё тое, абыклае, што ты бачыў ужо тысячу разоў? Тыя ж дамы, дрэвы, дарога… Нават верабей на галінцы клёна — ну, прыгледзься, гэта ж той самы верабей, які прылятае сюды кожны божы дзень.

Праўда, тады была сярэдзіна красавіка, якраз пятнаццатае чысло, а сонца толькі-толькі расчухвалася за даляглядам, незадаволенае, што трэба ўставаць на некалькі хвілін раней, чым учора. Але што ў гэтым незвычайнага, такога, каб можна было падумаць: ах, ну і дзянёк, пэўна, сёння здарыцца нешта неверагоднае!

Ніхто так не падумаў. Нават той, хто бачыў, як польска-беларускую мяжу пераехаў легкавы аўтамабіль з амерыканскімі нумарамі і тут жа спыніўся. З яго выйшаў высокі пан гадоў сямідзесяці і ўсклікнуў: "Ах, зямля маіх продкаў!" І нават праслязіўся. Затым зноў сеў за руль і паехаў далей, паўтараючы: "Ах! Ох!" Праўда, невядома, на гэты раз прычынай яго "ахаў" і "охаў" былі беларускія краявіды ці калдобіны прасёлачнай дарогі, на якую пан неўзабаве звярнуў.

І ўсё ж, менавіта ў той дзень, дакладней, у тую раніцу пятнаццатага красавіка, адбылося адно неверагоднае здарэнне. Хочаце ведаць якое? Тады паспяшаемся за амерыканцам — яго машына яшчэ не прызвычаілася да беларускіх дарог і спуджана тармазіла перад кожнай калдобінай, як перад прорвай.

Але, па праўдзе кажучы, не машына павінна нас цікавіць, а тое, што хвастом цягнулася за ёю, пагрукваючы, падскокваючы і праваьваючыся ў ямкі, якія, вядома ж, ніхто знарок тут не выкопваў — а раз іх ніхто не выкопваў, то іх не было каму і засыпаць.

Хвастом на самай справе быў прычэп, дакладней, невялікі драўляны домік на чатырох колах — з вокнамі, дзвярыма і нават трубой на даху. Усярэдзіне доміка мелася ўсё неабходнае для пражывання ў ім: стол, крэсла, канапа, печка, халадзільнік, шафа, тэлевізар — і гэта, калі не лічыць усялякіх прыемных, а часам і вельмі неабходных дробязей. Па дакументах домік належаў амерыканскаму пану, але жыла ў ім і карысталася ўсімі яго выгодамі Малпачка па імені Чыта. Гэта была маладая мартышка з рудой шавялюрай і доўгім хвастом.

У тую раніцу пятнаццатага красавіка Чыта прачнулася ад таго, што канапа, на якой яна спала, ні з таго ні з сяго вырашыла яе скінуць. Яна нахілялася то ў адзін бок, то ў другі, то раптам падкідала Малпачку ўгору.

Чыта прадзерла вочы і не адразу зразумела, што гэта не канапа яе ўзбунтавалася — проста домік усё яшчэ некуды ехаў, як і тады, калі яна клалася спаць.

Чыта супакоілася — яна любіла падарожжы. Малпачка датэпала да халадзільніка, дастала банан, вярнулася на канапу і пачала марыць, куды б ёй

хацелася трапіць на гэты раз. На бераг мора? Ах, не! Там так шумна, і ні адной малпы, адны людзі, няма з кім словам перакінуцца. У горы? Хопіць, была ўжо аднойчы і ледзь не прастудзілася. Вось каб у якія-небудзь джунглі. Там і дрэваў шмат, і ёсць з кім пагаварыць.

Малпачка і не падазравала, што паўгода таму яе гаспадар атрымаў ліст з Беларусі ад свайго траюраднага брата, пра якога ведаў толькі з бацькавых слоў. І вось цяпер ён ехаў па зямлі сваіх продкаў, расчулены да слёз, ехаў у госці да траюраднага брата і вёз у падарунак... яе, Малпачку Чыту, разам з домікам на чатырох колах і ўсімі яго выгодамі. Сцены і дах доміка нехта размаляваў, не шкадуючы фарбаў. Атрымалася дзіўная карціна: проста на вяршалінах зялёных пальмаў стаялі вялізныя сподкі з рознымі фруктамі — бананамі, апельсінамі, абрыкосамі. Над імі плылі воблакі мудрагелістай формы. Зрэшты, калі прыгледзецца, усе яны крыху нагадвалі маленькіх малпачкаў.

Спачатку машына трэслася між палёў, пасля нырнула ў лес — гэта пачыналася Белавежская пушча.

Чыта паспела з'есці тры бананы (як вядома, лепш за ўсё марыцца, калі ясі бананы ці яшчэ якую-небудзь смакату) і сабралася ісці па чацвёрты, але тут домік страсянуўся так, што ў вокнах зазвінелі шыбы, і спыніўся.

Чыта падышла да акна і адхінула фіранкі. За акном раслі дрэвы, на якіх пачалі прабівацца маладыя лісточкі. Дрэў было многа. Цэлы лес.

"Ага, мы ўсё ж прыехалі ў джунглі! — падумала Чыта.— Пахвальна, пахвальна".

Зразумела, цяпер ёй было не да бананаў. Бананамі абарыгенаў не здзівіш. А Чыце вельмі хацелася паказаць мясцовым малпам (а заадно і ўсім астатнім лясным жыхарам), што яна не роўня ім — жыве ў вялікім горадзе, у сваім доме, глядзіць тэлевізар, аб'ездзіла ўвесь свет, а тут — праездам.

Чыта палезла ў шафу і дастала цёмныя акуляры. З хвіліну пакрасавалася перад люстэркам, што вісела на сцяне, пасля чаго важна сышла па прыступках маленькага ганка.

Спачатку ёй падалося, што праз акуляры чамусьці відаць не ўсё, што павінна быць бачна. Чыта хуценька зняла іх, але і без акуляраў не ўбачыла машыны свайго гаспадара. Машына як скрозь зямлю праваліласся!

Чыта села на ганачак і стала чакаць: можа, яна хутка вернецца? Можа, яна шукае, дзе развярнуцца? Але час ішоў, сонца падымалася ўсё вышэй і вышэй, а машына не з'яўлялася.

А пасля Чыта захацела есці. Яна рашыла, што ўсё роўна дзе чакаць: у доміку ці на ганку, і паднялася ў домік. Калі сонца схавалася за дрэвамі і ў лесе пачало шарэць, Чыта зразумела: машына ўжо не вернецца. Раз яе, Малпачку, не кінуліся шукаць сярод дня, то ў прыцемках і пагатоў не кінуцца.

"Я ведала, гэта павінна было некалі здарыцца,— падумала Чыта.— Мой гаспадар ужо ў такім узросце, што яго самога пара вазіць у прычэпе, не дзіва, калі ён забыўся пра мяне".

Іншыя на яе месцы, магчыма, засмуціліся б, толькі не Чыта. Галоўнае — дом, а ён на месцы, нікуды не знік. Адно што спыніўся пасярод дарогі — ні прайсці ні праехаць.

Малпачка саскочыла з ганка, з усяе моцы ўперлася ў вугал доміка, і домік — балазе было з горкі — пакаціўся. Спачатку павольна, затым усё хутчэй і хутчэй. Наскочыўшы колам на камень, домік рэзка павярнуў убок, з дарогі, Чыта ўжо не піхала яго, а сама ледзь паспявала за ім.

Пэўна, не размінуўся б домік з якім-небудзь дрэвам, каб не сустрэўся на яго шляху малады арэшнік. З кустоў ён выехаў прыструнены і, быццам для прыліку, пракаціўшыся некалькі метраў, спыніўся акурат перад высокай старой сасной.

Так Малпачка Чыта пачала жыць у Белавежскай пушчы.

## ПРЫСТОЙНАЯ КАМПАНІЯ

Чыта папраўіла цёмныя акуляры і выйшла з доміка. Раз ужо яна трапіла сюды, трэба паглядзець, што гэта за лес і ці знойдзецца тут для яе прыстойная кампанія. Аднойчы яна чула, як гаспадар выгаворваў свайму сыну: "І што ў цябе за галава такая! Табе чатырнаццаць гадоў, а ў ёй розуму менш, чым у галаве нашай Малпачкі. Няўжо ты не можаш знайсці сабе прыстойную кампанію? Не раўняйся на таго, у каго няма чаму павучыцца".

З падслуханай размовы Чыта зрабіла для сябе дзве высновы. Першая: яна разумнейшая за сына гаспадара, хоць ён вучыцца ў школе, а яна не. Другая: прыстойная кампанія на дарозе не валяецца. Дый на каго Чыце раўняцца, калі яна пераканана, што ўсе павінны раўняцца на яе? А чаму б і не! Яна праз дзень сама засцілае свой ложак — раз! Ведае столькі літар, што можа прачытаць амаль што любое слова — два! Раз у тыдзень сама, без прымусу, чысціць зубы — тры!.. Адным словам, калі б прэзідэнтам Амерыкі можна было выбіраць мартышку — Чыта была б першай канкурэнткай. А можа, нават і адзінай.

Малпачка адышлася недалёка ад свайго доміка і агледзелася. Папраўдзе, яна думала, джунглі — гэта такія зараснікі, што калі залезеш на дрэва, то за лісцем не ўбачыш травы, а калі злезеш на зямлю, за лісцем не ўбачыш неба. Але навокал быў такі прастор, хоць у баскетбол гуляй (пра баскетбол Чыта падумала невыпадкова — яна страх як любіла глядзець гэтую гульню па тэлевізары).

— Ну, што ж,— уголас прамовіла Малпачка,— з двух адно: або гэта не джунглі, або джунглі бываюць не толькі такія, як паказваюць па тэлевізары.

І тут яна ўбачыла Зайца. Ён ішоў проста на яе і з такім смакам грыз вялую морквіну, што нічога не бачыў перад сабою.

Чыта папраўіла акуляры і, заклаўшы рукі за спіну (так у тэлевізары часта рабілі босы, калі размаўлялі са сваімі падначаленымі), спытала:

— Скажыце, вы адсюль будзеце?

Ад нечаканасці Заяц аж падскочыў і спалохана ўтаропіўся на Чыту.

— М-м-м... ага,— кіўнуў ён.

— О'кэй. Мяне завуць Чыта,— прадставілася Малпачка.—

Я падарожнічаю па свеце і выпадкова апынулася ў вашых краях. Скажыце, гэта джунглі?

Заяц доўга спрабаваў зразумець, што ад яго хочуць, і нарэшце адказаў наўздагад:

— Не, гэта дрэвы.

— Няўжо? — чмыхнула Чыта.— А я думала, тут пні такія высокія. Не,— зазначыла яна,— прыстойная кампанія, і праўда, на дарозе не валяецца.

Тым часам Заяц зусім ачомаўся і з цікавасцю разглядаў госцю.

— А ты, відаць, і праўда, здалёк ідзеш,— нарэшце сказаў ён.

— "Ты"! Падумаць толькі, якая фамільярнасць! — буркнула Чыта, абураная тым, што даўгавухі не бачыць у ёй свецкую паненку. А яна яшчэ звярталася да яго на "вы"!

— І як ты ўцяміў, што я здалёк іду? — ганарыста спытала яна.— Напэўна, у мяне выгляд не якой-небудзь правінцыялкі, а сталічнай асобы?

— Проста сярод нас няма нікога... з такім хвастом... і носам, як у цябе,— прызнаўся Заяц.

— Ты хочаш сказаць, што тут не жывуць малпы? — насцярожылася Чыта.— А хто ж тады тут жыве?

— Ну, Вавёрка, Бусел, Сарока, Воўк, Зубр, Ліса...

— І ні адной малпы?! — прастагнала Чыта.— Няўжо я тут не знайду сабе прыстойную кампанію?

— Чаму не знойдзеш? — здзівіўся Заяц.— Хоць бы Вавёрка — хіба кепская кампанія?

— І чым жа яна такая адметная? — недаверліва спытала Чыта.

— О, Вавёрка спрытна лазіць па дрэвах і ўмее скакаць з ад наго дрэва на другое! — з зайздрасцю прамовіў Заяц.

— Ну, гэтага мала, каб я пасябравала з ёю,— напышліва сказала Чыта.— Вось калі яна цікавіцца тым, што робіцца ў свеце, калі з ёй можна абмеркаваць апошнія навіны...

— Усе навіны нам прыносіць Сарока. Яна ведае, дзе, калі, з кім і што здарылася. І нават часам тое, што яшчэ павінна здарыцца.

— Хм, пахвальна,— пакруціла галавой Чыта.— А яна любіць падарожнічаць? На мора альбо ў горы?

— Падарожнічае ў нас Бусел,— патлумачыў Заяц.— Кожную восень ён ляціць з пушчы і вяртаецца толькі ўвесну. Калі б не ён, мы б і не ведалі, што наша пушча самая лепшая ў свеце!

— Пахвальна,— сказала Чыта,— я таксама люблю доўгія вандроўкі. Толькі ў свеце зусім мала мясцін, дзе можна добра адпачыць! Дзе няма гэтых... гэтых людзей, для якіх ты ніколі не будзеш роўняй. А так хочацца нечага, нечага... Ах, нечага незвычайнага! Хочацца трапіць на які-небудзь бязлюдны востраў, дзе было б усё: рэкі, горы, джунглі, гарады, машыны... Хоць ты наўрад ці гэта зразумееш.

Заяц цяжка ўздыхнуў і не стаў пярэчыць. Вядома, адкуль ён мог зразумець, раз ніколі не паказваў вушэй далей сваей пушчы!

— Ну, а гэты... як ты яго назваў? Бусел? Ён разбіраецца ў модзе? — спытала Чыта.— Ён ведае, якія акуляры ці капялюшыкі гэтай вясной носяць у Парыжы?

— Капялюшыкі? У Пар... У Парыжы? Думаю, не вельмі,— крыху разгублена адказаў Заяц.— Ён і боты заўсёды адны і тыя носіць — чырвоныя. Вось Ліса — тая ведае. Яна кожны дзень, перад тым як выйсці з хаты, дзесяць бантоў перамерае. На любую пагоду ў яе свой бант.

— Пахвальна,— сказала Чыта.— Такая пераборлівая паненка павінна мецць галаву на плячах. Прызнайся, яна сярод вас самая разумная і вы ўсе ходзіце да яе раіцца?

— Не,— пачухаў патыліцу Заяц,— калі што якое, мы ідзём да Зубра. Ён хоць нідзе не бывае і за модай не гоніцца, але і слабейшага ў крыўду не дасць, і кепскага ніколі не параіць.

— Та-а-ак,— задумліва працяТнула Чыта,— і за модай не гоніцца, і нідзе не бывае. О'кэй. Адным словам, прыстойная кампанія на дарозе не валяецца.

— Вядома,— падхапіў Заяц.— Вось я, калі захачу паваляцца, шукаю, дзе памякчэй,— мох альбо густую траву. А на дарозе ці ў полі хвіліну паляжыш — потым гадзіну адмывацца будзеш.

Пахвальна,— уздыхнула Чыта. І, думаючы пра нешта свае, паўтарыла яшчэ некалькі разоў: — Пахвальна, пахвальна...

## ЯК СУДЗІЛІ ЗАЙЦА

Чыце надакучыла глядзець тэлевізар. Усё, што Малпачка зразумела дзякуючы яму,— у краіне, куды яна трапіла, вельмі любяць назіраць, як трактары сюды-туды ездзяць па палях. Інакш навошта іх штодзень паказваць па тэлевізары?

Раптам Чыта пачула за акном трэск і аж падскочыла — можна было падумаць, што трактары ўжо дабраліся і да яе доміка.

Яна выскачыла на ганак, але замест трактароў убачыла Сароку, якая сядзела на сасне і трашчала так, быццам перакрыквалася з некім на другім краі пушчы.

Чыта счакала, пакуль Сарока замоўкне, і сказала з непрыхаванай іроніяй у голасе:

— Яшчэ хвіліна, і я аглухла б ад тваёй траскатні і не даведалася, з-за чаго ты падняла такі гвалт.

— Ты не паверыш! — Сарока зляцела з сасны на ганак.— Ты не паверыш! Заяц ішоў па лесе,— яна расказвала і пры гэтым траслася ад смеху,— і, як заўсёды, грыз вялую морквіну. Вечна галодны! Галодны і ні на што не годны, кхі-хі-хі! А калі ён што-небудзь грызе, то нічога і нікога не бачыць. А Вавёрка, кхі-хі-хі! Вавёрка на сасне перабірала леташнія шышкі. Хоць якія там шышкі — адны пустышкі! Адна шышка ўпала і...

— Стукнула Зайцу па галаве,— хіхікнула Чыта.

— Як, ты ўжо ведаеш гэтую гісторыю? — здзівілася Сарока.

— Не,— хмыкнула Чыта,— але, каб шышка праляцела міма, ты цяпер не трашчала б на ўвесь лес.

— Але ж ты не ведаеш, што было далей! — усклікнула Сарока і зноў стала душыцца смехам.

— Бедны Заяц ад страху страціў прытомнасць альбо падавіўся вялай морквінай,— выказала здагадку Чыта.

— Не,— пакруціла галавой Сарока.— З перапуду ён кінуўся наўцёкі і наскочыў на Лісу. Тая таксама падумала немаведама што і шуснула проста ў

хмызняк. Быў у Лісы капялюш — ці то брат падарыў, ці то муж. А стала анучка з дзіркаю.

— І што далей? — нецярпліва спытала Чыта.

— А што далей? — не зразумела Сарока.— Нічога далей.

— Як? Хіба Ліса не збіраецца судзіцца з Зайцам?

— Судзіцца? Яна што, з глузду з'ехала? Пры сустрэчы дасць касому ў карак, вось і ўвесь суд!

— Задавальнення на адну хвіліну,— чмыхнула Чыта. З гэтага здарэння можна мець большую выгоду. Бачыў хто-небудзь, як усё было?

— Усе бачылі — і я, і Бусел, і Зубр.

— Кліч усіх сюды! — загадала Чыта.— Вінаватых, пацярпелых, сведкаў — усіх сюды. Я навучу вас, як трэба судзіцца.

Праз паўгадзіны каля доміка Чыты сабраліся жыхары пушчы. Апошнім прыйшоў Зубр. Ён усеўся крыху наводдаль і, паправіўшы акуляры, разгарнуў газету, абыякавы да ўсяго, што ад бывалася навокал.

— Ну, што ж,— урачыста прамовіла Чыта,— усе сабраліся. Можна пачынаць пасяджэнне суда. Пацярпелая,— звярнулася яна да Лісы,— раскажыце, як усё было.

Ліса дастала з сумачкі люстэрка і памаду, акуратна падмалявала вусны і нарэшце сказала:

— Ах, у нашай пушчы стала зусім немагчыма жыць. Да чаго дайшло: зайцы з ног збіваюць! Хутка зусім на галаву сядуць! Вось, палюбуйцеся!

Яна дастала з сумачкі парваны капялюшык і паказала прысутным.

— Я яго не рваў! — абурыўся Заяц.

— Калі Заяц наскочыў на мяне,— патлумачыла Ліса,— я, вядома, спалохалася, бо не разгледзела яго, і кінулася ў хмызняк. Мой капялюшык зачапіўся за сухую галінку — і вось...

Ліса зноў прадэманстравала прысутным парваны капялюшык.

— Сведкі, вы пацвярджаеце, што ўсё так і было? — звярнулася Чыта да Сарокі, Бусла і Зубра.

— Пацвярджаем, пацвярджаем, усё бачылі, усё знаем,— за ўсіх адказала Сарока. Бусел кіўнуў галавой, а Зубр нават не адарваўся ад газеты.

— О'кэй, суду ўсё зразумела,— заявіла Чыта.— Заяц павінен заплаціць Лісе за капялюшык. Заплаціць... заплаціць... Дай сюды яго,— загадала яна Лісе.— Я хачу вызначыць, колькі ён можа каштаваць.

Узяўшы капялюшык, Чыта пакруціла яго ў руках і прамармытала пад нос:

— Так, халтурная работка. Парыжам тут і не пахне. Я такі нават поначы, калі ніхто не бачыць, не стала б насіць. Я думаю,— звярнулася яна да прысутных,— цана гэтаму капялюшыку пяць доляраў, якія Заяц і павінен аддаць Лісе.

— У мяне няма ніякіх доляраў,— запінаючыся, прабубніў Заяц.— Я нават не ведаю, што гэта такое. Можа, яны растуць немаведама дзе. А калі яшчэ і на дрэве, то...

— Долары — гэта грошы,— перабіла Зайца Чыта.— І я магу табе іх пазычыць. Пасля вернеш.

— Як жа я іх вярну, калі мушу аддаць Лісе? — падумаўшы, спытаў Заяц.

— Гэта я бяру на сябе,— паабяцала Малпачка і патлумачыла: — Ліса таксама не святая. Сёння ты перад ёй правініўся, заўтра яна перад табой. Вы ж суседзі, а паміж суседзямі чаго не бывае. Вось мы тады і асудзім яе на пяць долараў. Яна аддасць іх табе, а ты вернеш мне!

Чыта збегала ў свой домік і вярнулася з пяцідоларавай паперкай.

— На,— працягнула Зайцу,— і аддай Лісе.

Ліса доўга разглядала паперку.

— А што мне з ёю рабіць? — нарэшце спытала яна ў Малпачка.

— Як што? За такія грошы ты можаш купіць новы капялюшык.

— Які ж дурань аддасць мне за паперку новы капялюшык? — з сумненнем прамовіла Ліса.

— Цямрэча! — пакруціла галавой Чыта.— Вось трапіш у Амерыку, там без такіх паперак і кроку не зробіш!

Ліса недаверліва пакасілася на Чыту і ўсё ж схавала грошы ў су мачку.

— А цяпер,— задаволена сказала Малпачка,— паслухаем пацярпелага Зайца, на якога звалілася Вавёрчына шышка.

— Ну... ну...— пачаў Заяц, але ніяк не мог знайсці патрэбныя словы.— Ну...

— Што ты ўсё "нукаеш"! — з'едліва сказала Чыта.— Шышка на цябе падала?

— Падала,— нясмела адказаў Заяц.

— А што скажуць сведкі? — паглядзела Чыта на Сароку, Бусла і Зубра.

— Усё так і было, так і было,— зноў усіх апярэдзіла Сарока.— Зайца як ветрам змяло!

— О'кэй, а што скажа Вавёрка ў свае апраўданне? — пацікавілася Чыта.

— Я расклала шышкі на парозе,— пачала тлумачыць Вавёрка,— а тут падняўся вецер. Дрэва захісталася, і адна шышка упала на зямлю... Я хацела сказаць, "на Зайца",— тут жа паправіла сябе Вавёрка і дадала: — Гэта праўда.

— Праўда, праўда! — насмешліва пацвердзіла Сарока.— Яна ніколі не махлюе — дзе трэба і дзе не трэба! Такая ўрадзілася.

— Атрымліваецца, усяму прычынай быў вецер,— пасля кароткай паўзы прамовіла Чыта.— Але вецер можа дзьмуць, калі яму ўздумаецца. Яму нельга забараніць сціхнуць. Значыць... Значыць, вінаваты Заяц!

— Заяц? Як Заяц? Чаму Заяц? — затрашчала Сарока.

— Хіба можна быць вінаватым у тым, што на цябе падаюць шышкі? — заступіўся за касога Бусел.

Нават Зубр адарваўся ад газеты і пакруціў галавой:

— Ну, гэта ўжо занадта!

Ціха! Ціха! — узняла рукі Малпачка. Яна дачакалася, пакуль усе супакояцца, і прадоўжыла: — О'кэй. Па-вашаму, атрымліваецца, калі, напрыклад, Зубр зачэпіцца за які корч і ўпадзе, вінаватым будзе хто заўгодна, толькі не ён сам? Ці, можа, калі Вавёрка намокне пад дажджом, бо не захоча хавацца ў дупле, вінаватым будзе дождж, а не Вавёрка? Ну і парадачкі ў вас!

— Я, вядома, чуў, быццам амерыканскія законы вельмі добрыя, але караць Зайца за тое, што на яго упала шышка... Гэта, па-мойму, несправядліва,— задумліва заўважыў Бусел.

— А хто сказаў, што яго трэба караць? — спытала Чыта.— Я хіба гаварыла, што яго трэба караць? Ён сам сябе пакараў, калі шышка... Куды табе трапіла шышка? — звярнулася яна да Зайца.

— У галаву,— буркнуў той.

— Калі яна бацнула яму па галаве і, можа, нават набіла шышку... Хм, пахвальна: шышка набіла шышку — цікава атрымліваецца. Ну, вось,— прадоўжыла яна пасля паузы,— кожны атрымаў па справядлівасці. Значыць, на гэтым суд можна завяршыць.

Жыхары пушчы пачалі разыходзіцца. Ліса падышла да Зайца, яе прыжмураныя вочы блішчэлі ад злосці.

— Можа, паперка, якую ты мне даў, і добрая плата за капялюшык,— сказала Ліса,— але я не задаволюся, пакуль не трэсну табе па карку.

І не чакаючы, пакуль Заяц скеміць, як ратавацца, стукнула яго так, што касы аж перакуліўся.

— Стойце! — закрычала Чыта.— Усе вярніцеся на свае месцы! Толькі што на вашых вачах Ліса пакрыўдзіла Зайца. Яна павінна быць пакарана, і не менш, чым на пяць долараў. Пасяджэнне суда працягваецца!

Ліса палезла ў сумачку і дастала пяцідоларавую купюру. Па яе вачах было відаць, што ёй не вельмі шкада развітвацца з гэтай паперкай і што яна зусім не раскайваецца за свой учынак.

## ЯК ЗАЯЦ ХАЦЕЎ НАВУЧЫЦЦА ЧЫТАЦЬ

Аднойчы раніцай Заяц прыйшоў да Малпачкі і з парога папрасіў:

— Чыта, навучы мяне чытаць!

— Цябе? Чытаць? — здзівілася Малпачка.— А навошта? Можа, ты атрымаў ліст ад далёкага сваяка і хочаш ведаць, што ён піша? Думаеш, раптам сваяк адклаў для цябе кругленькую суму, я адгадала?

— Ніякага ліста я не атрымаў,— пацiснуў плячыма Заяц.

— А што тады?

— Я хачу навучыцца проста так, на ўсялякі выпадак. А то Зубр умее, Бусел умее, нават Вавёрка нешта пэкае пад нос, а я... Чым я горшы за яе?

— Хм, пахвальна,— сказала Чыта.— Але навучыцца чытаць вельмі няпроста. І на гэта патрэбна шмат часу.

— А я сёння якраз нічым не заняты,— паведаміў Заяц.— Магу вучыцца хоць да вечара.

— Хоць да вечара! — перадражніла Чыта.— Нават я вучылася чытаць два месяцы! Месяц па-англійску і месяц па-беларуску, дзякуючы майму гаспадару, які выпісваў беларускія газеты. А табе давядзецца папыхцець не менш, чым чатыры месяцы.

— Чатыры месяцы! — усклікнуў Заяц.— У мяне не будзе столькі вольнага часу. Вось каб зімою, тады іншая справа. А цяпер ніяк не атрымаецца. Спачатку

трэба дасеяць агарод, пасля давядзецца яго палоць, пасля… Паслухай, а калі я буду вельмі-вельмі старацца, я здолею навучыцца чытаць за месяц?

— Ніколі! — упэўнена прамовіла Чыта.

— Ну… ну, а за два?

— Не думаю,— ухмыльнулася Малпачка.

— Няўжо так складана навучыцца чытаць?

— Вядома, складана. Спачатку трэба вывучыць усе літары.

— А я ўжо ведаю ўсе літары! Аднойчы Вавёрка малявала іх на пяску, і я запомніў. Толькі,— уздыхнуў Заяц,— мне ніяк не ўдаецца скласці з іх хоць адно слова.

— Ты ведаеш усе літары? — здзівілася Чыта.

— Ведаю,— з гонарам паўтарыў Заяц.— Я ведаю літару "а", літару "э", літару "у", літару "о"… І яшчэ некалькі, толькі я забыўся, як яны называюцца. Усяго дзесяць, не менш.

— Дзесяць? Усяго дзесяць? — перапытала Чыта.— Але ж літар значна больш!

— Праўда? — у голасе Зайца адчуваўся недавер.— А навошта іх так многа? Хіба дзесяці недастаткова?

— Вядома, не,— сказала Чыта,— таму што розныя словы пішуцца рознымі літарамі.

— А хіба нельга розныя словы пісаць аднымі і тымі літарамі? — задумліва спытаў Заяц.

— Не, з адных і тых жа літар атрымліваюцца адны і тыя ж словы,— цярпліва патлумачыла Чыта.

— Шкада,— уздыхнуў Заяц.— Слоў так многа! Значыць, і літар павінна быць… О, мне іх нізавошта не запомніць!

— Я ж гаварыла,— хмыкнула Чыта,— навучыцца чытаць вельмі няпроста. Нават я…

— А мне так хацелася навучыцца чытаць,— не слухаючы Малпачку, жаласна сказаў Заяц.— Хаця б якое-небудзь адно слова.

— Ну, навучыцца чытаць адно слова не праблема,— абнадзеіла касога Чыта.— Для гэтага нават не трэба ведаць усе літары.

— Праўда? — узрадаваўся Заяц.— Тады навучы мяне чытаць якое-небудзь слова!

Малпачка падышла да стала, узяла аловак і чысты аркуш паперы, крыху падумала і напісала:

*ЕАЗЦ*

Нешта ёй у гэтым слове не спадабалася. Яна яшчэ падумала, затым закрэсліла дзве літары, а над імі напісала іншыя. Атрымалася так:




Цяпер, як быццам, усё было правільна, але слова не хацела чытацца так, як яно гучала, калі Малпачка клікала ім касога.

Чыта вырашыла яшчэ падумаць. Нарэшце зноў закрэсліла адну літару, а замест яе напісала іншую. Такім чынам, у яе атрымалася:



Ну, вось,— яна працягнула паперу Зайцу,— цяпер ты можаш запомніць, як пішацца слова "Заяц", і чытаць яго, колькі захочаш.

Заяц узяў паперу, паглядзеў на Чыціна пісанне і ўсклікнуў ці то здзіўлена, ці то захоплена:

— Якім вялікім словам я пішуся! Цэлая гара літар атрымалася!

І па дарозе дадому ён увесь час глядзеў на лісток з літарамі — яму хацелася хутчэй запомніць, як пішацца слова "Заяц".

## ЯК ПРАВОДЗІЛІ ТЭЛЕФОН

Чыта любіла прыбіраць у сваім доміку. Часам яна знарок растрыбушвала шафу або куфэрак, раскідала ўсё па падлозе, каб праз некалькі хвілін, охаючы, што ў яе такі беспарадак, пачаць раскладаць рэчы назад па сваіх месцах.

Аднойчы яна з той жа мэтай вывернула на сярэдзіну пакойчыка шуфлядкі стала і сярод рэчаў убачыла радыётэлефон. У Амерыцы Чыта любіла званіць сваей сяброўцы малпачцы, якая жыла па суседстве — праўда, не ва ўласным доміку, а ў доме свайго гаспадара, таму, зразумела, яна вельмі зайздросціла Чыце.

Ах, дзе цяпер яе амерыканская сяброўка? Што яна робіць? Можа, купаецца ў ванне? А можа, глядзіць тэлевізар?

Чыта хуценька набрала нумар яе тэлефона. Пасля некалькіх доўгіх гудкоў у трубцы пачулася:

— Алё!

Го л ас быў незнаемы, мужчынскі і не вельмі задаволены. "Цікава,— падумала Чыта,— адкуль у маім тэлефоне мог узяцца такі голас?"

— Хто гэта? — спытала яна.

— Крыванос, брыгадзір,— адказала трубка.

— А што вы там робіце, Крыванос-брыгадзір? — пацікавілася Чыта.

Яна хацела дадаць "у кватэры маёй сяброўкі", але тут успомніла, што ў гаспадара яе суседкі быў крывы нос — можа, якраз ён падняў трубку?

— Раманаўна, вы? — насцярожылася трубка.— Прабачце, не прызнаў. Дык гэта... сяджу вось, чакаю, пакуль запчасткі падвязуць... Раманаўна,— раптам узмалілася трубка,— перадайце Платонавічу: трактары стаяць, другі дзень не могуць у поле выйсці. Абяцаў эка запчасткі!

Пачуўшы пра трактары, Малпачка так раззлавалася, што забылася пра ўсё на свеце. Злосць на тэлевізар, якая з кожным днём расла ў яе душы, нарэшце выплюхнулася наверх:

— Ніякіх трактароў! Колькі можна: раніцай трактары, вечарам трактары! Адзін і той жа серыял! Не ўмееце самі рабіць, едзьце ў Мексіку, павучыцеся! Там гэтага дабра хапае!

— У Мексіку? — запінаючыся, разгублена перапытала трубка.— Дык я ж... Але хто ж мяне... А, праўда, можна, Раманаўна?

— Праўда, праўда. Ідзіце і пакуйце чамаданы,— загадала Чыта і адключыла радыётэлефон.

— Дзіўна,— прамармытала яна,— званіла сяброўцы, а трапіла на кінастудыю.

Малпачка сабрала раскіданыя рэчы і падзякавала самой сабе за працу.

Цяпер можна і адпачыць. Малпачка пакруціла ў руках радыётэлефон. Добра было б перакінуцца з кім-небудзь словам. Але яна ведала толькі адзін нумар, на які цяпер адзываўся брыгадзір па прозвішчы Крыванос.

"Да таго ж,— падумала Малпачка,— ён ужо, відаць, вылецеў у Мексіку".

Ні ў каго з жыхароў пушчы тэлефона не было — як яны абыходзіліся без яго, Чыта нават не магла ўявіць сабе.

І тут ёй у галаву прыйшла цудоўная ідэя, якая прэтэндавала на тое, каб узрушыць увесь навуковы свет. Малпачка палезла ў куфэрак — у ім яна трымала рэчы, што трапілі да яе выпадкова і з якімі яна пакуль не ведала, што рабіць,— і дастала стары тэлефонны апарат з патрэсканай трубкай. Шмат гадоў ён спраўна служыў Малпачкінаму гаспадару, але, як вядома, некаторыя тэлефоны маюць звычку вырывацца з рук і падаць на падлогу, што ўрэшце здарылася і з гэтым апаратам, сведчаннем чаму і была патрэсканая трубка.

Гаспадар купіў новы тэлефон, а Чыта — так, на ўсялякі выпадак,— стары зацягнула да сябе ў домік і паклала ў куфэрак, дзе ўжо ляжалі шчарбатыя сподкі, кубкі, зламаныя аўтаручкі, туфель без каблука на правую нагу і шмат яшчэ чаго, на першы погляд, непатрэбнага, але, як гэты тэлефонны апарат з патрэсканай трубкай, гатовага спатрэбіцца ў любы момант.

Хутка, скліканыя Сарокай, каля доміка Чыты сабраліся жыхары пушчы.

Малпачка паказала ім тэлефонны апарат з патрэсканай трубкай і патлумачыла яго прызначэнне.

— Цяпер,— урачыста закончыла яна,— калі мне захочацца пагаварыць з кім-небудзь з вас, або каму-небудзь з вас са мной, не абавязкова трэба будзе перціся праз увесь лес, а можна проста зняць трубку і сказаць: "Алё!"

Наступіла доўгая паўза.

Нарэшце цішыню парушыў Зубр.

— Я, вядома, чытаў пра такія дзіва-апараты,— разважлівым голасам сказаў ён.— Рэч вельмі цікавая і, можа, нават карысная. Але, як я зразумеў, іх у цябе ўсяго два. Адзін ты пакінеш у сябе, а ў каго будзе стаяць другі? Нас жа многа,— нагадаў ён.

— О'кэй,— сказала Чыта,— я лічу, другі тэлефон павінен стаяць у самага паважанага і разумнага сярод вас...

Жыхары пушчы пераглянуліся паміж сабой.

— У Зубра,— закончыла Малпачка.

Зубр збянтэжана апусціў вочы.

— А калі ты, напрыклад, захочаш пазваніць мне? — нерашуча звярнуўся да Чыты Заяц.

— Тады Зубр цябе пакліча да тэлефона,— не задумваючыся, адказала Малпачка.

— Ды дзе ж я знайду яго? — нахмурыўся Зубр.— Ён жа носіцца як угарэлы па пушчы! За ім не ўгонішся!

— А праўда! Гэта ідэя! — ускліknула Чыта.— Тэлефон трэба паставіць у Зайца. Сярод вас ён самы хуткі.
— Самы хуткі, ды не помніць нічагуткі! — закрычала Сарока.— Ён жа, пакуль знойдзе каго, забудзецца, чаго шукаў! Мне трэба паставіць тэлефон! Я ведаю ўсе навіны, і са мной будзе цікавей, чым з кім, балбатаць.
— Ведаеш, ведаеш, ды больш на хаду прыдумляеш,— заўважыла Вавёрка.
— А ты, а ты!..— надзьмулася Сарока.— Ты зусім… таго… калі… заўсёды…
— Сціхніце! — цыкнуў Зубр.— Я думаю так: усім нам хочацца мець дома тэлефон. Але ён адзін, а нас вунь колькі.
— Як дзірак у рэшаце,— буркнула Сарока.
— Таму,— прадоўжыў Зубр,— мне здаецца, тэлефон трэба паставіць на паляне. Мы ўсе, апроч, вядома, Чыты, жывём недалёка ад паляны. І калі тэлефон зазвоніць, кожны з нас, калі будзе дома, зможа пачуць яго. А самае галоўнае, я думаю, тэлефон дапаможа нам часцей збірацца ўсім разам. А то жывём у адным лесе, можна сказаць, побач, а бачымся гады ў рады. Быццам нам і пагаварыць няма пра што.
— Але… але калі мы будзем пастаянна сустракацца ўсе разам, кожны і без мяне будзе ведаць усе навіны,— прамармытала сабе пад нос Сарока.— Усе будуць пераказваць адзін аднаму, што калі дзе зрабілася. Для чаго ж тады я? Хто мяне тады пачастуе за навіну, калі я не першая пра яе раскажу?..
Сарока яшчэ больш надзьмулася і пачала нервова хадзіць вакол лясной кампаніі.
— Пахвальна, пахвальна,— тым часам адобрыла прапанову Зубра Малпачка.
— А мы зможам пазваніць у Амерыку? — з надзеяй у голасе спытаў Бусел.
— А ў цябе там ёсць знаёмыя? — здзівілася Чыта.
— Не,— уздыхнуў Бусел,— але я якраз і хацеў бы з кім-небудзь пазнаёміцца.
— Для таго, каб каму-небудзь пазваніць, трэба ведаць нумар яго тэлефона,— сказала Чыта з выглядам знаўцы.— А ты ведаеш хоць адзін нумар тэлефона?
— Не,— зноў уздыхнуў Бусел.
— Пачакайце, пры чым тут Амерыка! — умяшаўся Зубр.— Хіба нам не будзе пра што паміж сабой пагаварыць?!
— Правільна,— падхапіла Ліса.— Давайце ж хутчэй што-небудзь рабіць!
Чыта крыху падумала і рашуча заявіла:
— Спачатку трэба выбраць для тэлефона прыдатнае месца.
І ўсе лясныя жыхары рушылі да паляны, пра якую гаварыў Зубр.
— Так,— задаволена прамовіла Малпачка, як толькі яны апынуліся на паляне,— тут нават можна ў баскетбол гуляць! Калі-небудзь я абавязкова навучу вас гуляць у баскетбол. А вось тэлефон… Дзе мы паставім тэлефон, каб яго можна было здалёк бачыць і каб на яго выпадкова хто-небудзь не наступіў? Пры гэтых словах Малпачка пакасілася на Зубра.
— На дрэве! — ускліknула Сарока.— Трэба павесіць тэлефон на дрэве! Тады на яго ніхто не наступіць.

— І не дастане,— прабубніў Зубр.— Ва ўсялякім разе, што да мяне, то я яшчэ не навучыўся лазіць па дрэвах.

— І я,— сказаў Заяц.

— І ў мяне ад вышыні галава кружыцца,— уздыхнула Ліса.

— Вось! — Малпачка паказала рукой на невысокі бярозавы пень пасярод паляны.— Вось дзе будзе стаяць тэлефон!

Яна падышла да пня і паставіла на яго тэлефон.

— Ну як? — Чыта абвяла ўсіх пераможным позіркам.

— Добра,— сказала Вавёрка.— І здалёк відаць, і ніхто не наступіць.

— Цяпер,— заявіла Малпачка,— пойдзем назад. Ёсць адна рэч, без якой па гэтым тэлефоне размаўляць немагчыма.

І лясныя жыхары ўслед за Чытай накіраваліся ў зваротны шлях.

Малпачка зайшла ў свой домік і праз хвіліну вярнулася са скруткам тонкага дроту, які неабачліва пакінулі без нагляду рабочыя, што некалькі гадоў таму каля дома яе гаспадара пракладалі падземны кабель.

— Вось,— патлумачыла Чыта, паказваючы скрутак сябрам,— канцы дроту мы злучым з тэлефонамі, і можна будзе званіць, колькі захочацца.

Па праўдзе кажучы, Малпачка сама не зусім разумела, чаму адны тэлефоны трэба злучаць дротам, іншыя не. Праўда, некалі гэта доўга і цярпліва тлумачыў яе гаспадар свайму сыну, але адкуль той мог дацяміць, калі да Чыты — самай разумнай малпачкі ў свеце,— якая сядзела тады побач, і то нічога не дайшло.

Аднак жыхары пушчы кожнае слова Чыты прымалі на веру — у яе дасведчанасці ніхто не сумняваўся.

— А цяпер,— сказала Малпачка,— давайце расцягнем дрот ад майго дома да паляны.

Адзін канец дроту яна прывязала да ручкі дзвярэй, а скрутак працягнула Зубру.

— Пайшлі,— скамандавала Малпачка, і ўсе зноў рушылі следам за ёй.

Але яны паспелі адолець толькі крыху больш за палову шляху, як дрот скончыўся.

— Та-а-ак,— пачухала за вухам Чыта,— што будзем рабіць? Дроту не хапае!

— Што будзем рабіць, што будзем рабіць! — забалабоніла Сарока.— Жыць, як жылі. І без тэлефона нам хапае звона!

— А можа, пашукаць карацейшы шлях? — прапанавала Малпачка.

І жыхары пушчы зноў вярнуліся да доміка Чыты. Але ў які бок яны ні ішлі, дроту ўсё роўна не хапала. Тым часам пачало змяркацца, і ўсе адчулі, як яны стаміліся.

— Я больш не магу,— заявіў Заяц.

Чыта абвяла ўсіх задумлівым позіркам і прамовіла:

— А што, калі нам тэлефон паставіць бліжэй да майго дому?

— Але бліжэй няма паляны,— сказаў Зубр.

— І пянька,— дадала Вавёрка.

— Калі тэлефон паставіць бліжэй да твайго дому, тады я са свайго дому не пачую, як ён будзе званіць,— заўважыла Ліса.

— І я,— падаў голас Бусел.

— Я ж кажу: нашто нам тэлефон — ад яго адзін звон,— залапатала Сарока.

— А што, калі нам пашукаць дзе-небудзь кавалак дроту? — прапанаваў Зубр.

— Дзе ж мы яго поначы знойдзем? — запярэчыў Заяц.— Ды я і так ледзьве ногі цягаю!

— Правільна,— сказала Чыта,— дрот гэта — такая рэч, якая валяецца, дзе заўгодна. Толькі шукаць яго мы пачнём не сёння, а заўтра раніцай.

Усе падтрымалі Малпачку і разышліся па дамах. Ноч завесіла неба чорнымі дзіравымі занавескамі. Стомленыя за дзень жыхары пушчы хутчэй забраліся ў свае пасцелі, пакуль нецярплівыя сны не пайшлі да каго-небудзь іншага.

Толькі Сарока не думала класціся. А калі наступіла поўнач, паднялася з гнязда і паляцела на паляну. Сарока апусцілася на пень і, насцярожана паглядзеўшы па баках, пачала са злосцю дзяўбці тэлефон.

Невядома, ці прадугледжвалі такое абыходжанне з апаратам майстры, якія яго рабілі, але пластмаса легка вытрымлівала ўсе Сарочыны ўдары. Праўда, і Сарока аказалася не з тых, хто легка пасуе перад цяжкасцямі. Яна ўхапілася дзюбай за шнур, які злучаў трубку тэлефона са скрынкай, паднялася высока ў паветра і разявіла рот. Тэлефон паляцеў уніз і стукнуўся аб пень. Трэшчына на трубцы зрабілася яшчэ большай. Сарока зноў апусцілася на пень, зноў узяла ў дзюбу шнур і паднялася над дрэвамі…

Раніцай Чыта яшчэ спала, калі яе сваім трэскам разбудзіла Сарока.

— Што нарабілася! Што адбывалася, пакуль нам добра спалася! — закрычала Сарока, як толькі Малпачка выйшла на ганак.— Нехта ўночы раструшчыў наш тэлефон!

Праз паўгадзіны на паляне сабраліся жыхары пушчы. Тэлефон ляжаў на пні — разбіты так, што, відаць, і самыя лепшыя майстры не ўзяліся б яго рамантаваць.

— Хто-небудзь можа мне растлумачыць, чаму ён паламаны, хоць учора мы пакінулі яго цэлым? — спытала Малпачка, не адводзячы позірку ад тэлефона.

— Я думаю, на яго нехта наступіў. Нехта вялікі і… і падобны на Зубра,— паспешна сказала Сарока.

— Чаму на мяне? — здзівіўся Зубр.

— Таму што ты адзін сярод нас вялікі.

— Значыць, па-твойму, я на яго наступіў?

— Хіба я гэта гаварыла? — ухмыльнулася Сарока.— Але калі б на яго наступіла я, ці Заяц, ці Вавёрка, ці Ліса, ці Бусел, або Малпачка, ён не быў бы раструшчаны.

— Ды чаго ж я папёрся б сярод ночы на паляну?! — раззлаваўся Зубр.— Што ты пляцеш!

— Я не пляту, я разважаю,— спакойна сказала Сарока.

— А можа, ты лунацік? — звярнулася да Зубра Малпачка.

— Хто? Хто? — разгубіўся Зубр.

— Лунацік,— паўтарыла Чыта і патлумачыла: — Той, хто ходзіць у сне, а калі прачнецца, нічога не помніць.

— Вось і не. Я заўсёды помню, куды хаджу,— запярэчыў Зубр.

— Ну, табе так толькі здаецца,— уздыхнула Чыта.— Хоць якая цяпер розніца — з тэлефона ўсё роўна ўжо не пазвоніш.

— Такой бяды! — затрашчала Сарока.— Вы забыліся пра мяне! Чым я горшая за ваш тэлефон? Клопату менш, і той жа звон! Хочаце каму-небудзь што-небудзь перадаць — скажыце мне. А я ўжо, не сумнявайцеся, раззваню па ўсім лесе!..

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ ЗАЙЦА

Аднойчы Заяц паволі клэпаў па лесе, задумліва пазіраючы сабе пад ногі. Выгляд у яго быў пануры, і Вавёрка, якая сядзела на парозе свайго дупла, заўважыла гэта здалёк. Яна хуценька спусцілася на дол.

— І далека ты выбраўся?

Заяц спыніўся і моўчкі пацiснуў плячыма.

— Нейкі ты сумны. Што-небудзь здарылася?

— Скажы, Вавёрка, у цябе бывае дзень нараджэння? — пачухаўшы патыліцу, спытаў Заяц.

— Вядома. Я тады пяку салодкія пірагі з арэхамі і вару малінавы кампот.

— А ў мяне вось не бывае. Я ведаю, што, раз я некалі нарадзіўся, ён павінен быць, але не ведаю, у які дзень. Можа, у пятніцу, а можа, у сераду. Можа, у ліпені, а можа, у жніўні. А мо і зусім у студзені. Лепш, вядома, у ліпені. Папраўдзе, дзень нараджэння не вельмі мне і патрэбны, але часам хочацца ведаць, ці многа пражыў.

— А ты хіба не ведаеш, колькі табе гадоў? — здзівілася Вавёрка.

— Не,— уздыхнуў Заяц.— Можа, пяць, а можа, сто. Самае крыўднае, калі мой дзень нараджэння сёння. Ён прыйшоў, а я нават не здагадваюся пра гэта.

— Мне здаецца,— крыху падумаўшы, сказала Вавёрка,— дзень нараджэння можна спраўляць у любы дзень.

— У любы? — недаверліва перапытаў Заяц.

— У любы,— паўтарыла Вавёрка.— Ва ўсялякім разе, я дакладна помню, што летась свой дзень нараджэння спраўляла ў нядзелю, а пазалетась у суботу. Галоўнае, святкаваць пажадана не часцей і не радзей аднаго разу ў год, каб не зблытацца, колькі табе споўнілася.

— Ты хочаш сказаць, я свой магу спраўляць хоць сёння?

— Ну, не ведаю...— задумліва прамовіла Вавёрка.— Разумееш, калі прыходзіць дзень нараджэння, ты сябе адчуваеш незвычайна.

— А незвычайна гэта як?

— Ну, не так, як у іншыя дні. Па-святочнаму. Ты ўсяму радуешся, быццам першы раз бачыш. І ўсё здаецца такім... такім прыгожым, добрым... такім...

Пачакай, пачакай,— перабіў Заяц.— Здаецца, я пачынаю адчуваць сябе незвычайна! Нядаўна яшчэ не адчуваў, а цяпер адчуваю. Відаць, мой дзень нараджэння толькі-толькі наступіў.

— Тады віншую! — сказала Вавёрка.— Віншую цябе з днём нараджэння і жадаю... жадаю шчасця і доўгіх гадоў жыцця! — урачыста закончыла яна.

— Дзякую! — расхваляваўся Заяц.— Усё ж здорава, калі ў цябе ёсць дзень нараджэння!

Праз некалькі хвілін ён ужо стаяў пад бярозай, на галінцы якой гайдалася Сарока.

— Віншую цябе, Заяц, з днём нараджэння! — крыкнула зверху Сарока.— А я гляджу і думаю: сёння Заяц нейкі незвычайны. Нейкі...

— Ты, сапраўды, заўважыла? — радасна ўсклікнуў Заяц.— Значыць, я не памыліўся?

— Ну, табе лепш ведаць, памыліўся ці не,— развяла крыламі Сарока.

— А ты нічога не хочаш мне пажадаць? — з нецярпеннем спытаў Заяц.

— Ну, што ж, я жадаю табе... жадаю шчасця і... пражыць яшчэ многа-многа доўгіх гадоў.

— А ты не магла б пажадаць чаго-небудзь іншага? — папрасіў Заяц.

— Хіба табе не спадабалася мае пажаданне? — пакрыўдзілася Сарока.

— Спадабалася, але шчасця і многа-многа доўгіх гадоў мне толькі што пажадала Вавёрка.

— Хм, прабач, я не ведала. Тады я жадаю табе ніколі не хварэць.

— Дзякуй, тваё пажаданне якраз дарэчы, а то ўвесну я заўсёды прастуджваюся,— задаволена сказаў Заяц.

Зубр пажадаў Зайцу набрацца розуму столькі, колькі памесціцца ў яго галаве.

— А гэта многа? — пацікавіўся Заяц.

— Вядома, многа,— кіўнуў Зубр.— Пра столькі розуму можна толькі марыць.

— І ўсёткі шкада, што мая галава меншая за тваю,— уздыхнуў Заяц.— Тады б у ёй магло памясціцца яшчэ больш розуму.

Ліса пажадала Зайцу сабраць сёлета вялікі ўраджай морквы і капусты, на што Заяц заўважыў:

— Тады, калі ласка, заадно пажадай, каб морква была сакавітая, а не сухая, як летась, а капусту не патачылі вусені.

Бусел, якога Заяц доўга расшукваў па лесе, чамусьці адразу пачаў гаварыць пра свой дзень нараджэння.

— Я таксама буду хутка спраўляць. А ўяві сабе, каб я нарадзіўся зімой, што было б?

Заяц не ўявіў — сёння яму было ўсё роўна, калі нарадзіўся Бусел.

— Мне ж тады ўсе свае дні нараджэння давялося б сустракаць за мяжой, у Афрыцы.

Заяц ніколі не быў у Афрыцы, таму не ведаў, добра гэта ці кепска — тое, пра што гаворыць Бусел.

— Ну і ну,— на ўсялякі выпадак сказаў ён тонам, які можна было зразумець як заўгодна, і тут жа спытаў: — А ты мне нічога не пажадаеш?

— Ну, чаму ж? Я жадаю табе новых сяброў! — узнёсла прамовіў Бусел.

— А... а дзе я іх вазьму? — задумаўся Заяц.

— Ну, не ведаю,— разгубіўся Бусел.— Можа, ты іх калі-небудзь сустрэнеш... Нечакана. Як Малпачку.

— Дарэчы, Малпачка мне яшчэ нічога не жадала,— успомніў Заяц.— Толькі...— зноў задумаўся ён.— Разумееш, калі я сустрэну новага сябра, які аб'явіцца ў нашым лесе, ён жа стане таксама і сябрам і для ўсіх вас!

— Ну і што? — спытаў Бусел.

— Але ж сёння мой дзень нараджэння, і ты павінен жадаць мне, а не Вавёрцы, Зубру ці... ці сабе.

— Добра, я прыдумаю што-небудзь іншае,— уздыхнуў Бусел.

— Не трэба,— махнуў рукой Заяц.— Што мне, хіба шкала — хай мае сябры будуць і вашымі сябрамі!

Апошняй, каго наведаў імяніннік, была Малпачка.

— І колькі табе стукнула? — адразу дзелавіта пацікавілася Чыта.

— Не ведаю,— пацiснуў плячыма Заяц,— у мяне сёння першы раз дзень нараджэння.

— Значыць, табе споўніўся год,— без ценю сумнення ў голасе сказала Чыта.— Усё вельмі проста. І ў гэты слаўны для цябе дзень я жадаю табе, каб споўнілася ўсё, што ты сам сабе пажадаеш.

— Усё-ўсё? — перапытаў Заяц.

— Ну, вядома.

— Здорава! Колькі ж я цяпер магу сабе ўсяго нажадаць?!

— А яшчэ,— прадоўжыла Чыта,— у нашай краіне імянінніку разам з пажаданнямі прынята што-небудзь дарыць.

Яна палезла ў шуфляду стала і дастала цёмныя акуляры — іх у яе было некалькі.

— Вось, насі.

— Няўжо гэта мне? Сапраўдныя акуляры! — усклікнуў Заяц.

Раптам па яго твары прабег цень лёгкага суму.

— Ты сказала, разам з пажаданнямі? Як шкада, што ні Вавёрка, ні Ліса, ні Зубр, ні Бусел, ні Сарока пра гэта не ведалі. Ну, нічога, на наступны свой дзень нараджэння я іх абавязкова папярэджу перад тым, як яны пачнуць мяне віншаваць.

## ЯК У МАЛПАЧКІ З'ЯВІЎСЯ СВОЙ АГАРОД

Чыта выйшла з доміка і ўселася на ганку. Выраз твару ў яе быў не раўнуючы як у старажытнага матэматыка Піфагора, калі той абдумваў сваю славутую тэарэму. Але Чыта ніколі не чула ні пра Піфагора, ні пра яго тэарэму, таму нават і не здагадвалася, каго ў гэты момант нагадвала.

Калі б Чыта пасядзела так яшчэ з паўгадзіны, магчыма, і яна зрабіла б якое-небудзь вялікае адкрыццё, і яно праславіла б Малпачку на ўвесь свет, але тут прыляцела Сарока. Сарока тым больш не чула ні пра Шфагора, ні пра яго тэарэму. Відаць, таму і твар Малпачкі ёй здаўся не так разумным, як проста сумным.

— Ты чаго галаву павесіла? — затрашчала яна.— Усе радуюцца, што неба распагодзілася, што хутка лета, адна ты як нежывая.

Чыта ўзняла вочы на Сароку і спытала:

— У вашым лесе растуць бананы?

— Чаго няма, таго няма, хоць лета, хоць зіма,— адказала Сарока.— Клёны ёсць, дубы ёсць, сосны ёсць, елкі ёсць,— стала яна пералічваць,— а вось бананаў няма.

— І апельсіны не растуць? — ужо без ніякай надзеі ў голасе спытала Чыта.

— Чаго няма, таго няма. Асіны ёсць, ясені ёсць, грабы ёсць, бярозы ёсць…

— Спрабавала я лісце вашых бяроз — ніякага смаку,— зморшчылася Малпачка.

— Вядома, бярозавай кашай сыты не будзеш,— пагадзілася Сарока.— А я гляджу, што ты зблажэлаўся. Трэба табе агарод свой пасадзіць, а то прападзеш. Зямлі тут хапае: бяры — не хачу…

— Агарод? Каб я цэлымі днямі, як Заяц, корпалася ў зямлі? Нізашто!

— Хм, прызнацца, я таксама ні разу не трымала ні матыкі, ні грабель. Але колькі мне, старой сароцы, трэба? Скарыначку хлеба на дзень, і ўвесь мой наедак. А калі да яе кубачак чаю — о, больш нічога і не пажадаю!

— Скарыначку хлеба! — усклікнула Чыта.— Калі я трапіла сюды, у мяне быў поўны халадзільнік бананаў, апельсінаў, яек, арэхаў! А цяпер ён пусты, хоць сама ў яго залазь!

— Ну, арэхаў ты і ў нашым лесе можаш назбіраць,— разважліва сказала Сарока.— А вось каб заўсёды мець свежыя яйкі, трэба, як Ліса, курэй разводзіць, а іх зернем трэба карміць.

А каб зернем карміць, трэба спачатку ячмень пасеяць. Значыць, без свайго агарод а ўсё роўна не абысціся.

— Толькі не гэта! — заматляла галавой Чыта.— З раніцы да вечара нешта садзі, сей, палівай, прраполвай…

— І не кажы,— падхапіла Сарока.— Тут пакуль скарыначку хлеба знойдзеш, паўсвета аблётаеш, сем патоў сцячэ, а восьмы вочы залье. А колькі мне, старой сароцы…

— Паслухай,— перабіла Чыта,— а што, калі мне паспрабаваць мяняцца з Зайцам ці Лісою?

— Чым? — спытала Сарока.

— Ну, я Лісе, напрыклад, магу даць што-небудзь са свайго гардэробу, Зайцу што-небудзь з мэблі, а яны мне ўзамен яйкі, яблыкі, моркву, капусту…

— Так можна зусім застацца без гардэробу і мэблі. А то і без сваіх харомаў,— мудра заўважыла Сарока.— Чым тады будзеш мяняцца?

Чыта на гэта нічога не адказала, а яе твар зноў зрабіўся такі, як у Піфагора, калі той абдумваў сваю славутую тэарэму.

Вестка пра тое, што Чыта галадае, хутка разнеслася па ўсёй пушчы. У той жа дзень Зубр, Бусел, Заяц, Ліса, Вавёрка і Сарока сабраліся на палянцы, каб вырашыць, як дапамагчы Малпачцы.

— У мяне засталося крыху леташняй морквы,— сказаў Заяц.— Як-небудзь да новага ўраджаю датрываю.

— А ў мяне ёсць арэхі,— прызналася Вавёрка.— Я чула, яна любіць арэхі.

— А ў мяне куры нядаўна пачалі несціся,— паведаміла Ліса.

— У мяне быццам была скарыначка хлеба,— неахвотна прамовіла Сарока.— Не ведаю, праўда, дзе. Я сёння паўсюль яе шукала — ледзь крыло не зламала. Яна была такая маленькая, што не адразу і знойдзеш…

— Стойце, стойце,— перабіў Сароку Зубр.— Гэта не выйсце. Трэба думаць не толькі пра сённяшні, але і пра заўтрашні дзень.

— Правільна,— сказала Сарока.— Заўтра і ў нас саміх можа не быць і крошкі хлеба. Хто нам што дасць, хто нам дапаможа? Ва ўсялякім разе, не Чыта. У яе ў самой пустое карыта!

— Памаўчы! — раўнуў Зубр.— І пры чым тут карыта! Сама ты ніколі не прападзеш, бо нюхам чуеш, калі ў каго на другім канцы пушчы што-небудзь варыцца, парыцца ці пячэцца, і не ўпусціш, каб не сцягнуць чаго.

— Калі ў вас нічога не будзе варыцца, парыцца і пячыся, то і мне не будзе чаго сцягваць,— пакрыўджана прабубніла сабе пад нос Сарока.

— Малпачцы трэба дапамагчы пасадзіць агарод,— прадоўжыў Зубр.

— Ха, агарод! — насмешліва фыркнула Сарока.— Ды яна, колькі жыве, палец аб палец не стукнула, такая няўдаліца. А тут цэлы агарод на яе галаву зваліцца! Ды ён праз тыдзень зарасце пустазеллем!

— Да працы прывыкнуць трэба, тады яна не будзе ў цяжар. Аднаму вялікую работу заўсёды нялегка пачынаць, а вось калі гуртам…

— Ведаю, ведаю,— перабіла яго Сарока,— гуртам усё рабіць лягчэй…

Чыта глядзела тэлевізар, калі ў дзверы пастукалі. Каля доміка яе чакалі Зубр, Бусел, Заяц, Вавёрка, Ліса і Сарока.

— Мы тут прынеслі табе гасцінцаў,— сказала Ліса і працягнула Малпачцы кошык, даверху напоўнены морквай, капустай, яйкамі і арэхамі.

— Гэта ўсё мне?! — здзівілася Чыта, асцярожна беручы кошык.

— Табе, табе,— кіўнуў Зубр.— Ты ў нас нядаўна, нашых харчоў яшчэ не каштавала. А раптам спадабаюцца?

— Яшчэ і пытаецца — дзіва што спадабаюцца! — прабубніла Сарока.— На дармаўшчыну столькі ўсяго перапала! З такімі запасамі я б цэлы год гора не знала!

Чыта выбрала ў кошыку самую вялікую морквіну і захрумстала ёю з такім апетытам, быццам ніколі не ела нічога смачнейшага.

— А мы тут паглядзелі, аказваецца, за тваім домікам можна зямлю пад агарод пусціць. Пад невялікі, праўда, але колькі табе ад ной трэба,— як бы між іншым сказаў Зубр.

— Мне? Агарод? Нізашто! — аплятаючы другую морквіну, запярэчыла Малпачка.— Ды я не ведаю, што на ім рабіць, ды я не ведаю, за які канец рыдлёўку трымаць, ды яе ў мяне і не было ніколі.

— А я вось якраз захапіў рыдлёўку з сабою,— паспешна сказаў Заяц.— І магу памагчы табе ўскапаць агарод.

— Ускапаць! — чмыхнула Чыта.— Што толку — у мяне ж няма нічога ні садзіць, ні сеяць.

— У мяне ёсць насенне капусты і морквы,— сказала Ліса.— Я ўзяла з сабою — думала, можа, табе спатрэбіцца.

— А я на поплаве, за адной вёскай, знайшоў куст чырвоных парэчак — нехта выдзер з карэннем, а ён і на поплаве прыжыўся, лісце пусціў,— сказаў Бусел.— Я падумаў, можа, ты любіш парэчкі, і прынёс з сабою.

— А я,— сказаў Зубр,— прынёс табе яблыньку са свайго саду. Яблыкі на ёй восенню сакавітыя, не горш за твае апельсіны.

— Дзе ж я з гэтым усім спраўлюся — і насенне, і парэчкі, і яблыня,— запратэставала Чыта.— Змагацца супраць рабства — я разумею, але па сваей ахвоце станавіцца рабыняю — я яшчэ ў сваім розуме!

— Правільна! — закрычала Сарока.— Кожны жыве, як хоча! І няма чаго лезці сляпіцаю ў вочы! Дарэмна толькі нацягалі сюды ўсяго.

— Мы прыйшлі, каб дапамагчы табе,— не звяртаючы ўвагі на Сарочыну траскатню, сказаў Зубр Малпачцы.— Хоць яно, вядома, табе цяжкавата будзе з непрывычкі корпацца ў зямлі. Можаш проста пасядзець, паглядзець, як мы будзем разбіваць агарод, павучыцца сяму-таму.

Ну, калі адно паглядзець,— уздыхнула Чыта,— тады валяйце!

Зубр з Зайцам напераменку капалі грады. Вавёрка і Ліса, якая прадбачліва захапіла з сабой матыку, рабілі баразёнкі, а Бусел з Сарокай па каліву кідалі ў баразёнкі насенне. Бусел — насенне капусты, а Сарока — насенне морквы. Пры гэтым яна часта спынялася і пачынала войкаць:

— Вой, сагнуцца не магу! Вой, бок баліць! Так аслабела, што не хочацца жыць! Вядома, з самай раніцы крошкі ў роце не было!

Пасля гэтых слоў Сарока клыпала да кошыка, дзяўбла капусту ці морквіну і, павесялелая, вярталася назад.

Чыта спачатку назірала за працай сваіх сяброў моўчкі, але пасля не стрывала.

— Раўней, раўней трэба! — закрычала яна Вавёрцы і Лісе.— А цяпер закругляйце баразёнкі, закругляйце!

Чыта падхапілася і ўзяла ў Вавёркі матыку. Дзве крайнія баразёнкі яна злучыла паміж сабой, атрымаўся круг.

— Тут будзе расці капуста,— заявіла Малпачка.— Кідайце насенне! Не, я сама!

Яна выхапіла ў Бусла кулёк з насеннем капусты і пачала кідаць па каліву ў баразёнку.

Калі грады былі пасеяны, сябры ўзяліся за яблыньку і парэчкі. Чыта і тут не ўседзела.

— Яблыню трэба пасадзіць каля доміка, пад акном,— сказала яна.— І шырэй капайце яму, каб карэнні ў ёй не курчыліся! Дайце мне рыдлёўку, я сама!

Нарэшце, і яблынька, і парэчкі былі пасаджаныя і палітыя.

— Фу-у-у,— уздыхнула Малпачка,— аж не верыцца, што мы столькі работы перарабілі!

— Ну, як,— хітра спытаў Зубр,— ты сябе адчуваеш рабыняю?

— Рабыняю? — зморшчылася Чыта.— Хм, як ні дзіўна, я сябе цяпер адчуваю сапраўднай гаспадыняй.

— Пахвальна! О'кэй! — перадражніваючы Малпачку, усклікнула Вавёрка. І ўсе засмяяліся.

— Яны і не заўважылі, як на ражку месяца здалёку прыплыў вечар і разаслаў на небе чорную коўдру, усыпаную бліскучымі зоркамі. Дзень скончыўся — адзін з апошніх вясновых дзён. Вось-вось павінна было пачацца лета. А з ім і новыя прыгоды Малпачкі Чыты і яе сяброў.

# У ЦЁМНЫМ ЛЕСЕ ЗА СІНЯЙ РЭЧКАЙ

## АМАЛЬ НЕАБАВЯЗКОВАЯ ПРАДМОВА

— А што было далей? — слухала Наташа, нецярпліва паёрзваючы на маіх каленях.— Пачвара яе адпусціла?

— Далей? Не памятаю. Вось калі б ты ўчора даслухала да канца, ведала б, што было далей.

— Я слухала, гэта вочкі мае не слухалі і заплюшчыліся,— пакрыўджана сказала Наташа.

— Добра, тады давай начнём спачатку.

— А вось і не спачатку, а вось і не спачатку! — усклікнула Наташа, калі я стаў занава расказваць ей казку.— У тым пачатку такога не было!

— Ну, вядома,— пагадзіўся я.— Той пачатак быў учарашні, а гэты сённяшні.

...Некалі, вельмі даўно, і мне чыталі казку пра Пачвару, якую пакахала дзяўчынка. Казка была страшная, а я быў малы і ўсё не мог даўмецца, як гэта магчыма: пакахаць Пачвару. Казка тая называлася "Пунсовая кветачка", а напісаў яе Сяргей Аксакаў — як ён сам прызнаўся, са слоў "ключніцы Пелагеі". Пасля я даведаўся, што падобны сюжэт ёсць у французскай пісьменніцы Лепрэнс дэ Бамон, а ў Амерыцы, на студыі Уолта Дыснея, знялі па ім прыгожы мультфільм "Прыгажуня і Пачвара" — вельмі добры і смешны, але Пачвара ў ім аказалася яшчэ больш страшная, чым мне ўяўлялася ў маленстве.

— Ну, што ты не расказваеш? Чакаеш, пакуль мае вочкі зноў спаць захочуць? — незадаволена спытала Наташа.

— Добра, слухай, я раскажу табе новую казку,— сказаў я ўсміхнуўшыся.

— Зноў новую? — здзівілася Наташа.

— Так, новую. А можа... старую казку на новы лад. Слухай...

## Раздзел першы ЗАКЛЯТЫ СКАРБ

У цёмным лесе за сіняй рэчкай стаяў дом лесніка. Некалі жыў у ім ляснік са сваёю сям'ёю — жонкай і сынам, якому бацькі нават імя далі лясное — Гай. Неяк пад восень пайшоў ляснік на службу, паўдня ў гушчары блукаў, стаміўся. Сонца яшчэ паліла палетняму, зямля цяпло трымала. Прысеў ляснік над дрэвам, стрэльбу побач паклаў. Хораша навокал, ціха. Толькі сінічка на сасне трывожна цінькае. Ляснік зірнуў угору — няўжо на яго, дурненькая, сварыцца? Ён і не заўважыў, як з-пад старога карча ціха выпаўзла змяя. Выгнулася, замерла на імгненне, як заварожаная, і нечакана кінулася на лесніка. Знайшлі яго толькі назаўтра. Быў ён ужо мёртвы.

Маці з сынам, вядома, маглі перабрацца жыць у вёску за рэчку, да сваякоў, ці нават у горад, да якога рукой падаць, пехатою дайсці можна, але так і не рашыліся. Дом ляснік пабудаваў ладны, прасторны, на два паверхі — шкада прадаваць. Ды і прывыклі яны жыць у лесе адны.

Тым часам сын вырас — прыгажун, якіх пашукаць яшчэ трэба.

А тут новая бяда. Моцна занядужала маці. Тыдзень па хаце ледзьве ногі перастаўляе, другі, а на трэці зусім злягла. Прыходзілі дактары да яе, слухалі, лекі розныя прапісвалі, а ніхто толкам сказаць не мог, што за хвароба на яе звалілася, ногі адабрала, галаву ў ціскі заціснула. Аднойчы паклікала маці да сябе Гая, прытуліла яго галаву да сваіх грудзей і сказала:

— Сынок, усё жыццё мы з тваім бацькам бераглі кожную капейчыну, каб ты мог вывучыцца і свету пабачыць. На вучобу ты аказаўся не надта ахвочы, але былі б грошы, а ўсё астатняе само прыйдзе.

Падняў Гай галаву, зазірнуў у вочы маці, а нічога зразумець не можа: пра што яна кажа?

— Пайдзі, сынок, у сенцы,— ціха працягвала маці,— спусціся ў склеп. Там на верхняй паліцы будзе стаяць гліняны збан. У ім ляжыць загорнуты ў анучку ключ. Вазьмі гэты ключ. Пасля з ніжняй паліцы паздымай слоікі з варэннем і адымі ад сцяны дзве дошкі. У сцяне ты ўбачыш невялікія жалезныя дзверцы. Адамкні іх тым ключом. За імі знойдзеш куфэрак. Прынясі яго сюды.

Кінуўся Гай у сенцы, зрабіў усё так, як казала яму маці, і неўзабаве вярнуўся да яе з чорным куфэркам у руках.

— Але ж ён замкнёны…— сказаў ён разгублена.

— Там,— маці паказала на покуць,— за абразом, ляжыць скрыначка. У ёй ключ.

Адамкнуў Гай куфэрак і аж ускрыкнуў ад нечаканасці. У ім былі не толькі грошы, але і розныя залатыя ды срэбныя рэчы — пацеркі, ланцужкі, пярсцёнкі.

Гэты скарб, сынок,— ледзь чутна сказала маці,— некалі твой бацька знайшоў у лесе. Ты тады яшчэ зусім малы быў, не помніш нічога… Ляжаў скарб, не паверыш, проста на дарозе. Усё роўна як нечая добрая душа падкінула нам яго. Дом вось паставілі. На зайздрасць усім… Адно шкада, бацька твой не паспеў гэтым шчасцем нацешыцца. Ды і я капейкі лішняй не растраціла, табе хавала. Радуйся жыццю…

А пад вечар маці памерла.

Мінула некалькі гадоў. Многае змянілася ў доме лесніка. Некалі тут панавалі ціш ды спакой, а цяпер і днём і ўночы гучала музыка, чуліся крыкі, смех. Ледзь не кожны дзень гулялі, весяліліся ў Гая госці. Вакол дома за гэты час вырасла высокая цагляная агароджа, зверху якой быў нацягнуты калючы дрот. Дубовыя вароты адчыняліся цяжка, са скрыпам, быццам баяліся прапусціць сюды нечаканых гасцей. Сын лесніка ні ў чым не адчуваў патрэбы. У яго хапала ўсяго, пра што можна было толькі марыць.

Хіба што верных сяброў — іх у Гая з гадамі амаль не засталося. Затое вакол юнака ўсё часцей пачыналі круціцца розныя падхалімы і прахвосты, якія і так і гэтак спрабавалі выманіць хоць частку яго багацця.

Гай і сам ва ўсім патураў ім. З яго сэрца нібы хто выкраў спачуванне, дабрыню і любоў. І толькі нямногія школьныя сябры, што яшчэ не адвярнуліся ад яго, памяталі, які ён некалі быў добры і спагадлівы. Памяталі і паранейшаму любілі яго. А самымі вернымі сябрамі Гая былі Ніл і Карніл. Бадай, цяжка знайсці ва ўсім свеце двух іншых маладых людзей, якія б так моцна сябравалі і разам з тым так часта сварыліся і спрачаліся паміж сабой.

— Давай сёння пойдзем у кіно,— прапануе Карніл.

— Вось яшчэ, рабіць мне болей няма чаго,— буркне Ніл і тут жа палезе ў кішэню па грошы — сабе і сябру на білеты.

— Якая цудоўная карціна! — усклікне Ніл, зайшоўшы да сябра ў госці.— Дзе ты яе набыў? Колькі яна каштуе?

Шалёныя грошы,— горда адкажа Карніл і накіруецца ў іншы пакой, быццам яму шкада нават, калі на яе хто-небудзь проста глядзіць.

Але не справіцца Ніл вярнуцца дадому, а там ужо вісіць гэтая карціна.

Вось такія былі сябры ў Гая. Праўда, ён гэтым сяброўствам не надта даражыў.

Аднойчы Гай запрасіў гасцей на свой дзень нараджэння.

З самага ранку тут ужо чуліся музыка, смех, а пад вечар адзін з гасцей падышоў да маладога гаспадара і сказаў, што каля варотаў яго чакае жанчына.

— Што яшчэ за жанчына? — здзіўлена спытаў Гай.

— На выгляд нейкая вясковая цётка.

— Вясковая цётка? — ускінуў бровы Гай.— Ану, пайшлі паглядзім, што ёй трэба.

І Гай разам з гасцямі накіраваўся на двор.

Жанчына ў просценькай чорнай хустцы стаяла перад расчыненымі варотамі, абапіраючыся на дубовы кіёк.

— Чаго ты хочаш? — нецярпліва спытаў Гай, спыніўшыся за некалькі крокаў ад яе.

Тая ўважліва паглядзела ў вочы Гаю і папрасіла: — Пусці мяне заначаваць, добры чалавеча. Ужо позна, холадна, а мне няма куды ісці.

— Холадна! — зарагатаў Гай.— Пабойся Бога, цётка! Вось ужо цэлы ты дзень па начах такая духата, што не дыхнуць.

Але толькі ён прамовіў апошнія словы, як падняўся моцны вецер. Застагналі і пачалі гнуцца дрэвы. Здавалася, на дварэ не сярэдзіна лета, а позняя восень.

— Пусці мяне заначаваць, добры чалавеча,— зноў папрасіла жанчына.— Мне няма куды ісці, і я ўся прамокла пад дажджом.

— Пад якім дажджом? — здзівіўся Гай, засланяючы рукамі твар ад калючага ветру.— Няма ніякага дажджу і даўно ўжо не было. Што ты плявузгаеш, цётка?!

Але толькі ён прамовіў апошнія словы, як сапраўды хлынуў лівень, патокі вады, як змеі, з шумам папаўзлі па зямлі.

— Гэта Вядзьмарка! — крыкнуў нехта з гасцей.— Гані яе адгэтуль!

Жанчына паківала галавой, прыжмурыла вочы і сказала:

— Не слухай іх, чалавеча. Я ведаю, у цябе добрая душа, ты не прагоніш мяне. Я галодная, ледзьве на нагах трымаюся, мяўжо ты не паможаш беднай жанчыне?

— Я зараз прынясу табе чаго-небудзь паесці,— крыху сумеўшыся, сказаў Гай.

— Э, не, добры чалавеча. Бачыш, апошняя адзежына на мне знасілася, латка на латцы стаіць...

— Добра,— нецярпліва перабіў яе Гай,— я прынясу табе што-небудзь з вопраткі.

— Э, не,— усміхнулася жанчына.— Мне не трэба твая вопратка.

— Чаго ж ты хочаш?

— Золата,— бліснула вачыма нечаканая госця.

Гай здрыгануўся.

— Што ты пляцеш, якое золата?

— Тое, якое табе дарма дасталося.

— Ды як ты... як у цябе язык павярнуўся сказаць такое?! Што ты выдумляеш?! Прэч адсюль! Ганіце, ганіце яе! — крыкнуў Гай гасцям.

Госці зашумелі:

— Давай, давай адгэтуль!

— Што ж,— спакойна сказала жанчына, ды так ціха, што ие ўсе пачулі яе голас,— хто жыве павоўчы, хай пабегае ваўком. Бывай, чалавеча, праз тры гады сустрэнемся з табою на гэтым месцы. Не забудзь толькі, роўна праз тры гады.

Сказала — і знікла адразу.

І тут нешта дзіўнае стала адбывацца з Гаем і яго гасцямі. З крыкам яны пачалі куляцца праз галовы, а як толькі перакульваліся, іх рукі і ногі тут жа абрасталі воўчай поўсцю. Так Гай ды яго госці ператварыліся ў ваўкалакаў. Тры гады яны бегалі па лесе і кожны вечар збіраліся каля дома лесніка і страшна, жаласна вылі цэлую ноч. А ў прызначаны Вядзьмаркай дзень на самым золку сабраліся ваўкалакі каля варотаў. Яны то падоўгу нюхалі халоднае ранішняе паветра, то нецярпліва разграбалі лапамі з вострымі кіпцюрамі леташняе чорнае лісце.

Нарэшце, як і роўна тры гады назад, з'явілася знаёмая кабета. Яна тут жа пазнала ў адным з ваўкалакаў Гая, няспешна падышла да яго, абапіраючыся на дубовы кіёк, і сказала:

— Ну, што, аддаеш мне свой скарб, які табе дарма дастаўся?

— Аддаю,— адказаў Гай.

Зірнула Вядзьмарка на аднаго з ваўкалакаў, ён тут жа перакуліўся цераз галаву і абярнуўся ў чалавека.

— Дык што, аддаеш мне свой скарб, які табе дарма дастаўся? — зноў спытала Вядзьмарка ў Гая.

— Аддаю.

Другі ваўкалак абярнуўся ў чалавека. І так па чарзе, аж пакуль не застаўся ваўкалакам адзін Гай.

— Апошні раз пытаюся,— сказала Вядзьмарка,— аддаеш мне свой скарб, які табе дарма дастаўся?

— Аддаю.

Але не паспеў Гай вымавіць гэтае слова, як нехта з гасцей крыкнуў:

— Лаві яе, Вядзьмарку, хапай яе!

І ўсе, як згаварыўшыся, кінуліся на жанчыну. Аднак не паспелі яны зрабіць і па некалькі крокаў — а той ужо быццам і не было тут ніколі. Госці, як зачараваныя, спыніліся на месцы, не верачы сваім вачам.

— Кар-р, кар-р! — парушыў цішыню голас вароны, якая невядома ад куль узялася на агароджы.

— Гэта яна, Вядзьмарка! — раптам закрычаў нехта з гасцей.— Запусціце чым-небудзь у яе!

У варону паляцела некалькі камянёў.

— Міма! — расчаравана закрычаў той жа голас.

У мітусні ніхто не звярнуў увагі на Гая, які наводдаль ад усіх стаяў на каленях і ў адчаі біўся галавой аб зямлю. На яго целе і на твары ўсё яшчэ заставалася густая воўчая поўсць.

— Дзе яна?! Дзе варона?! — азіраліся па баках госці.

У гэты час Вядзьмарка нахілілася над Гаем і ціха сказала:

— Падмануў ты мяне, але сабе на бяду. Да таго часу насіць табе на сабе воўчую поўсць, пакуль не з'явіцца тут дзяўчына і не скажа табе чароўныя словы. А не скажа — што ж, так і памрэш ваўкалакам. А каб ведаў ты, колькі табе жыць засталося, знойдзеш дома на стале люстэрка. Зірнеш у яго і ўсё зразумееш.

Жанчына выпрасталася і крыкнула гасцям:

— А вы ўсе да таго часу будзеце верна служыць яму! — і страшна зарагатала.

— Вунь яна! Лаві яе! — закрычалі госці.

— Словы, якія чароўныя словы трэба сказаць? — енчыў Гай, але Вядзьмарка ўжо не чула яго.

## Раздзел другі ЛУІЗА, ГАРДЗЕЙ І ДЗЯДУЛЯ АФРЫКАН

На ўскраіне вялікага горада, у тым яго раёне, дзе амаль не было шматпавярховых дамоў, на вуліцы Сонечнай стаяў домік, ] які знешне нічым не вылучаўся сярод іншых. Жыла ў ім дзяўчына па імені Луіза. Жыла не адна, а са сваім старэйшым братам Гардзеем. Гэта быў высокі хударлявы юнак, крыху няўважлівы, але вельмі добры. Ён насіў акуляры, хоць збоку гэта здавалася зусім лішнім, паколькі яны ніколі не трымаліся на тым месцы, дзе павінны трымацца, а ўвесь час з'язджалі ўніз.

Гардзей быў інжынерам і працаваў на аўтамабільным заводзе. А ў вольны ад асноўнай працы час станавіўся самым сапраўдным вучоным. Хаця сам юнак не любіў гэтае слова — "вучоны". Ён называў сябе вынаходнікам, і гэта было вельмі падобна да праўды, паколькі ў яго доме нешта ўвесь час грукацела, сігналіла, пакоі былі завалены вельмі патрэбным хламоццем, а сам Гардзей вечна хадзіў з перапэцканымі рукамі і тварам.

Зразумела, што самым вялікім яго захапленнем былі аўтамабілі. Але якія! На "форды", "мерседэсы" і "БМВ" Гардзей не мог глядзець без смеху. Сам жа ён марыў стварыць аўтамабіль, якім, па-першае, можна было б кіраваць з дапамогай камп'ютэра, а па-другое, каб ён працаваў не на бензіне, а на чыстай вадзе. І калі першага разумнаму і вынаходліваму Гардзею амаль удалося дасягнуць, то другое пакуль ніяк не атрымлівалася.

Можа, таму ён пастаянна быў такі няўважлівы?

— Здароў, Гардзей,— бывае, звернецца да яго на вуліцы які-небудзь знаёмы.— Ну, як твая машына? Хутка можна будзе на ёй ездзіць?

— Так-так,— кіўне галавой хлопец, а сам думае пра нешта сваё,— надвор' е сёння, сапраўды, цудоўнае.

Гаварылі, што Гардзей увесь пайшоў у бацьку, якога падазравалі ледзь не ў чараўніцтве, але Гардзей яго амаль не помніў: той памёр, калі ён яшчэ быў немаўлём.

Памерла і маці, прыгожая жанчына, добрай душы чалавек, якая ўсю сябе аддавала дзецям. Луіза была падобная на ле — такая ж светлавалосая прыгажуня з вялікімі блакітнымі вачыма. А ведалі б вы, якая ў Луізы усмешка! Я нават не знаходжу слоў, каб апісаць яе, бо як толькі ўзгадваю пра тую усмешку, мае думкі пачынаюць блытацца, быццам клубок нітак, якімі гуляе кацяня.

І, як мне здаецца, блытаюцца не толькі мае думкі. Кажуць, цырульнік Харлам, калі ўпершыню ўбачыў Луізу, так загледзеўся на яе праз акно, што замест твару пагаліў галаву свайму кліенту. Але той зусім не пакрыўдзіўся на яго, таму што ў гэты час сам на ўсе вочы глядзеў на Луізу, а пасля яшчэ доўга хадзіў сам не свой. Ну, а калі ён нарэшце ачомаўся, валасы зноў адраслі.

У Луізы, як і ў Гардзея, таксама было свае захапленне, праўда, з рознымі вынаходніцтвамі ніяк не звязанае. Больш за ўсё на свеце дзяўчынка любіла чытаць кнігі. Асабліва казкі. Магчыма, у чатырнаццаць гадоў чытаць казкі ўжо крыху пазнавата, але ж яна чытала ў асноўным казкі пра каханне: пра храбрых рыцараў, якія дзеля сваіх каханых гатовы былі прайсці праз неверагодныя выпрабаванні, пра зачараваных каралевічаў, якіх выратоўвалі іх юныя выбранніцы.

Афрыкан Далматавіч Падарожнік, ці проста дзядуля Афрыкан, самы знакаміты кнігалюб на вуліцы Сонечнай, вельмі добра ведаў Луізу. Яны нават сябравалі. І калі дзяўчынка прыходзіла да яго ў госці — а гэта здаралася па некалькі разоў на тыдзень,— абавязкова даваў ёй якую-небудзь новую казку. Праўда, рабіць гэта яму станавілася ўсё цяжэй: пісьменнікі пісалі казкі марудней, чым Луіза іх прачытвала!

Тая раніца, з якой, дарэчы, і пачаліся незвычайныя прыгоды Луізы, была самай звычайнай летняй раніцай. Нават крыўдна, што ўсё неверагоднае пачынаецца з такой вось звычайнай, падобнай на ўсе астатнія раніцы, ці вечара, таму што не ведаеш, калі яно прыйдзе, каб да яго як след падрыхтавацца.

Дзяўчынка, як заўсёды, прачнулася рана, прыгатавала лёгкі сняданак.

Паснедаўшы, Гардзей пайшоў на двор важдацца са сваім аўтамабілем, які, па яго словах, вось-вось ужо можна будзе выпрабоўваць на самакіраванне.

Луіза таксама не затрымалася надоўга ў доме. Учора вечарам яна дачытала чарговую казку, крыху паплакала ад радасці, што ў ёй урэшце ўсё скончылася добра, а сёння зранку вырашыла аднесці кнігу дзядулю Афрыкану.

Дзядуля Афрыкан сустрэў яе на парозе, быццам цэлую раніцу толькі і рабіў, што чакаў яе тут.

— Я бачу, ты зноў плакала,— паківаў ён галавой.— Табе нельга чытаць казкі. Ты надта блізка ўсё прымаеш да сэрца.

— А як вы здагадаліся, што я плакала? — здзівілася Луіза.

— Ну, гэта вельмі проста,— развёў рукамі дзядуля Афрыкан.— Калі бавіш столькі часу сярод кніжак, у якіх ёсць шмат чароўных казак, сам становішся крыху чараўніком.

— Вы ўсё жартуеце,— уздыхнула Луіза.

— Зусім не,— сур'ёзна адказаў дзядуля Афрыкан.— Звычайна людзі лічаць, што казкі гэта ўсяго толькі нечая фантазія. Зрэшты, часта так яно і ёсць.

Але не заўсёды. Кнігі бываюць розныя. Бываюць нецікавыя, спехам напісаныя якім-небудзь пісьменнікам. Але бываюць і чароўныя кнігі, так-так, чароўныя, якія дайшлі да нас з глыбіні вякоў і хаваюць у сабе многія таямніцы нашага Сусвету. Калі іх чытаць уважліва, а пасля паспрабаваць сістэматызаваць усе веды, узятыя адтуль, то можна будзе растлумачыць шмат незразумелага, што адбываецца вакол. Ды і сам свет паўстане ў крыху іншым, сапраўдным сваім выглядзе, а не ў тым, у якім мы прызвычаіліся яго бачыць. Мы ж так мала ведаем аб ім! Ды што там! Мы амаль нічога не ведаем. Напрыклад, што нам вядома аб прывідах? Нічога, таму што, па-першае, мы іх амаль ніколі не бачым… дакладней, думаем, што не бачым. А па-другое, мы ў іх не верым. А вось яны ведаюць пра нас усё. Ведаюць, што з намі было і што з намі здарыцца праз дзень, праз год, праз сто гадоў. Ведаюць пра кожнага з нас?.

— Што будзе з кожным з нас праз сто гадоў? — вочы ў Луізы сталі яшчэ большымі.— Але ж…

— О, я разумею, ты, вядома ж, лічыш, калі чалавек памірае, то з ім ужо нічога не можа здарыцца, так?

— Так,— разгублена адказала Луіза.

У сапраўднасці чалавек ніколі не памірае. Ён проста пераходзіць з ад наго стану ў іншы, і прывіды пра гэта ведаюць. Яны могуць з такой жа лёгкасцю трапіць у мінулае ці ў будучыню, як ты, напрыклад, выйсці адгэтуль на вуліцу, а пасля вярнуцца. Так,— паківаў галавой дзядуля Афрыкан,— гэта незвычайныя кнігі. І скажу табе пад сакрэтам, унучка, калі чытаць іх уважліва, можна самому навучыцца крышку чараваць.

— Значыць, вы таксама навучыліся чараваць? — з захапленнем усклікнула Луіза.— І таму так лёгка даведаліся, што я ўчора плакала?!

— Ну, як табе сказаць…— пачухаў патыліцу дзядуля Афрыкан.— Вядома, было б дужа спакусліва паўстаць перад табой гэткім чараўніком, які ўмее чытаць чужыя думкі, але, калі шчыра, усё куды прасцей. Мне было зусім няцяжка здагадацца аб тым, што ты плакала, калі дачытвала гэтую кнігу, бо ты заўсёды так робіш. Ці не? — хітравата ўсміхнуўся дзядуля Афрыкан.

Луіза пачырванела.

— А вы не маглі б… ну, даць мне хаця б на дзень адну з тых чароўных кніг? — няўпэўнена спытала яна.

— О, мая даражэнькая, не крыўдуй, але, баюся, табе яшчэ рана чытаць такія кніжкі. Усяму свой час, усяму свой час. Да таго ж, цябе і так хутка чакаюць незвычайныя прыгоды.

— Незвычайныя прыгоды?!

— Можаш не сумнявацца.

— Дзядуля Афрыкан, вы нешта хаваеце ад мяне! Ну, калі ласка, раскажыце! — узмалілася Луіза.

— Я? Хаваю? — замітусіўся дзядуля Афрыкан.— Пра што ты кажаш? Я меў на ўвазе, што з такімі прыгажунямі, як ты, заўсёды адбываецца што-небудзь незвычайнае. Яны трапляюць у розныя неверагодныя гісторыі, якія заўсёды добра заканчваюцца. Вось што я меў на ўвазе, і не больш таго. І наогул, загаварыўся я з табой. А ў мяне столькі работы, столькі работы! Дарэчы, я падабраў табе новую кнігу. Вельмі цікавая казка, можаш мне паверыць. Я табе яе дару.

— Ах, што вы!

— А чаму стары хворы кнігалюб не можа падарыць кнігу такому юнаму цудоўнаму стварэнню?! Я ж такі адзінокі... Буду паміраць, напішу завяшчанне, каб пасля маёй смерці ўся мая бібліятэка належала табе.

— Вы не памрэце,— упэўнена сказала Луіза.

— Чаму? — здзівіўся дзядуля Афрыкан.

— Вы ж самі казалі, што людзі не паміраюць, а проста пераходзяць у іншы стан. Тым больш, вам вядома столькі розных таямніц, пра якія не ведае болей ніхто ў нашым горадзе.

— Сапраўды,— пагадзіўся дзядуля Афрыкан,— я казаў пра гэта. Але ўся справа ў тым, што ў іншым стане я ўсё роўна не змагу чытаць кніжкі, таму складу такое завяшчанне.

— А чаму вы не зможаце чытаць кніжкі?

— Ну... не ведаю. Вось твая казка,— дзядуля Афрыкан падаў Луізе свой падарунак, гэтым самым даючы ёй зразумець, што размова закончана.

Луіза падзякавала за кнігу, развіталася і выйшла на вуліцу.

## Раздзел трэці ПРА БАЯЗЛІВАГА ФОКУ І ЯГО МАМАЧКУ

Настаў час пазнаёміцца «яшчэ з адным героем нашай гісторыі. Звалі яго Фока, і жыў ён у тым жа горадзе, што і Луіза, толькі на другім канцы. Бацькі яго вельмі любілі і ва ўсім яму патуралі, ведама, ён быў адзіным дзіцем у сям'і. Яны куплялі яму самыя лепшыя цацкі, кармілі яго самай смачнай ядой і апраналі яго ў самае лепшае адзенне.

— Ты самы прыгожы хлопчык ва ўсім нашым горадзе,— кожны дзень пяшчотна гаварыла яму мамачка Тарэза і гладзіла сынка па галоўцы.

Хоць, шчыра кажучы, далека не ўсе іх знаёмыя так лічылі. Фока, як і яго мамачка, быў невысокага росту, пухленькі, аж занадта, таму, напэўна, і непаваротлівы. Калі ён пачынаў бегаць, то рабіў губамі вось так: "Пф-пф-ху-у-у! Пф-пф-ху-у-у!"

— Ты самы дужы хлопчык ва ўсім нашым горадзе,— кожны раз дадавала мамачка Тарэза, хоць, прызнацца, усе знаёмыя Фокі ў гэтым вельмі сумняваліся. А што ён быў надта баязлівы, дык гэта ведалі ўсе дзеці ў двары. Убачыць Фока сабаку — такога крыку наробіць, што ў тых, хто побач з ім знаходзіцца, звон у вушах некалькі гадзін стаіць.

— Мы нікому не дамо ў крыўду нашага сынка,— калыхала Фоку на каленях мамачка Тарэза і не заўважыла, як той паспеў вырасці. А калі нарэшце заўважыла, усклікнула:

— Капітон! Ты толькі паглядзі: наш сын стаў ужо зусім дарослы!

Капітон — бацька Фокі — пачапіў на нос акуляры і стаў уважліва, з недаверам разглядаць свайго сына.

— І праўда,— нарэшце сказаў ён,— вырас.

— Яго трэба ажаніць! — зноў усклікнула мамачка Тарэза.— Я сама выберу нашаму хлопчыку нявесту! Гэта будзе самая прыгожая дзяўчына ва ўсім горадзе.

Мамачка Тарэза кінулася да шафы і стала выцягваць з яе самае лепшае адзенне.

— Паглядзі, які прыгожы зялёны касцюм,— сказала яна Фоку.— У гэтым зялёным касцюме ў цябе магла б закахацца нават якая-небудзь каралеўна. Мы зараз жа адпраўляемся з табой шукаць нявесту. Мы абыдзем увесь горад, мы будзем хадзіць тыдзень, месяц, а калі спатрэбіцца, і цэлы год, але знойдзем табе такую дзяўчыну, што ўсе лопнуць ад зайздрасці.

І яны накіраваліся на пошукі нявесты. Фока і мамачка Тарэза падоўгу блукалі па гарадскіх скверах і парках, па некалькі разоў на дзень праходзілі па самых людных вуліцах і праспектах, ездзілі сюды-тюды ў перапоўненых аўтобусах і тралейбусах, але мамачка Тарэза адно крывілася ды цяжка ўздыхала, прыдзірліва разглядаючы дзяўчат, якія ім трапляліся.

На дзесяты дзень пошукаў мамачка Тарэза стукнула сябе рукой па лбе і ўсклікнула:

— Якая ж я дурная!

— Ну?! — здзівіўся Фока.— А тата кажа, што ты самая разумная.

— Ты мяне не так зразумеў. Я дурная, бо адразу не здагадалася, як нам знайсці найпрыгажэйшую дзяўчыну ў горадзе. А тата твой заўсёды кажа праўду.

— А як нам знайсці найпрыгажэйшую дзяўчыну ў горадзе?

— Нам трэба звярнуцца да Варажбіткі!

— Да Варажбіткі?

— Вядома. Хто-хто, а яна ўсё ведае.

Праз гадзіну яны ўжо сядзелі ў змрочным напаўпустым пакойчыку, за сталом, на якім гарэла тоненькая свечка.

Старая Варажбітка са зморшчаным тварам, з носам, які, здавалася, вось-вось дакранецца да яе падбародка, сядзела ў вялікім цвёрдым крэсле і тасавала карты.

Перад ёй на стале стаяў кубачак з кавай.

— Чорная ноч, наступі. Чорнае возера, пакажы твар,— шаптала Варажбітка.

Прамовіўшы гэтыя словы, яна кідала адну карту на стол, глядзела ў кубачак і зноў шаптала:

— Чорная ноч, наступі. Чорнае возера, пакажы твар.

— Якая ноч, якое возера?! — мармытала мамачка Тарэза.— Цяпер раніца.

— Не замінай,— злосна сказала Варажбітка, кінула чарговую карту, паглядзела ў кубачак і, мабыць, зноў у ім нічога не ўбачыла.— Чорная ноч, наступі. Чорнае возера, пакажы твар.

Мамачка Тарэза не стрывала.

— Мы седзімо тут ужо цэлую гадзіну. Мы самі зможам убачыць яе твар, скажы толькі імя і адрас гэтай дзяўчыны!

— Давай, гавары! — аж падскочыў на табурэтцы Фока.— Які яе адрас?

— Дзівак,— прамармытала старая,— я магу табе сказаць нешта такое, што крута паверне тваё жыццё. Яшчэ дзесяць залатых манет.

— Што? — усклікнула мамачка Тарэза.

— Яшчэ дзесяць залатых манет пакладзіце на стол — твар ніяк не хоча з'яўляцца.

— Дзесяць?! А ці не замнога табе будзе?!

— Мая варажба наогул не мае цаны, а ты, жанчына, трасешся над нейкімі дзесяццю дробнымі манетамі.

— Дзесяццю? Ды мы ўжо выклалі не менш пяцідзесяці! — закрычала мамачка Тарэза.

— Ну, хай — над пяццюдзесяццю,— спакойна сказала старая.— Якая розніца?!

— Але яшчэ пяцьдзесят мы выклалі, калі ўвайшлі сюды,— нагадала мамачка Тарэза.

— Ага, выклалі,— пацвердзіў Фока.

— Ну і што? — паціснула плячыма Варажбітка, быццам не разумеючы, з-за чаго тут спрачацца.

— І яшчэ пяцьдзесят павінны будзем выкласці, калі ты назавеш імя гэтай дзяўчыны?!

— Зноў пяцьдзесят,— кіўнуў галавой Фока.

— Ну, павінны,— абыякава сказала Варажбітка.— Чым больш залатых манет вы дасце, тым больш я змагу вам расказаць.

— Дык нам трэба толькі...— пачала мамачка Тарэза, але варажбітка яе перабіла.

— Я ж вас папярэджвала, што такімі дробязямі я не займаюся,— пакрыўджана сказала яна.— Імя хай адгадваюць тыя, што цэлымі днямі ходзяць па горадзе з працягнутай рукой. А зараз не замінайце мне, пакуль зямныя і нябесныя духі не пакрыўдзіліся на мяне.

І яна зноў зашаптала:

— Чорная ноч, наступі. Чорнае возера, пакажы свой твар.

За такія грошы,— прамармытаў Фока,— я б і сам навучыўся размаўляць з духамі і расказваў бы, што з кім некалі адбудзецца.

Але Варажбітка не чула яго. Яна ўважліва глядзела ў кубачак, вочы яе рабіліся ўсё большымі, а губы шапталі незразумелыя словы:

— Шардома зандоры... атома чарборы...

Апошняя з кінутых Варажбіткай на стол карт раптам пачала рухацца сама па сабе.

Рукі старой затрэсліся, і яна зашыпела:

— Грошы, кідайце грошы!

Мамачка Тарэза дастала з сумачкі некалькі манетак і кінула іх на стол, заварожана пазіраючы на карту, якая рухалася да краю стала.

Нечакана кава ў кубачку пачала свяцтлець і ператварылася ў люстэрка.

— Чорнае возера, дзякуй табе,— шаптала старая.— Чорная ноч, дзякуй табе.

Раптам у кубачку, быццам на экране тэлевізара, з'явіўся твар Луізы. Дзяўчына сядзела на лаўцы каля свайго дома і чытала кнігу.

— Божа, якая яна харошанькая! — усклікнула мамачка Тарэза.

— Я хачу ажаніцца з ёй! — заляскаў у далоні Фока.

— Цішэй вы! — зашыпела Варажбітка.— Вы замінаеце слухаць.

— Што слухаць? — здзіўлена спытала мамачка Тарэза.— Хіба ты што-небудзь чуеш?

— Яе імя...— закаціўшы вочы, прашаптала старая,— яе імя Луіза. Яна жыве... яна жыве... на вуліцы Сонечнай.

Але нечакана твар Луізы знік, і замест яго з'явіўся твар Фокі.

— Глядзі,— здзіўлена ўсклікнула мамачка Тарэза,— глядзі, Фокачка, гэта ж ты!

Фока заззяў ад радасці:

— Гы-гы-гы!

І тут яго твар у кубачку знік. Замест Фокі паказалася нейкая пачвара.

— Мама! — спалохана адскочыў ад стала Фока.— Хто гэта?

— Хто гэта? — паўтарыла сынава пытанне мамачка Тарэза. Але Варажбітка маўчала.

Раптам кава ў кубачку закіпела і пачала выліваццa з яго. Кава была пунсовага колеру, нібыта кроў.

— Што гэта такое? — закрычала мамачка Тарэза. Фока са страху палез пад стол.

Адна Варажбітка нерухома сядзела ў крэсле і моўчкі глядзела, як разліваецца па стале кава пунсовага колеру.

— Старая вядзьмарка! — не вытрымала мамачка Тарэза і сціснула кулакі.— Што ўсё гэта значыць?

Але Варажбітка адказала толькі тады, калі ў кубачку не засталося ні кроплі вадкасці.

— Забудзься на Луізу,— змрочна сказала яна Фоку, які спалохана высунуў галаву з-пад стала.

— Што ты плявузгаеш, старая вядзьмарка?! — ускіпела мамачка Тарэза.— Мой сын возьме яе ў жонкі!

— Забудзься на Луізу,— паўтарыла Варажбітка.— Яна не для цябе.

— Замаўчы! — не сунімалася мамачка Тарэза.— Якраз такі яна толькі для яго.

Фока разгублена лыпаў вачыма і не ведаў, што казаць.

— Не спяшайся насустрач сваей смерці,— паківала галавой Варажбітка.

— Што?! — громам пранёсся па пакоі голас мамачкі Тарэзы.— Старая вядзьмарка! Як ты магла такое ляпнуць?! Прайдзісветка! Фокачка, мы ідзём адсюль!

Раззлаваная мамачка Тарэза ўхапілася рукамі за край стала і з сілай перакуліла яго. Карты і грошы пасыпаліся на падлогу. Кубачак адскочыў да самай сцяны, але застаўся цэлы. Фока ўскочыў на ногі і першы кінуўся да дзвярэй. Мамачка Тарэза накіравалася следам.

— Пастойце,— крыкнула Варажбітка,— а як жа яшчэ пяцьдзесят залатых манет, якія вы павінны заплаціць пасля варажбы?!

— Пяцьдзесят залатых манет? — спынілася мамачка Тарэза, і злая усмешка прабегла па яе твары.— Дык ты ж ашуканка. Толькі вар'ят можа паверыць у твае казкі. Яшчэ дзякуй, што мы не забіраем у цябе тыя грошы, якія далі раней.

— Ага, столькі грошай далі! — падтакнуў Фока.

— Можаце забраць назад свае грошы! — Варажбітка, нібы яе хто ўкусіў, ускочыла з крэсла і кінула калючы позірк на гасцей.— Менш смецця будзе ў доме.

— Ах так! — сціснула зубы мамачка Тарэза.— Фокачка, збяры грошы!

Фока паслухмяна кінуўся падымаць раскіданыя па падлозе залатыя манеты, але раптам твар яго збялеў.

— Мамачка! — закрычаў ён.— Глядзі, мамачка, што гэтая зладзейка з імі зрабіла!

У яго руках залатыя манеты ператварыліся ў бляшаныя. Мамачка Тарэза цяжка задыхала і доўга не магла прамовіць ні слова.

— Што ж,— нарэшце сказала яна, звяртаючыся да Варажбіткі,— калі грошы для цябе смецце, не варта табе іх дарэмна даваць. Фокачка, мы ідзём адгэтуль!

— Ідзіце, ідзіце,— прабурчала Варажбітка.— А я пагляджу, чым усё скончыцца. Я пагляджу. Даўненька я не бачыла такога. Ідзіце, ідзіце, а я пагляджу, ідзіце на сваю пагібель. Так вам і трэба!

І Варажбітка глуха зарагатала.

## Раздзел чацвёрты ФОКА І ЛУІЗА

Луіза сядзела на лаўцы і чытала кнігу. Казка так захапіла яе, што яна не заўважыла, як праляцела некалькі гадзін.

— Прывітанне, Луіза,— нечакана пачула яна над галавой жаночы голас.

Луіза адарвалася ад кнігі. Маленькая і вельмі тоўстая цётачка глядзела на дзяўчынку з паблажлівай усмешкай. Побач з жанчынай стаяў такі ж невысокі і пухленькі хлопец і часта-часта лыпаў вачыма.

— Добры дзень,— сказала Луіза.

— Ну як? — мамачка Тарэза — а гэта, вядома ж, была яна — павярнулася да свайго сына.— Як табе нявеста?

— Гы-гы-гы,— здавалася, у Фокі адабрала мову. Нарэшце ён сказаў: — Тое, што трэба!

— І я так думаю,— пагадзілася з сынам мамачка Тарэза, агледзела Луізу з ног да галавы і зноў усміхнулася.

— Дзіцятка, я хачу сказаць, што табе вельмі пашанцавала.

— Чаму? — не магла нічога зразумець Луіза.

— Ты спадабалася майму сыну і мне таксама!

— Ну і што?

— Як — што? Ён хоча ажаніцца з табой!

— Ажаніцца?! — усклікнула Луіза.— Але... але я не хачу выходзіць замуж — ні за вашага сына, ні за чыйго іншага!

— Гэта яшчэ чаму? — здзівілася мамачка Тарэза.— Я, напрыклад, заўсёды хацела выйсці замуж! А пасля, паглядзі, які прыгажун у мяне сын!

Пры гэтых словах Фока пачырванеў і заўсміхаўся.

— Паглядзі, паглядзі на яго! — з захапленнем казала мамачка Тарэза.— Такога хлопца ты не знойдзеш ва ўсім горадзе!

Луіза зірнула на Фоку і засмяялася, але, каб не пакрыўдзіць мамачку Тарэзу і яе сына, тут жа прыкрыла рот рукой.

— Але я яшчэ ніколі не думала аб замужжы...— стараючыся быць сур'ёзнай, сказала Луіза.— Я не ўяўляю сабе... і наогул...

— Дзіцятка мае, думаць цяпер за цябе будзе мой сын.

— Але мне толькі чатырнаццаць гадоў! — усклікнула Луіза.

— Чатырнаццаць? — мамачка Тарэза яшчэ раз здзіўлена агледзела дзяўчынку з ног да галавы.— Вось як? Што ж, значыць, нам трэба пагаварыць з тваімі бацькамі.

— У мяне няма бацькоў,— ціха сказала Луіза.

— А хто ёсць? — асцярожна спытала мамачка Тарэза.

— Брат.

— Цудоўна! — усклікнула мамачка Тарэза.

— Што — цудоўна? — не зразумела дзяўчынка.

— З братам тваім мы дамовімся. Пакуль табе не споўніцца васемнаццаць гадоў, ты пажывеш у нас. Пасля...

— Але я не хачу жыць у вас! — перабіла жанчыну Луіза.

— Дурненькая, ты сама не ведаеш, што ты гаворыш. Ты сама адмаўляешся ад свайго шчасця.

— Ага, ад шчасця,— паспешна заківаў галавой Фока.— Ты толькі слухай маю мамачку, і ўсё будзе добра.

— Ды не хачу я нікога слухаць! — крыкнула Луіза. Тарэза махнула рукой.

— Дзе твой брат?

— Не ведаю,— змахлявала дзяўчынка,— яго няма дома.

— Калі вернецца, перадай яму, што хутка ён будзе апранацца ў лепшых мадэльераў горада і жыць,— мамачка Тарэза акінула позіркам домік Луізы,— жыць ён будзе ў прыгожым І багатым асабняку. Я ведаю, як трэба размаўляць з мужчынамі.

— Не сумнявайся, яна ўсё ведае,— заківаў галавой Фока, але Луіза толькі паморшчылася, зірнуўшы на яго.

## Раздзел пяты ВЫПРАБАВАННЕ ВОДАМАБІЛЯ

Луіза яшчэ не паспела апамятацца пасля нечаканага візіту мамачкі Тарэзы і яе сыночка, як у дом заляцеў шчаслівы, увесь перапэцканы аўтамабільным маслам Гардзей.

— Атрымалася! — закрычаў ён.— У мяне атрымалася! Уяўляеш?!

— Што атрымалася? — не зразумела Луіза.

— Я стварыў машыну, якой не патрэбен бензін! Я нарэшце стварыў яе!

— Гардзейка, ты малайчына! — радасна сказала Луіза.— Я верыла. Усе смяяліся, а я верыла, што ў цябе атрымаецца.

— Мы зараз жа павінны выпрабаваць яе! Мы аб'едзем на ёй увесь горад!

— Пачакай, Гардзейка! Зірні на сябе: табе трэба пераапрануцца.

— Так-так,— сумеўся брат.— Сёння ў мяне свята, і я павінен апрануцца адпаведна.

Праз некалькі хвілін ён ужо стаяў перад сястрой памыты, прычасаны, у новых джынсах і кашулі. Твар яго зіхацеў, нібы люстэрка, якое злавіла сонечны "зайчык".

— Можна пачынаць! — урачыста прамовіў Гардзей, і яны накіраваліся ў гараж.

— Як ты лічыш, што гэта? — спытаў Гардзей у сястры і кіўнуў галавой у бок машыны.

— Як што — аўтамабіль.

— Не зусім. Правільней яго будзе называць водамабілем. Я так лічу. Я стварыў машыну, якая працуе не на бензіне, а на чыстай вадзе, уяўляеш?!

— Здорава!

Дзіва што,— задаволена ўсміхнуўся Гардзей.— Але не гэта галоўнае. Сядай у водамабіль, ты зараз яшчэ нешта незвычайнае ўбачыш.

Луіза асцярожна забралася ў машыну, Гардзей упэўнена палез за ёй.

— Вось, глядзі,— сказаў ён, паказваючы на невялікую скрынку, уманціраваную ў прыборную панель.— Гэта камп'ютэр, які будзе замест мяне кіраваць водамабілем. Ён дакладна вызначае шчыльнасць руху на дарогах, рэгіструе пробкі, выбірае аптымальны шлях.

— Хіба гэта магчыма? — няўпэўнена спытала Луіза.

— Яшчэ як магчыма! — засмяяўся Гардзей.— Паехалі.

Ён націснуў зялёную кнопку, размешчаную ў ніжнім правым кутку прыборнай панелі, на якой адразу загарэлася некалькі рознакаляровых лямпачак, і машына сапраўды кранулася з месца, набіраючы хуткасць. Гардзей сядзеў на мяккім сядзенні, закінуўшы рукі за галаву, і нават не спрабаваў кіраваць. Зрэшты, гэта было і немагчыма, паколькі руль у водамабілі адсутнічаў.

Імчацца па горадзе на машыне без руля — задавальненне, якое немагчыма пераказаць. Праўда, спачатку, як толькі дзіва-тэхніка даганяла які-небудзь "мерседэс" ці "жыгулі", Луіза сціскала кулачкі і пішчала ад страху, але хутка прывыкла і сама пачала "кіраваць" водамабілем.

— Зменшыць хуткасць! — уладарным голасам казала яна ў маленькі мікрафончык, замацаваны на камп'ютэры, калі іх машына занадта разганялася. І тая паслухмяна змяншала хуткасць.

— Абагнаць! — камандавала дзяўчынка, і водамабіль сапраўды даваў улева і абганяў чарговую машыну.

Гардзей моўчкі сядзеў побач і шчасліва ўсміхаўся.

Хутка яны апынуліся на другім канцы горада. Тут рух быў не такі ажыўлены, як у цэнтры, і водамабіль ішоў роўна, не змяншаючы хуткасць і не павялічваючы яе.

Мінула яшчэ некалькі хвілін, і Луіза з Гардзеем ужо мчаліся па звілістай лясной дарозе.

— Можа, будзем вяртацца? — час ад часу няўпэўнена пытаўся ў сястры Гардзей, але па яго го ласе няцяжка было здагадацца, што ехаць назад хлопцу самому зусім не хочацца.

— Зараз,— адказвала Луіза.— Вунь за той павароткай развернемся.

Але як толькі яны даязджалі да павароткі, дзяўчынка прасіла:

— Давай даедзем вунь да таго дрэва і будзем разварочвацца.

Раптам матор пачаў барахліць і нечакана наогул заглух. Гардзей, засмучаны, выйшаў з машыны. Луіза паспяшалася за ім.

— Што-небудзь сур'ёзнае? — спытала яна.— Мы зможам даехаць дадому?

— Не ведаю,— пацiснуў плячыма Гардзей.— Трэба паглядзець. Вось толькі ў мяне з сабой няма ніякіх інструментаў.

Тым часам на зямлю апусціўся вячэрні змрок, і корпацца ў машыне было ўсё цяжэй.

Гардзей зрабіўся зусім змрочны. Луіза трымалася наводдаль, каб не замінаць брату.

Здалёк пачуўся шум матораў. У іх бок імчалася некалькі матацыклаў.

— Ура! — крыкнула Луіза.— Зараз нам дапамогуць!

Гардзей выцер рукі бруднай прамасленай анучкай і пачаў махаць ёй, просячы матацыклістаў спыніцца. Іх было пяцёра. Яны сапраўды спыніліся. Знялі шлемы. І чамусьці ад разу не спадабаліся Луізе. Выгляд у іх быў высакамерны, а ў паходцы — тая цвёрдасць і ўпэўненасць, якая многіх прымушала паспешна саступіць ім дарогу, далей ад ліха.

— У нас вось... вода... водамабіль сапсаваўся,— крыху вінавата прамовіў Гардзей.

— Хто-хто сапсаваўся? — перапытаў адзін з матацыклістаў. Як і астатнім чатыром, на выгляд яму было не больш за дваццць гадоў.

— Водамабіль,— ціха паўтарыў Гардзей.

— Вода...— хлопец не дагаварыў і зарагатаў.— А ён што ў цябе, толькі па вадзе ездзіць? Ці, можа, па лужынах?

Матацыклісты падтрымалі таварыша дружным смехам. А той адштурхнуў Гардзея і накіраваўся да машыны. Ад нечаканасці Гардзей згубіў раўнавагу і ўпаў. Зноў пачуўся рогат.

— Што вы робіце? Як вам не сорамна?! — закрычала Луіза.

— О, якая прыгажуня! — усклікнуў адзін з хлопцаў.— Паехалі з намі!

— Прэч адгэтуль! — ледзь не плакала дзяўчынка.

— Вы толькі зірніце на гэты іх водамабіль,— насмешліва сказаў матацыкліст, які штурхануў Гардзея.— Дык у ім жа нават руля няма. Яны, мабыць, у сю дарогу пхалі гэтую развалюху!

— А цяпер стаміліся і захацелі, каб мы ім дапамаглі,— дадаў другі матацыкліст.

— Вось зараз мы ім і дапаможам,— сказаў са здзекам трэці.— Ану, давайце перакулім гэтую старызну, каб не замінала на дарозе.

І хлопцы дружна ўзяліся за справу.

Упяцёх яны лёгка перакулілі водамабіль. Машына спачатку цяжка павярнулася на бок, а затым легла дагары коламі.

— Вось так яна глядзіцца значна лепей,— задаволена сказалі хлопцы.

Збоку яны былі як браты-блізняты — амаль аднолькавага росту, апранутыя ў аднолькавага колеру курткі і штаны. Ды і твары іх у вячэрнім змроку таксама выглядалі аднолькава — злыя і самазадаволеныя.

— Як вы можаце! Вы не маеце права! — ускочыў Гардзей і кінуўся на хлопцаў.

Але адзін з іх моцна пхнуў яго. У Гардзея зляцелі акуляры.

— Акуляры! Мае акуляры! — крыкнуў Гардзей. Пад нагой матацыкліста трэснула шкло.

— Ну, я вам зараз пакажу!

Гардзей усхапіўся і пачаў чапляцца рукамі за вопратку то аднаго, то другога хлопца, спрабуючы адагнаць іх ад перакуленага водамабіля.

— Ідзіце адгэтуль! — крычаў ён з такой злосцю і нянавісцю, як, напэўна, яшчэ не крычаў ніколі ў жыцці.— Ідзіце адгэтуль, кажу!

Але яго словы выклікалі адно смех. Гардзея ніхто не баяўся. Яго знешні выгляд быў не з тых, калі не шкодзіць спачатку добра падумаць, перш чым нагрубіяніць альбо сказаць пра яго нешта насмешлівае.

Хлопцы рагаталі і штурхалі Гардзея адзін аднаму, быццам гулялі з мячыкам.

— Адпусціце яго! — упрошвала іх Луіза, але тыя, здавалася, нават не чулі яе.

Невядома, як бы ўсё гэта скончылася, калі б Гардзей не злаўчыўся і не стукнуў кулаком аднаму з хлопцаў у падбародак. Той ад нечаканасці ўзмахнуў рукамі, быццам збіраўся ўзляцець у паветра, і ўпаў. Аднак ён тут жа ўскочыў на ногі, выхапіў з кішэні курткі сцізорык, рассёк ім паветра і прашыпеў:

— Ну, цяпер трымайся.

— Гардзей, уцякайма, яны заб'юць цябе! — спалохана закрычала Луіза.

Яна падбегла да разгубленага брата, схапіла яго за руку і пацягнула за сабой.

— Хапайце іх, хапайце! — закрычаў нехта, і гэтыя словы дапамаглі Гардзею апамятацца.

Брат з сястрой пусціліся наўцёкі. Луіза трымала Гардзея за руку, а ён усё задыхана мармытаў:

— Мае акуляры. Я кепска бачу. Яны пабілі мае акуляры!

— Хутчэй, хутчэй, Гардзейка! — крычала Луіза.— Яны наганяюць нас!

Але куды бегчы? Вакол быў густы цёмны лес. Праўда, крыху наперадзе, амаль каля самай дарогі, пачыналася высокая цагляная агароджа. Няўжо нехта можа жыць у гэтай глухамані?

Аднак іншага выйсця, апроч як паспрабаваць трапіць за гэтую агароджу, у Луізы і Гардзея не было.

— Давай, Гардзейка, давай,— прасіла Луіза,— тут недзе павінны быць вароты.

— Я кепска бачу,— раз-пораз паўтараў брат.— Без акуляраў я кепска бачу.

— Хутчэй, Гардзей! Не можа быць, каб тут не было варотаў! Здавалася, яны цэлую вечнасць бягуць узбоч бясконцай цаглянай агароджы.

Луіза баялася азірнуцца: раптам яна ўбачыць занесеную над сабой руку з нажом?! Тады ім ужо не ўратавацца.

А за спінай усё бліжэй чуліся пагрозлівыя крыкі і свіст. Усё мацней ад страху стукала ў грудзях сэрца.

— Трымай іх! — чуліся задыханыя галасы.

— Не дай ім уцячы!

— Ды нікуды яны ад нас не падзенуцца!

— Хапай жа, хапай яго!

Але вось нарэшце паказаліся выратавальныя вароты. Луіза і Гардзей налеглі на іх з усіх сіл — дубовыя вароты, пакрытыя мохам і нейкай агіднай слізззю, не адчыніліся.

— Гэта канец,— прашаптала Луіза і бездапаможна апусціла рукі.

— Гэй! — закрычаў Гардзей.— Там ёсць хто-небудзь? Дапамажыце!

Але за варотамі нічога не было чутно. Злавесная цемра разлівалася ў паветры, змрочна глядзелі на тое, што адбывалася вакол, дрэвы.

— Дапамажыце! — ужо безнадзейна закрычаў Гардзей.

Раптам вароты самі па сабе пачалі адчыняцца. Іншым разам Луіза і Гардзей вельмі б здзівіліся гэтаму, аднак цяпер іх думкі былі занятыя толькі адным — як бы ўратавацца.

Луіза з братам кінуліся па сцяжынцы, якая вяла ў глыб саду, і вароты тут жа зачыніліся перад самым носам праследавальнікаў.

— Д'яблавы дзеці, як яны здолелі адчыніць іх?!

— Паглядзі лепш, там павінна быць клямка.

— Ды няма тут ніякай клямкі.

— Ну і ну!

— А, ведаеце, чыя гэта сядзіба?

— Ну?

— Нейкага багатага дзівака, якога некалькі гадоў ужо ніхто не бачыў.

— Ён што, з'ехаў адсюль?

— Не ведаю. Але кажуць, што гэта праклятае месца, і ўсе яго стараюцца абыходзіць.

— Ага, наслухаўся бабуліных казак.

Праследавальнікі яшчэ некалькі хвілін пакруціліся каля варотаў і неахвотна пайшлі назад.

— Мы ўратаваліся,— радасна сказала Луіза.

— Мая машына,— уздыхнуў Гардзей.— Яны, відаць, зусім разаб'юць яе альбо падпаляць.

— Ты збярэш другую, лепшую,— абняла яго за плечы сястра.— І яна, магчыма, будзе працаваць на энергіі сонца. У цябе ж залатыя рукі!

## Раздзел шосты ДОМ, ДЗЕ АДБЫВАЮЦЦА ЦУДЫ

Чым бліжэй падыходзілі Луіза і Гардзей да вялікага двухпавярховага дома-асабняка, тым больш трывожна рабілася ў іх на душы. Здавалася, праз цёмныя вокны на іх глядзяць тысячы нябачных вачэй. Але разам з тым цікаўнасць настойліва падштурхоўвала іх наперад.

Луіза першая паднялася па прыступках ганка. Гардзей, праўдзе. Значыць, падумала Луіза, будзільнік нехта заводзіць, а гэта ў сваю чаргу азначае, што тут нехта жыве. Бо навошта заводзіць будзільнік, калі ты не жывеш у гэтым доме?

Луіза і Гардзей пачалі ўважліва разглядаць пакой. На сцяне вісела некалькі карцін. Невялікі столік, накрыты квяцістым настольнікам, які звісаў амаль да самай падлогі, некалькі крэслаў, вялізны, амаль на ўвесь пакой, мяккі дыван на падлозе — вось, бадай, і ўсё, што разгледзелі Луіза і Гардзей. Мэбля была зроблена пад даўніну, і гэта надавала пакою, асабліва ў паўцемры, урачысты і велічны выгляд.

Адзінае акно было шчыльна завешана чорнай шторай. У сцяне, супрацьлеглай ад увахода, знаходзіліся яшчэ адны дзверы, крыху прачыненыя.

— Не дыхай мне ў самае вуха! — раптам пачуўся нечы шэпт.

На яго тут жа зашыкаў нехта другі:

— Цішэй ты!

— А ты адвярніся! — не мог супакоіцца той, каму дыхалі ў вуха.

— Ты чула? — спытаў Гардзей.

— Што? — Луіза зрабіла выгляд, быццам нічога не зразумела, хоць, па праўдзе кажучы, яна ўсё цудоўна чула.

Нехта толькі што шаптаўся.

— А табе не здалося?

— Ды не.

— У любым выпадку, калі заходзіш у чужы дом, трэба вітацца,— сказала Луіза і гучна прамовіла: — Добры вечар!

— Вечар добры! — адказаў нехта нябачны.

— Ды ты што, звар'яцеў?! — зашыпеў на яго другі голас.

— Прабачце, што мы зайшлі сюды без запрашэння, але за намі гналіся... нейкія хлопцы,— як мага мякчэй прамовіла Луіза.

— Яны перакулілі мой водамабіль,— дадаў Гардзей, азіраючыся па баках.

— Гэта такая машына, якая працуе не на бензіне, а на вадзе,— растлумачыла Луіза.

— Ну і ну! — прашаптаў нехта нябачны.

Гардзей уважліва прыслухоўваўся да ўсіх гукаў у пакоі, і яму падалося, што апошнія словы пачуліся з-пад стала. Ён паволі, нібы баючыся, пачаў набліжацца да яго.

— Ну вось, я так і думаў, што гэтым усё скончыцца,— зноў пачуўся нечы шэпт.

Цяпер Гардзей ужо не сумняваўся, што размаўляюць пад сталом. Як толькі ён падышоў бліжэй, з-пад стала тут жа вылез чорны даўганосы Даберман і незадаволена сказаў:

— Прашу не палохацца. Перад вамі ўсяго толькі сабакі, якія ўмеюць размаўляць.

— Добры вечар,— віляючы рудым хвастом, з-пад стала вылез Сенбернар.— Прабачце, што мы адразу сустрэлі вас не вельмі гасцінна... пад сталом.

— О, мы зараз паспрабуем усё выправіць,— пачуўся нечы голас за спінамі Луізы і Гардзея.

Брат з сястрой азірнуліся і здзівіліся яшчэ больш. Аказалася, што цяпер з імі размаўляе Сіямская Кошка. Побач з ёй стаяла Маленькае Сіямскае Кацяня і з цікавасцю разглядала нечаканых гасцей.

— Што, і ты... і вы таксама ўмееце гаварыць чалавечым голасам? — разгублена спытаў Гардзей.

— Як бачыце,— сказала Сіямская Кошка.

— І нават вельмі добра умеем гаварыць,— пахвалілася Маленькае Сіямскае Кацяня.

— Калі ласка, сядайце,— Сіямская Кошка кіўнула на крэслы.— Вы, можа, галодныя? Хочаце чаю?

Але не паспелі Луіза з Гардзеем адказаць, як Маленькае Сіямскае Кацяня закрычала:

— Я, я сама прынясу ім кубачкі! І яно выскачыла за дзверы.

— Сенбернар,— лагодна папрасіла Сіямская Кошка,— прынясі, калі ласка, чайнік і цукар.

— Ну вось,— прабубніў Сенбернар,— знайшлі афіцыянта. Тым не менш, ён паслухмяна накіраваўся следам за Маленькім Сіямскім Кацянём.

Праз некалькі хвілін Луіза і Гардзей адкінуліся на мяккіх крэслах і частаваліся смачным гарачым чаем.

— Каб мне хто-небудзь расказаў, што такое можа сапраўды здарыцца, я б з яго толькі пасмяяўся,— пакруціў галавой Гардзей.

Луіза кінула на брата позірк, які гаварыў: ну вось, а ты не хацеў ісці сюды, бачыш, у якую незвычайную гісторыю мы трапілі!

Але Гардзей ніяк не адрэагаваў на гэты позірк. Ён зрабіў некалькі глыткоў чаю, прыжмуранымі вачыма паглядзеў па баках і спытаў, не ведаючы, да каго звярнуцца:

— А што, у гэтым доме няма святла? Тут так цёмна.

— Ну, як вам сказаць,— сумелася Сіямская Кошка.— Некалі, вядома, тут была электрычнасць. Але цяпер — толькі свечкі.

— А ў ім хто-небудзь жыве? — спытала Луіза, але адразу ж спахапілася і дадала: — Апроч вас, вядома, я мела на ўвазе.

— Так,— адказала Сіямская Кошка,— тут ёсць гаспадар.

— І мы зможам яго пабачыць?

— Ну... у прынцыпе... калі атрымаецца...— Сіямская Кошка не ведала, што сказаць.— Вам наліць яшчэ чаю?

— Не, дзякуй,— пакруціла галавой Луіза.— Дзякуй, чай быў вельмі смачны.

— Так, гэта незвычайны напой. Я ўпэўнена, вам ніколі раней не даводзілася піць такога.— Сіямская Кошка не стрымалася, каб не пахваліцца.— Ён настоены на рэдкіх зёлках і вельмі карысны. Напрыклад, цудоўна здымае стому, галаўны боль.

Тым часам Гардзей дапіў свой чай, падняўся з крэсла і прайшоўся па пакоі. Без акуляраў ды яшчэ ў паўзмроку ён вельмі кепска бачыў і, каб разгледзець які-небудзь прадмет, набліжаўся да яго ўсутыч. Дайшоўшы да дзвярэй, Гардзей не стрываў і зазірнуў у суседні пакой. Там таксама было цёмна. На сценах гарэла некалькі свечак, але іх святла было недастаткова, каб тут чым-небудзь займацца.

Гардзей наблізіўся да вялікага стала, які стаяў пасярод пакоя, і ўзяў з яго фотаздымак юнака. Гардзей хацеў паднесці яго бліжэй да свечкі, каб лепей разгледзець, але наткнуўся на крэсла, фотаздымак выслізнуў з рук і паляцеў на падлогу. Шкло, за якім знаходзіўся здымак, разбілася на дробныя аскепкі.

Гардзей схіліўся, каб сабраць іх, і раптам здрыгануўся. У пакоі пачуўся страшны, нечалавечы стогн, і ў той жа момант над Гардзеем навісла чорная вялізная пачвара. У цемры яе было цяжка разгледзець, але Гардзею ад гэтага зрабілася яшчэ страшней — здавалася, чорная тара вось-вось абрынецца на яго.

Пачвара схапіла Гардзея калматай лапай за горла і зараўла:

— Ты разбіў мой фотаздымак! Як ты трапіў сюды? Што табе трэба ад Ваўкалака? Цябе падаслала Вядзьмарка, так? Не маўчы, адказвай!

Гардзей, хоць нічога не разумеў і ледзьве дыхаў са страху, быў зусім не супраць адказаць на якія заўгодна пытанні, але Ваўкалак так моцна сціскаў яго горла, што ён не мог вымавіць ніводнага слова.

Луіза пачула ў суседнім пакоі страшны голас Ваўкалака і кінулася туды. Даберман, Сенбернар, Сіямская Кошка і Маленькае Сіямскае Кацяня падаліся следам.

Апынуўшыся ў пакоі, Луіза разгублена застыла на месцы, не разумеючы, што тут адбываецца. Нехта вялізны, чорны схіліўся над яе братам.

Затое адразу ўсё зразумелі астатнія.

— Калі ласка, адпусці яго! — таропка прамовіў Сенбернар.— Так атрымалася… на гэтых дваіх напалі ў нашым лесе.

— Хто ім адчыніў вароты? — незадаволена зароў Ваўкалак.

— Мы не адчынялі! — пакруціў галавой Сенбернар.

— Мы нават не выходзілі з дому,— дадаў Даберман.

— Яны самі адчыніліся,— няўпэўнена прамовіла Сіямская Кошка.

— Мы з мамай былі на кухні,— спалохана прапішчала Маленькае Сіямскае Кацяня.

— Хто вы? Што вы тут робіце? — грозна звярнуўся Ваўкалак да Луізы.

— Прабачце, мы тут зусім выпадкова… Мы не хацелі… Калі ласка, адпусціце майго брата! — пачала маліць Луіза.— Ён ні ў чым не вінаваты.

— Ён разбіў мой любімы фотаздымак,— зароў Ваўкалак.— Я павінен пакараць яго за гэта. Ён назаўсёды застанецца тут.— Ваўкалак зірнуў на Гардзея і, зрабіўшы паўзу, дадаў: — Калі з яго мне будзе якая-небудзь карысць. Калі не — я кіну яго ў склеп, няхай памірае з голаду.

— Ну як жа…— Луіза ледзьве не плакала.— Гэта ж я ва ўсім вінавата. Гэта я ўгаварыла яго зайсці ў гэты дом, а ён не хацеў. Вазьміце лепей мяне замест яго.

— Цябе? Ты згодна заняць яго месца? — ад здзіўлення Ваўкалак нават расціснуў калматыя пальцы сваей учэпістай лапы, чым зрабіў вялікую ласку Гардзею, які праз некалькі імгненняў зусім бы задыхнуўся.

— Не, Луіза, не! — адразу закрычаў Гардзей ахрыплым голасам.— Ты сама не разумееш, што ты гаворыш! Я не дазволю табе!

— Калі я пагаджуся, вы адпусціце яго? — спытала Луіза ў Ваўкалака, быццам не чуючы брата.

— Адпушчу,— адказаў Ваўкалак.

— Я згодна.

— Але я хачу папярэдзіць цябе, што ты застанешся тут назаўсёды,— змрочна сказаў Ваўкалак.

— Не, Луіза, я не дазволю! — у адчаі крычаў Гардзей.

— Я згодна,— паўтарыла Луіза.— Але… Я амаль не бачу вас. Хто вы?

Зноў пачуўся страшны, нечалавечы стогн, і Ваўкалак паволі падышоў бліжэй да свечак на сцяне.

Луіза ўскрыкнула. Пад чалавечай вопраткай гаспадара дома было звярынае цела, пакрытае густой чорнай поўсцю. На знявечаным твары яго расла

такая ж чорная поўсць, з якой выглядалі толькі хіжыя вочы ды вялікія воўчыя нос і пашча.

Зірнуўшы на твар Ваўкалака, Луіза са страху засланіла вочы рукамі.

Ваўкалак зноў застагнаў, і ў гэтым стогне чуліся боль і адчай.

— Я не дазволю вам здзекавацца з нас! — закрычаў Гардзей.— Зараз жа выпусціце нас адсюль!

Ад гэтых слоў Ваўкалак зусім раз'юшыўся.

— Выкіньце яго з майго дома! — зароў ён страшным голасам.

Даберман і Сенбернар тут жа накінуліся на Гардзея і пацягнулі яго да дзвярэй. Не паспеў ён апамятацца, як апынуўся за варотамі, якія тут жа з грукатам зачыніліся за ім. Лежачы на дарозе, Гардзей доўга яшчэ спрабаваў сцяміць, што рабіць далей.

## Раздзел сёмы ПАКОЙ ДЛЯ ПАЛАНЯНКІ

— Ты яго хоць не пакусаў? — спытаў Даберман Сенбернара, калі яны вярталіся ў дом.

— Я ж табе не якая-небудзь галодная псіна,— пакрыўдзіўся Сенбернар.

— Здаецца, яны неблагія людзі,— уздыхнуў Даберман, прапускаючы міма вушэй апошнія словы сябра.— Мне іх шкада. Невядома, чым уся гэтая гісторыя скончыцца.

— Хто яго ведае. Але ў нас з'явілася надзея.

— Якая надзея? — не зразумеў Даберман.

— Магчыма, гэта тая дзяўчына, якая ведае чароўныя словы, і яна здыме з нас закляцце.

— О, каб жа! — соладка ўздыхнуў Даберман.

— Ва ўсялякім разе, трэба заўсёды спадзявацца на лепшае,— сказаў Сенбернар.

Так яны дайшлі да пакоя, у якім знаходзіліся Луіза і Ваўкалак. Дзяўчынка адвярнулася ад Ваўкалака і стаяла з нізка апушчанай галавой.

— Вы нават не дазволілі мне развітацца з братам,— з крыўдай і болем у голасе сказала яна.

— Не думаю, што табе ад гэтага стала б лягчэй,— спакойна адказаў Ваўкалак.— Пойдзем, я правяду цябе ў твой пакой.

— У мой пакой? — здзівілася Луіза.

— Калі, вядома, ты не хочаш заначаваць дзе-небудзь тут — на падлозе ці ў крэсле.

Не азіраючыся, Ваўкалак стаў паволі падымацца па шырокай лесвіцы на другі паверх. Луіза некалькі імгненняў стаяла на месцы і пазірала ўслед страшыдлу, затым уздыхнула і падалася следам за ім.

На другім паверсе на сценах таксама гарэлі свечкі, але тут іх было мала, і ўсё патанала ў паўзмроку.

Луіза зайшла ў пакой, у якім ёй, магчыма, было суджана правесці ўсё астатняе жыццё. У параўнанні з іншымі пакоямі гэты падаўся дзяўчынцы больш утульным. Тут было болей святла і мэблі. У кутку стаяў ложак. Побач з ім — невысокі столік, мяккае вялікае крэсла. І самае галоўнае — доўгія, на ўсю сцяну,

паліцы з кнігамі. Каля крэсла валялася некалькі дзіцячых цацак: плюшавае мядзведзяня, гумавая малпачка і пластмасавы верталёцік. Здавалася, Луізу тут даўно чакалі і гэты пакой спецыяльна падрыхтавалі да яе прыходу.

— Калі табе што-небудзь спатрэбіцца, Сіямская Кошка будзе ў суседнім пакоі,— буркнуў Ваўкалак.— Адной па доме табе хадзіць забаронена.

Чаму? — вырвалася ў Луізы. Дзяўчынка ніяк не магла звыкнуцца, што яна тут не госця, а паланянка.

Замест адказу Ваўкалак даволі моцна грукнуў дзвярыма, пасля чаго ў пакоі стала незвычайна ціха.

"Ну і няхай! — падумала Луіза, як толькі засталася адна.— Я наогул баялася, што мяне зачыняць у якім-небудзь склепе".

Яна распранулася і нырнула ў ложак, але не прамінула перад гэтым прабегчы вачыма па кніжных паліцах. "Цікава,— падумала дзяўчынка,— хіба можа чалавек... ну, хай сабе Ваўкалак, ці можа ён быць жорсткім, калі любіць чытаць казкі? А ўвогуле, ці ўмеюць ваўкалакі чытаць? Напэўна, умеюць, інакш навошта трымаць у доме столькі кніжак?"

Яна і не заўважыла, як сон ціхенька падкраўся да яе і асцярожна заплюшчыў ёй вочы.

## Раздзел восьмы ЯК ВАЎКАЛАК ХАЦЕЎ БЫЦЬ ВЕТЛІВЫМ

Ваўкалак нервова хадзіў па сваёй спальні, заклаўшы лапы за спіну. Даберман і Сенбернар сядзелі ў крэслах, а іх вочы нястомна сачылі за Ваўкалакам.

Нарэшце гаспадар дома спыніўся, цяжка ўздыхнуў і сказаў толькі адно слова:

— Глупства!

Затым ён зноў пачаў нервова хадзіць па спальні.

— Але чаму глупства? — не вытрымаў Сенбернар.

— Ды адкуль яна можа ведаць тыя чароўныя словы?! — схапіўся лапамі за галаву Ваўкалак.— Хіба па ёй не відаць, што гэта ніякая не чараўніца?!

Ну,— глыбакадумна заўважыў Даберман,— тая вясковая жанчына, якая некалькі гадоў таму з'явілася тут і ператварыла нас у чорт ведае што, таксама была не надта падобная на чараўніцу.

— А потым, давайце ўзгадаем, як гэтая дзяўчынка са сваім братам трапілі сюды,— дадаў Сенбернар.

— Як? — пацяснуў плячыма Ваўкалак.

— Праз вароты. Праз вароты, якія ім ніхто не адчыняў. І якія звонку немагчыма было адчыніць.

На некалькі хвілін у пакоі настала цішыня. Нарэшце Ваўкалак прамовіў:

— Я згодны. Няхай сабе будзе так, як хочаце вы. Няхай сабе яна ў гэтым доме адчувае сябе не паланянкай, а госцяй. Але вам не ўдасца прымусіць мяне патураць усім яе прыхамацям і бегаць за ёй, як які-небудзь бяздомны сабака за першым стрэчным.

— Ад цябе патрабуецца ўсяго толькі быць як мага больш ветлівым з ёй,— сказаў Сенбернар.

— Па праўдзе кажучы, з часам у тваіх паводзінах становіцца ўсё больш воўчага,— дадаў Даберман.— З табой бывае нават немагчыма нармальна пагаварыць.

— Што?! — зароў Ваўкалак.— Ды хто вы такія, каб навучаць мяне, як мне сябе з кім паводзіць?!

Ён схапіў са стала падсвечнік і запусціў ім у сваіх сяброў. Свечка патухла. Спальня Ваўкалака напоўнілася цемрай і крыкамі Сенбернара і Дабермана.

— Здаецца, ён мяне пакалечыў,— енчыў Сенбернар.

— Відаць, яму проста падабаецца быць Ваўкалакам,— бубніў Даберман.— Ён, напэўна, лічыць, што насіць на сабе воўчую поўсць — гэта вельмі арыгінальна і прэстыжна, і гэта менавіта тое, што падабаецца дзяўчатам.

— Хопіць! — крыкнуў Ваўкалак.— Падайце мне падсвечнік.

Ён запаліў свечку і цяжка апусціўся на свой ложак.

— Хіба можа такая пачвара быць ветлівай?! — горка прамовіў Ваўкалак.— Я не ведаю, што мне рабіць.

— Ну, для пачатку табе трэба ўспомніць хаця б некалькі ветлівых слоў,— нясмела сказаў Сенбернар.

— Якіх слоў? — буркнуў Ваўкалак.

— Ну, напрыклад, "калі ласка", "дзякуй". І, галоўнае, старайся трымаць сябе ў руках.

— А што, я кепска трымаю сябе ў руках?

— Як табе сказаць...— дыпламатычна пачаў Сенбернар.— Для Ваўкалака ты, відаць, трымаешся цудоўна. Але як... кавалер... Ну, уяві сабе, што я — гэта ты, а Даберман — гэта Луіза.

Сенбернар накіраваўся да Дабермана і з усёй ветлівасцю, на якую толькі быў здатны, сказаў:

— Мілая Луіза, ці не зробіш ты нам ласку і ці не паснедаеш разам з намі?

Даберман расплыўся ва ўсмешцы.

— Чаго ты скалішся, боўдзіла лапавухае? — ускіпеў Сенбернар.— Ты адказвай, калі ў цябе пытаюцца.

— Я з радасцю з вамі паснедаю,— пакланіўся Даберман.

— О, на табе сёння такая прыгожая аксамітная сукенка. Яна табе так пасуе,— працягваў Сенбернар.— Дзе ты яе купіла?

— Мне падарыў яе адзін французскі дыпламат,— заўсміхаўся Даберман.

— Дурань,— уздыхнуў Сенбернар і звярнуўся да Ваўкалака: — Карацей, усё павінна выглядаць прыкладна так. Ты павінен расцякацца перад ёй, як марожанае ў саракаградусную спякоту. Гавары, гавары і гавары з ёю. Чым больш яна будзе размаўляць, тым большая верагоднасць, што яна нарэшце скажа чароўныя словы.

— Добра,— паціснуў плячыма Ваўкалак,— я паспрабую. Хоць...

— Ну, што яшчэ? — нахмурыўся Сенбернар.

— Я не самая лепшая кампанія для такой дзяўчынкі. І варта мне толькі будзе ўсміхнуцца, вось так...— Ваўкалак выскаліўся, паказваючы свае страшныя іклы. Сенбернар, які стаяў побач, ад нечаканасці адскочыў убок,— як ёй захочацца не размаўляць са мной, а ўцякаць ад мяне куды вочы глядзяць,— закончыў Ваўкалак.

Сенбернар пачухаў галаву і прамовіў:

— Вядома, ёй давядзецца прывыкнуць да цябе… Мы таксама не адразу… Але, у рэшце рэшт, ты сам сказаў ёй, што яна застанецца тут назаўсёды.

— Я не магу чакаць доўга! — зароў Ваўкалак.— Яшчэ некалькі месяцаў, і ўжо ніякія чароўныя словы не дапамогуць нам зноў стаць людзьмі.

— Слухайце,— умяшаўся ў размову Даберман,— так мы будзем спрачацца бясконца. Я пайшоў клікаць дзяўчынку снедаць, а там будзе відаць, што нам рабіць далей.

Ваўкалак нічога не адказаў на гэта, адно цяжка ўздыхнуў.

Праз паўгадзіны ўсе сабраліся на кухні. Тут, як і ва ўсім доме, гарэлі свечкі. Іх было шмат, і зыркае святло даставала ва ўсе закуткі. Сіямская Кошка завіхалася каля газавай пліты, разлівала па талерках гарохавы суп. Папугай Лоры наразаў хлеб.

— Добрай раніцы! — сказала Луіза, выбіраючы позіркам месца, куды б ёй сесці.

Яна ўбачыла папугая, які наразае хлеб, з усмешкай кіўнула яму галавой, і паўтарыла:

— Добрай раніцы!

Сенбернар нахіліўся да самага вуха Ваўкалака і прашаптаў:

— Скажы ёй "добрай раніцы"!

Ваўкалак у нерашучасці пачаў круціцца ў крэсле, быццам сеў на нешта гарачае.

— Ну, давай жа, хутчэй! — падганяў яго Сенбернар.— А пасля скажы: "Як табе спалася, дзяўчынка?"

— Як вам спалася? — раптам спытала Луіза і абвяла ўсіх вясёлым позіркам.

Ваўкалак, які ўжо сабраўся з духам і раскрыў рот, каб задаць ёй тое ж самае пытанне, ад нечаканасці аж здрыгануўся і закашляўся.

— Вы не прастудзіліся часам? — спагадліва спытала Луіза.

— Так… хоць не… хоць… добрай раніцы… як табе спалася, дзяўчынка? — як заведзены, замармытаў Ваўкалак.

— О, мне сніўся цудоўны сон,— летуценна прамовіла Луіза.— Быццам прыгожая фея, уся ў белым і зіхоткім адзенні, паслала мяне ў далёкую краіну, каб я расчаравала там аднаго юнага каралевіча, якога злая Вядзьмарка ператварыла ў мядзведзя.

Пачуўшы гэта, Папугай Лоры ўпусціў нож, а Сіямская Кошка ледзьве не звалілася з услончыка, пры гэтым чарпак з гарохавым супам пацэліў міма талеркі. Даберман раптам закашляўся, а Сенбернар падскочыў, быццам яго выцяла токам. Ваўкалак вырачыў вочы і разявіў рот. "Ура!" — зразумеўшы словы дзяўчынкі па-свойму, запляскала ў ладкі Маленькае Сіямскае Кацяня, пасля чаго ўсе ўтаропіліся ў Луізу.

Луіза стаяла з заплюшчанымі вачыма, быццам у гэтае імгненне зноў апынулася недзе там, у сваім начным сне. Нарэшце яна расплюшчыла вочы, уздыхнула і сказала:

— Шкада, што гэта быў усяго толькі сон. Я так люблю розныя прыгоды.

— Толькі сон? — расчаравана перапытаў Сенбернар.

— Толькі сон? — як рэха, паўтарыў Даберман.

— Значыць, табе гэта ўсё прыснілася,— ціха прамовіла Маленькае Сіямскае Кацяня,— і ты не зможаш...

— Хопіць! — раптам крыкнуў Ваўкалак і з усяе моцы стукнуў кулаком па стале.— Больш ні слова! Есці! Я хачу есці!

**Раздзел дзевяты НЯЎДАЛЫ ВІЗІТ**

— Яна знікла! Яна збегла ад нас! — мамачка Тарэза нервова хадзіла з кутка ў куток.— Я ўчора паўдня прасядзела каля яе дома, але там так ніхто і не з'явіўся!

Можа, вы яе чым пакрыўдзілі ці напалохалі? — нясмела сказаў Капітон — бацька Фокі.

Сам Фока сядзеў на канапе і, пакручваючы пальцам у носе, глядзеў па тэлевізары мультфільм.

Мамачка Тарэза бліснула на мужа злымі вачыма, і гнеў, які доўга блукаў па закутках яе душы, нарэшце вырваўся на волю.

— А ты, стары пень, што ты зрабіў для шчасця свайго адзінага сына?!

— А што я...— прамармытаў Капітон.

— А тое,— не дала яму дагаварыць мамачка Тарэза.— Ты ўжо даўно павінен быў абабегчы ўвесь горад, знайсці і прывесці сюды гэтую дзяўчынку.

— Але яшчэ ўчора ты казала, што яна сама прымчыцца сюды, як міленькая, насустрач свайму шчасцю,— пацiснуў плячыма Капітон.

— Казала! І прымчалася б! Каб... каб... Каб не засаромелася. Фокачка!

— Ну? — нехаця адазваўся Фока.

— Я ведаю, што нам трэба зараз зрабіць.

— Ну?

— Збірайся, мы ідзём да Варажбіткі. Яна, пэўна, ведае, дзе цяпер знаходзіцца твая нявеста.

— Думаеш, яна нам штосьці выкладзе пасля ўсяго, што мы ёй нагаварылі ў мінулы раз? — ухмыльнуўся Фока.

— Выкладзе! — упэўнена сказала мамачка Тарэза.

— Чаму?

— Таму што размаўляць з ёй будзем не мы.

— А хто ж тады? — здзівіўся Фока.

— Ён! — мамачка Тарэза паказала на Капітона.

Праз некалькі хвілін яны ўжо стаялі каля дома старой Варажбіткі. Капітон уздыхнуў і няўпэўнена націснуў кнопку ў жалезнай, на маленькіх дзірачках, скрынцы дамафона. Дамафон тут жа ажыў.

— Каго там яшчэ ліха прынесла? — спытаў ён голасам старой Варажбіткі.

— Мяне... Дакладней, нас... Хоць не, мяне...— запінаючыся на кожным слове, сказаў Капітон.

— "Мяне", "нас",— перадражніла Варажбітка.— Імя, прозвішча і чаго прыцягнуўся?

— Я Капітон, бацька Фокі, самага прыгожага жаніха ў горадзе.

— Як жа, як жа, чула,— насмешліва сказала старая.— А дзе ж твой сынок?

— Тут ён.

— А мамачка Тарэза? — ажывілася Варажбітка.

— Таксама тут,— адказаў Капітон, не звяртаючы ўвагі на тое, што мамачка Тарэза спачатку пацягнула яго за рукаво кашулі, а пас ля шматзначна пакруціла пальцам каля скроні.

— Мы да цябе па справе, бабуля,— з ветлівасцю, на якую быў здатны, сказаў Капітон.

— Бабуля?! — зарагатала старая.— Ці даўно я для вас стала бабуляй? Ран ей вы мяне інакш называлі. Ці забылі, ці здарылася што? Ніяк вашаму сынку зноў мая дапамога спатрэбілася, га? Гэтаму таўстуну, з якога фанабэрства прэ, як вада з дзіравай бочкі.

— Ты прабач яго, бабуля,— спешна загаварыў Капітон.— Гэта ён ад моцнага кахання такі зрабіўся. Вось ажэніцца і слова кепскага нікому не скажа, муху не пакрыўдзіць.

— Ага,буркнула Варажбітка.— А то я не ведаю вашага сынка ці вас.

— Ды хопіць табе, бабуля, мінулае ўспамінаць,— не вытрымала мамачка Тарэза.— Мы ж на цябе не крыўдуем, што ты нашы грошы тады ў смецце ператварыла. Усё роўна вось зноў да цябе прышлі.

— Ага, прыйшлі, але ж, мусіць, не ў карты гуляць, не каву з булкаю піць! Што вам яшчэ трэба?

— Ды вось, Фокачка просіць, каб ты яму зноў паваражыла.

— Бач ты, паваражыла! Вы ж мне яшчэ мінулы доўг не аддалі. Ці ўжо забыліся пра яго?

— Памятаем, усё памятаем. І ўсе даўгі табе вернем. Адно паваражы.

— А ці ёсць у вас грошы? — спытала старая.— Мо вы за гэты час абжабрачыліся зусім, адкуль я ведаю?!

— Ну, гэта ўжо занадта! — заскрыгатала зубамі мамачка Тарэза.— Каб пра мяне такое гаварылі!

Але яна неяк стрымала сваю злосць і дастала з кішэні залатыя манеты:

— Вось грошы. Чуеш, як звіняць?

— Чую, чую,— адазвалася старая.

— Дык што, нам можна заходзіць?

— А колькі заплоціце? — спытала Варажбітка.

— Пяцьдзесят залатых манет,— адказала мамачка Тарэза.

— Выкіньце іх у сметніцу,— фыркнула Варажбітка.

— Колькі ж ты хочаш?

— Сто пяцьдзесят,— пас ля кароткага маўчання адказала старая.

— Яна там, мабыць, з глузду з'ехала! — ціха прамовіла мамачка Тарэза, а ўголас, тым не менш, сказала: — Добра, мы згодныя.

— Ну, тады заходзьце,— праз смех прамовіла Варажбітка, і дзверы яе дома сталі павольна адчыняцца.

Першай зайшла мамачка Тарэза, за ёй Фока, апошнім заявіўся Капітон. У той жа момант пачуліся шум, крыкі, грукат. Няпрошаныя госці адзін за адным вылецелі з дому, быццам за імі гналася зграя сабак. Усе яны былі мокрыя з ног да

галавы, нібы толькі што вылезлі з рэчкі. Следам за імі ляцелі талеркі, кубкі, патэльня, венік і яшчэ невядома што.

— Гэй, куды ж вы?! — рагатала старая.— А як жа варажба? Вы што, перадумалі?

— Ты бачыў, хто ў нас кідаўся? — спытала мамачка Тарэза ў Капітона.

— Ды яны, здаецца, самі паляцелі,— разгублена адказаў той, прыспешваючы хаду.

— Ну і вядзьмарка! — прашыпела мамачка Тарэза.— Каб за ёй самой усё жыццё талеркі ды патэльні лёталі!

## Раздзел дзесяты НОВЫЯ КЛОПАТЫ

— Яна спускаецца па лесвіцы,— ціха сказаў Сенбернар Ваўкалаку, асцярожна высоўваючы з-за дзвярэй пысу.

Ваўкалак нервова хадзіў па сваей спальні, і ў яго вачах былі неспакой і насцярога.

— Яна прайшла міма кухні і накіравалася ў пярэдні пакой,— праз некалькі імгненняў паведаміў Сенбернар, стоячы каля лесвіцы.

Ваўкалак уткнуўся галавой у дзверы і нервова зашкроб па іх кіпцюрамі.

— Яна разглядае на сцяне карціну. Яна азіраецца па баках… Яна…

Сенбернар спалохана змоўк.

— Ну?! — глуха зароў Ваўкалак.— Што яна робіць?

— Яна адчыніла дзверы… і выйшла з дому,— разгублена прамовіў Сенбернар.— Спыніць яе?

— Не трэба,— пасля хвіліннай паўзы змрочна адказаў Ваўкалак.— Хай…

У голасе яго чуліся боль і безнадзейнасць.

Луіза выйшла на ганак і азірнулася навокал. Да гэтага часу і дом, і сад яна бачыла толькі ў цемры, і тады яны здаваліся ёй змрочнымі і таемнымі. Цяпер усё ззяла ў сонечных промнях, ласкава спявалі птушкі, ціха шумелі дрэвы.

Дзяўчынка крыху пастаяла на ганку, а пасля няўпэўнена ступіла на сцяжынку, якая вяла ў сад. Вакол расло шмат дрэў: яблыні, грушы, вішні, слівы. Паміж дрэвамі былі раскіданы клумбы, але, Бог мой, на іх было сумна пазіраць. Усе яны зараслі пустазеллем ледзьве не ў чалавечы рост, праз якое адно зрэдку праглядвалі кветкі.

Затое якія гэта былі кветкі! Каля іх немагчыма было прайсці абыякава, яны маглі сагрэць і расчуліць самае халоднае сэрца.

— Які жах! — усклікнула Луіза. Яна вельмі любіла кветкі.— Бедненькія мае! Як вы пакутуеце тут! Вам трэба хутчэй дапамагчы!

І дзяўчынка кінулася ў дом.

— Што здарылася? — спалохана спытаў Сенбернар, на якога ледзь не наскочыла з парога Луіза.

— Там… гінуць…— цяжка дыхаючы, пачала тлумачыць дзяўчынка.

— Гінуць? — усклікнуў Сенбернар.— Хто гіне? Дзе гіне? Чаму гіне?

— Там гінуць кветкі! — нарэшце вымавіла Луіза.— На клумбах.

— Кветкі? — з палёгкай уздыхнуў Сенбернар.— На клумбах? Фу ты, а я ўжо спалохаўся, што на нас хто-небудзь напаў.

Ён пакруціў галавой і, ціха насвістваючы сабе пад нос матыў нейкай песенькі, накіраваўся ў суседні пакой. Яму насустрач тут жа выскачыў Даберман і незадаволена буркнуў:

— Не свішчы! Колькі разоў я цябе прасіў?! Мяне гэта раздражняе!

Сенбернар нічога не адказаў і знік за дзвярыма.

— Хіба вам зусім не шкада кветак? — разгублена спытала Луіза.

— Чаму не шкада? — спакойна адказаў Даберман, які, стоячы за дзвярыма, чуў размову дзяўчынкі і Сенбернара.— Вядома, шкада.

— Але ж трэба штосьці-небудзь рабіць,— жаласліва сказала Луіза.— Яны зусім загінуць!

— Эх, ведала б ты, колькі тут некалі было кветак! А якія! — уздыхнуў Даберман.— Але мы наогул стараемся не выходзіць на двор, не тое што дагледзець клумбы.

— Тады я буду даглядаць іх! У вас ёсць якая-небудзь рыдлёўка?

— Нават не адна,— сказаў Даберман.— Праўда, я не ведаю... Зрэшты, пайшлі.

І ён першы праз кухню накіраваўся ў невялікую каморку. Там аказалася шмат розных інструментаў — граблі, матыкі, рыдлёўкі. Луіза выбрала сабе лягчэйшую і рушыла назад. Даберман застаўся ў каморцы, разгублена пазіраючы ўслед дзяўчынцы.

Зямля была настолькі цвёрдая, а пустазелле так пераплялося, што прайшло ўсяго хвілін дзесяць, а Луіза ўжо зусім выбілася з сіл.

І тут нечакана з'явіўся Даберман — таксама з рыдлёўкай.

— Я падумаў,— неяк няўпэўнена прамовіў ён,— што ўдвух мы справімся хутчэй. Мне ўсё роўна зараз няма чым заняцца.

Працаваць стала весялей, і Луіза зусім забылася на стому. Раптам паказаўся Сенбернар. Ён таксама нёс з сабой рыдлёўку.

— Вось,— сказаў Сенбернар,— гляджу, вы тут нешта ўсё корпаецеся. Дай, думаю, і я дапамагу вам.

Затым падышлі Сіямская Кошка і Маленькае Сіямскае Кацяня.

Сіямская Кошка прынесла граблі, а Маленькае Сіямскае Кацяня — маленькую матыку.

— Мы таксама хочам вам дапамагчы,— сказалі яны.

Пасля прыляцеў Папугай Лоры.

— А я магу насіць у кучу пустазелле,— радасна заявіў ён.

І толькі адзін Ваўкалак не выйшаў з дому і змрочна глядзеў у сад праз шчыліну паміж чорнымі шторамі ў акне спальні.

**Раздзел адзінаццаты ХВАРОБА ЛУІЗЫ**

На наступную раніцу Луіза прачнулася ад болю ў горле. Яна паспрабавала падняцца, але ў яе тут жа закружылася галава.

"Здаецца, я прастыла",— спалохана падумала дзяўчынка, зноў апускаючы галаву на падушку, і ўспомніла, што ўчора пад вечар яна, добра разагрэўшыся падчас работы ў садзе, выпіла шмат сцюдзёнай вады.

Луіза хацела паклікаць каго-небудзь, каб паведаміць пра сваю хваробу і спытацца, ці ёсць у гэтым доме якія-небудзь лекі ад прастуды, але голас яе зрабіўся такі ціхі, што яна сама ледзьве пачула сябе. Заставалася альбо, не зважаючы на галавакружэнне, паспрабаваць усё ж дабрацца да дзвярэй, альбо заставацца ў ложку і чакаць, пакуль сюды хто-небудзь зойдзе.

Пакуль дзяўчынка разважала, што лепей, дзверы нечакана расчыніліся, і на парозе з'явілася Сіямская Кошка.

— Ты ўжо прачнулася? — весела спытала яна, хоць і так было бачна, што Луіза не спіць, паколькі ў яе былі расплюшчаныя вочы.

Дзяўчынка моўчкі кіўнула галавой.

— Ну і цудоўна,— нічога не падазраючы, зноў весела сказала Сіямская Кошка.— Падымайся, зараз будзем снедаць.

Луіза адмоўна пакруціла галавой і нарэшце хрыпла прамовіла:

— Не магу. Я прастыла.

Вестка пра хваробу дзяўчынкі імгненна разнеслася па ўсім доме, і праз хвіліну ў яе пакоі не было дзе яблыку ўпасці. Усе вохкалі, уздыхалі, вінавацілі сябе, што ўчора не дагледзелі яе і дазволілі столькі працаваць. Адзін Ваўкалак стаяў у дзвярах і моўчкі глядзеў на сумны, бледны тварык дзяўчынкі. Здавалася, што ў яго самога ў вачах вось-вось з'явяцца слёзы.

— Чаго ж мы стаім?! — першай апамяталася Сіямская Кошка.— Ёй трэба даць гарачага чаю з малінай!

І яна кінулася на кухню.

— Чаю! Ёй трэба даць чаю з малінай! — следам за Сіямскай Кошкай падаліся і астатнія жыхары дома.

І толькі Ваўкалак застаўся на месцы, быццам нікога не заўважаў і нічога не чуў.

Назаўтра ўсе прахапіліся як ніколі рана.

— Ну, як яна? — з надзеяй спытаў Ваўкалак у Сіямскай Кошкі, якая выходзіла з пакоя Луізы.

— Кепска,— уздыхнула Сіямская Кошка.— Тэмпература яшчэ паднялася.

Ваўкалак крута развярнуўся і моўчкі накіраваўся ў свой пакой. З паўгадзіны яго ніхто не бачыў, і раптам дзверы расчыніліся і з іх не выйшаў, а выскачыў Ваўкалак. Ён, нічога нікому не кажучы, залятаў ва ўсе пакоі, тушыў на сценах свечкі і рэзка расхінаў на вокнах чорныя шторы. Усе былі вельмі здзіўленыя паводзінамі Ваўкалака, але ніхто не асмеліўся што-небудзь спытаць у яго — выгляд у пачвары быў такі, што здавалася, яна гатова разарваць любога, хто ў гэты момант звернецца да яе.

Дом упершыню за некалькі гадоў заліло сонечнае святло. З непрывычкі яно здавалася такім зыркім, што ўсе жыхары дома жмурыліся і хадзілі ледзь не навобмацак.

А Ваўкалак зноў схаваўся ў сваім пакоі і выйшаў з яго толькі праз гадзіну. Цяпер ён выглядаў зусім спакойным. Ваўкалак сеў каля ложка Луізы і ціха спытаў у дзяўчынкі:

— Ну, як ты?

— Нармальна,— паспрабавала сміхнуцца юная паланянка, але ўсмешка ў яе атрымалася зусім сумная.

Цэлы дзень праседзеў Ваўкалак каля дзяўчынкі. А позна ўвечары вярнуўся ў свой пакой, падышоў да стала, высунуў верхнюю шуфляду і дастаў люстэрка. Ён зірнуў у яго і, заплюшчыўшы вочы, глуха застагнаў: з люстэрка на Ваўкалака глядзеў старэнькі, нямоглы дзядок, у якім, хоць з цяжкасцю, але можна было прызнаць Гая.

## Раздзел дванаццаты ГАРДЗЕЙ ВЫДАЕ ТАЯМНІЦУ

З таго часу, як Луіза і Гардзей не па сваей ахвоце разлучыліся, прайшло крыху больш за тыдзень. За гэты час хлопец так змяніўся, што яго адразу цяжка было пазнаць — твар асунуўся, зблажэў, вочы апухлі ад пастаяннага недасыпання. Ды і як тут заснеш, калі невядома, што з сястрой. Пэўна ж, ёй там не соладка.

Ва ўсім, што здарылася, Гардзей вінаваціў толькі сябе. Але больш за ўсё яго засмучала тое, што ён нічым не можа дапамагчы Луізе. Калі б яе захапілі ў палон звычайныя зладзеі, змагацца з імі было б значна прасцей. А як змагацца з тым, хто валодае чарадзействам (у тым, што Ваўкалак умее чараваць, Гардзей не сумняваўся?! Ва ўсялякім разе, не сілай. Так Луізе можна толькі нашкодзіць. І тады яны ўжо ніколі не сустрэнуцца.

Аднойчы, калі ўжо здавалася, што паратунку ад гэтай бяды зусім няма, дзверы Гардзеевай спальні з шумам расчыніліся. Гардзей ляжаў на ложку, уткнуўшыся галавой у падушку, і думаў пра Луізу.

— А-а, нарэшце! — пачуў ён незнаемы голас і з цяжкасцю адарваў галаву ад падушкі.

У дзвярах стаяла маленькая поўненькая жанчына, з-за спіны якой вызіраў юнак, падобны на яе як дзве кроплі вады.

— Нарэшце! — радасна паўтарыла жанчына.— Калі я не памыляюся, вы брат Луізы?

— Так,— адказаў Гардзей і неахвотна падняўся з ложка.

— Мяне завуць Тарэза, я мамачка вось гэтага прыгажуна... Фокачка, любачка, пакажыся.

Жанчына ўзяла сына за карак і выпхнула наперад.

— Што прывяло вас сюды? — глуха спытаў Гардзей, думкі якога былі ўсё яшчэ далека адгэтуль.

— Мы адны? — азірнуўшыся па баках, амаль шэптам спытала мамачка Тарэза і, адхіліўшы Фоку, падышла бліжэй да Гардзея.

— Адны,— пацісну пляччыма хлопец.— А...

— Тым лепш,— задаволена сказала мамачка Тарэза.— Вы чалавек, па ўсім відаць, сур'ёзны. Мы таксама людзі сур'ёзныя. Думаю, мы лёгка дамовімся.

— Аб чым? — недаўменна спытаў Гардзей.

— Мой сын,— мамачка Тарэза кіўнула галавой у бок Фокі,— хоча ажаніцца.

— Віншую. Але пры чым тут я?

— Гм, мой сын хоча ажаніцца з самай прыгожай дзяўчынай у нашым горадзе. А самая прыгожая дзяўчына ў нашым горадзе, як вядома, Луіза, ваша сястра. Вось мы і прыйшлі, каб разам з вамі абмеркаваць, як гэта лепш зрабіць.

— Гэта не смешна,— нахмурыўся Гардзей.— Тым больш цяпер.

— А мы і не збіраліся жартаваць!

— Тым горш для вас.

— Што гэта значыць? — усклікнула мамачка Тарэза.

— Гэта значыць, што вы зусім дарэмна сюды прыйшлі,— спакойна адказаў Гардзей.

— Але вы яшчэ не выслухалі нашы прапановы!

— Ды не хачу я слухаць вашы прапановы і ўвогуле гаварыць аб гэтым. Луіза ў палоне ў Ваўкалака, а вы тут са сваей жаніцьбай!..

Некалькі хвілін у пакоі было незвычайна ціха. Пачуўшы пра Ваўкалака, Фока ад страху часта-часта залыпаў вачыма і спінай адступіў да дзвярэй.

Мамачку Тарэзу апошнія словы Гардзея так здзівілі, што яна доўга не магла вымавіць ні слова.

Гардзей маўчаў, пра сябе разважаючы, ці не сказаў ён чаго лішняга.

Першай парушыла маўчанне мамачка Тарэза.

— Гэта ў якога такога Ваўкалака яна ў палоне? — ачомалася яна і грозна дадала: — Здаецца, нас тут збіраюцца абвесці вакол пальца!

— Ды ніхто не збіраецца вас вакол чаго-небудзь абводзіць,— уздыхнуў Гардзей і расказаў, як яны з Луізай трапілі ў незвычайны дом пасярод лесу.

— Відаць, я ўжо ніколі не ўбачу Луізу,— амаль са слязамі на вачах закончыў ён сваю гісторыю.

— А як жа цяпер мая жаніцьба? — усклікнуў Фока.— Дзе я цяпер знайду нявесту? Я не хачу...

— Фока! — перабіла сына мамачка Тарэза.— Памаўчы!

І на яе твары, на якім яшчэ хвіліну таму былі разгубленасць і здзіўленне, з'явілася і тут жа пагасла хітраватая усмешка.

— Ах, як гэта жорстка — трымаць чалавека ў палоне ўсё жыццё! — падроблена трагічным голасам сказала яна і цяжка ўздыхнула.— Тым больш, дзяўчыну. А яна ж такая маладзенькая, такая прыгожанькая!

Гардзей нізка апусціў галаву і нічога не сказаў.

— Я б сама пагадзілася да канца сваіх дзён застацца ў палоне ў Ваўкалака, абы ён адпусціў Луізу.

— Праўда?! — узрадавана крыкнуў Фока.— А ты паспрабуй, можа, Ваўкалак і пагодзіцца памяняць Луізу на цябе!

— Ідыёт! — зашыпела мамачка Тарэза.— Замаўчы!

— Не,— уздыхнуў Гардзей,— не пагодзіцца, я ведаю. Ды і ў дом Ваўкалака трапіць, здаецца, немагчыма. Вакол яго высокая цагляная агароджа з адзінымі варотамі, якія выпадковаму чалавеку адчыніць немагчыма. Я ўжо некалькі разоў хадзіў туды, стукаўся, крычаў, і ўсё дарэмна, ніхто не падышоў да іх, не адгукнуўся.

— Божа мой,— зноў падроблена трагічным голасам сказала мамачка Тарэза,— як гэта несправядліва — такую харошанькую дзяўчынку трымаць у палоне! Вы, відаць, многае зрабілі б для таго, хто змог бы яе вызваліць!

— О, я зрабіў бы ўсё, што ў маіх сілах! — усклікнуў Гардзей.— Я б выканаў любое яго жаданне! Я... Але... Я перабраў у галаве тысячы варыянтаў — Луізу немагчыма вызваліць адтуль.

— Ну, сказаць "немагчыма" прасцей за ўсё,— хітра прыжмурыла вочы мамачка Тарэза.— А калі гэтага Ваўкалака пераможа прыгожы, разумны юнак, ну, скажам, як мой сын,— жанчына кіўнула галавой у бок Фокі,— я думаю, вы былі б не супраць, каб яна выйшла за яго замуж?

— Эх, каб жа знайсці такога чалавека, які б змог вызваліць Луізу,— уздыхнуў Гардзей, не вельмі ўнікаючы ў сэнс апошніх слоў мамачкі Тарэзы.

— Здаецца мне, што гэты чалавек стаіць перад вамі,— урачыста прамовіла мамачка Тарэза і павярнулася ў бок Фокі.— Што скажаш на гэта, Фокачка?

— І яна непрыкметна пачала падміргваць яму, маўляў, згаджайся.

Але Фоку такі паварот падзей зусім не спадабаўся.

— Я? Я павінен змагацца з Ваўкалакам? — спалохана спытаў ён і заматляў галавой.— Ну, не! Я збіраўся жаніцца, а не паміраць! Прабач, мамачка, але мне надакучыла цэлымі днямі бегаць за табой па ўсім горадзе, уцякаць ад каструль і патэльняў, якія чамусьці лётаюць самі па сабе. А цяпер я яшчэ павінен і рызыкаваць сваім жыццём?! Ну, не! Калі б я напачатку ведаў, што жаніцьба — такая нялёгкая і небяспечная справа, я б ніколі не паслухаўся цябе!

І, крута развярнуўшыся, ён подбегам кінуўся на двор. Як толькі дзверы за ім з шумам зачыніліся, мамачка Тарэза сказала, нібыта просячы прабачэння ў Гардзея за свайго сына:

— Ведаеце, ён у мяне такі гарачлівы, агонь, а не хлопец. А ўвогуле, ён харошы, ён такі разумны, смелы, дужы. Вы не слухайце яго! Вось пабачыце, ён вызваліць Луізу! Але і вы не забывайцеся на свае абяцанне!

І яна, не развітаўшыся, кінулася следам за сынам.

"Пра якое абяцанне? — недаўменна падумаў Гардзей. – Хіба я ім штонебудзь абяцаў? І ўвогуле, дарэмна я расказаў ім пра Ваўкалака — хоць бы ўсё не зрабілася яшчэ горш, чым цяпер".

## Раздзел трынаццаты ПАМІЖ ЖЫЦЦЁМ І СМЕРЦЮ

Луіза памалу пачала папраўляцца. Яе шчокі зноў заружавелі, а на вуснах усё часцей з'яўлялася ўсмешка.

Ваўкалак з ранку да вечара прападаў у яе пакоі, і з ім рабілася нешта незвычайнае: заўсёды пахмурны, незадаволены ўсім, ён раптам перастаў злавацца, грубіяніць і ўвогуле хмурыцца.

Ён як мог забаўляў дзяўчынку, чытаў ёй кніжкі, расказваў розныя неверагодныя гісторыі, ахвотна выконваў усе яе просьбы. А яшчэ ён вельмі любіў, калі яму што-небудзь расказвала Луіза. Ён лацвей усаджваўся ў крэсла і, пакуль дзяўчынка гаварыла, сядзеў нерухома.

Праўда, час ад часу яго вочы раптам напаўняліся невымоўнай тугой і болем, і тады ён адварочваўся да акна і доўга моўчкі глядзеў некуды ўдалеч.

Луіза спрабавала выпытаць у Ваўкалака прычыну такой рэзкай перамены настрою, але Ваўкалак тады рабіў выгляд, быццам нічога не здарылася, і тут жа пераводзіў размову на што-небудзь іншае.

Затое ад астатніх жыхароў дома Ваўкалак не хаваў прычыну сваёй частай тугі. Праходзячы неяк міма кухні, ён сутыкнуўся з Сіямскай Кошкай, якая якраз накіроўвалася да Луізы з гарачым малінавым чаем, спыніўся перад ёй і ціха сказаў:

— Усё. Не сёння-заўтра ён памрэ.

Ваўкалак заўважыў, што кубак з чаем у лапах Сіямскай Кошкі пачаў дрыжэць, вось-вось гатовы выслізнуць на падлогу, спакойна забраў яго і падаўся на другі паверх.

Сіямскай Кошцы не трэба было тлумачыць, хто памрэ. Як і ўсе ў доме, апроч Луізы, яна ведала, што калі Ваўкалак глядзіцца ў люстэрка, то бачыць у ім Гая, які за гэтыя тры гады з юнака ператварыўся ў нямоглага старога. І як толькі заплюшчацца яго вочы, яны да канца свайго жыцця застануцца такімі, як цяпер.

Ніхто не сумняваўся, што Луіза не ведае чароўныя словы, якія зноў могуць ператварыць іх у людзей. Таму, перастаўшы верыць у цуд, зачараваныя жыхары дома апошнія дні часта ўздыхалі пра сябе: "Хутчэй бы ўжо... Няма нічога цяжэй, чым чакаць таго імгнення, калі будзе ясна, што ты ўжо ніколі не станет чалавекам".

Такія думкі прыходзілі ў галаву і Ваўкалаку, калі ён у пакоі Луізы адварочваўся да акна і падоўгу глядзеў некуды ўдалеч.

Калі б дзяўчынка ведала сапраўдную прычыну зменлівасці настрою Ваўкалака, яна б, відаць, расплакалася, шкадуючы яго і ўсіх жыхароў гэтага дома,— у яе ж такое добрае сэрца!

Але Луіза думала, што Ваўкалак перажывае з-за яе хваробы, і старалася быць вясёлай і бесклапотнай, нягледзячы на тое, што, калі яна падымалася з ложка, ногі не вельмі слухаліся і кружылася галава.

Аднойчы раніцай Ваўкалак быў як ніколі сумны і раз-пораз адварочваўся да акна. Луіза недаўменна глядзела яму ў спіну: чаму ў яго такі дрэнны настрой, калі яна ўжо амаль паправілася?!

Раптам дзверы расчыніліся, і на парозе з'явіўся нечым вельмі ўзрушаны і ўстрывожаны Сенбернар.

— Што здарылася? — рэзка спытаў Ваўкалак, прадчуваючы нядобрае.

— Там, каля варотаў, стаіць старая жанчына. Яна хоча бачыць цябе,— дрыготкім голасам прамовіў Сенбернар.

На хвіліну ў пакоі зрабілася зусім ціха, пасля Ваўкалак змрочна выдыхнуў, ці то пытаючы, ці то сцвярджаючы:

— Гэта — яна?!

— Напэўна,— глуха сказаў Сенбернар.

— Хто — яна? — спытала Луіза, нічога не разумеючы. Але яе нібы не чулі.

— Я зараз вярнуся,— ціха прамовіў Ваўкалак і выйшаў з пакоя. Сенбернар падаўся следам.

На першым паверсе ў гасцёўні сабраліся ўсе жыхары дома. Усе з трывогай пазіралі на Ваўкалака: што ён вырашыць?

Ваўкалак накіраваўся да выхада, але затрымаўся каля дзвярэй і сказаў:

— Што ж, Вядзьмарка, відаць, прыйшла, каб паведаміць, што час, адведзены нам, скончыўся. Можа, і лепей, што ён нарэшце скончыўся.

З гэтымі словамі Ваўкалак выйшаў на двор.

Жанчына стаяла каля варотаў, нізка апусціўшы галаву, абапёршыся на крывы дубовы кіёк. На галаве жанчыны была старая зашмальцаваная хустка, якая збілася і закрывала сабой амаль увесь твар. Жанчына здавалася залішне поўнай, ва ўсялякім разе, у мінулы раз яна выглядала больш зграбна.

"Бач ты, як яе расперла,— з'едліва падумаў Ваўкалак.— Ці, можа, начапляла на сябе ўсю адзежу, якая ў яе дома была?"

— Добры дзень, гаспадар,— жаласна сказала госця.— Ці не пусціш мяне ў свой дом крыху адпачыць з дарогі?

"Яшчэ і здзекуецца з мяне!" — злосна падумаў Ваўкалак, але ўголас прамовіў дружалюбна:

— Чаму ж не пусціць, заходзь, калі ласка.

Жанчына яшчэ ніжэй апусціла галаву і, цяжка перастаўляючы ногі, паплялася паперадзе Ваўкалака.

— Добры дзень у хату! — сказала яна з парога, спадылба разглядаючы жыхароў дома, выбрала вачыма адно з крэслаў і рушыла да яго.

— Стамілася я, цэлы дзень без пярэдыху ішла. У горле перасохла, не дыхнуць.

— Я прынясу чаю,— замітусілася Сіямская Кошка.

— Два кубачкі, калі можна,— папрасіла госця.

Калі кубачкі з чаем апынуліся на стале, яна сказала:

— Доўга я ішла, а ваш дом выбрала невыпадкова, бо маю што сказаць вам вельмі важнае.

Усе, хто быў у пакоі, здавалася, нават перасталі дыхаць.

— Але найперш я хацела б ведаць, ці тут знаходзіцца дзяўчынка па імені Луіза?

— Тут,— адказаў Даберман.— Толькі яна захварэла.

— Захварэла? — усклікнула госця.

— Дакладней, ужо амаль паправілася. Яна там, наверсе. Паклікаць яе?

— Не, не трэба пакуль,— як быццам спалохана пакруціла галавой госця. І ўжо спакойна дадала, кіўнуўшы ў бок Ваўкалака: — Пакіньце нас удвух.

Калі ў пакоі нікога не засталося, жанчына падсела да стала, падсунула да сябе адзін з кубачкаў і спытала:

— А хлеб? У вас ёсць кавалачак хлеба?

— Зараз.

"Здаецца, яна вырашыла паздзекавацца з нас,— злосна падумаў Ваўкалак, накіроўваючыся на кухню.— Няўжо яна думае, што мы не здагадаліся, хто яна і чаго завітала сюды?!"

Як толькі Ваўкалак знік за дзвярыма, жанчына нешта дастала з кішэні і хуценька ўкінула ў адзін з кубачкаў. Пачулася шыпенне, быццам там быў не чай, а маленькая змяя. Госця адсунула кубачак далей ад сябе і задаволена ўсміхнулася.

Праз хвіліну вярнуўся Ваўкалак з хлебам на сподачку.

Жанчына, нібы яна тут была гаспадыня, прапанавала:

— Сядай ды выпі са мной чаю. За чаем размова лепш ідзе. Ваўкалак паслухмяна сеў насупраць госці.

— Я ведаю, аб чым ты хочаш са мной пагаварыць,— змрочна сказаў ён.

— Ведаеш? – госця не змагла схаваць свайго здзіўлення.

Яна падсунала бліжэй да ваўкалака кубачак.

— Пі,пі.

Ваўкалак зрабіў доўгі глыток і паўтарыў:

— Ведаю. Толькі чым я так моцна правінаваціўся перад табой, што ты вырашыла загубіць мяне?!

— Загубіць?! — ускочыла жанчына.— Дык ты, праўда, усё ведаў?!

— Не здзекуйся, хопіць! Я не баюся смерці! Яна лепш, чым такое жыццё!

Ваўкалак таксама ўскочыў. І раптам ён пачаў цяжка дыхаць, схапіўся лапамі за жывот і паволі асунуўся на падлогу.

— Вось і добра, што не баішся! — ухмыльнулася жанчына.— І атрута добрая. Аднаго глытка хапіла.

Яна асцярожна абышла Ваўкалака, які, стогнучы, усё яшчэ курчыўся на падлозе, і кінулася наверх, да Луізы.

Дзяўчынка ляжала ў ложку, калі дзверы з шумам расчыніліся і на парозе з'явілася нечаканая госця. Яе хустка з'ехала на патыліцу, адкрыўшы твар жанчыны.

Луіза павярнула галаву і здзіўлена ўсклікнула:

— Вы?!

— Я,— узрадавалася жанчына, што яе пазналі,— я, Тарэза, мамачка Фокі, самага прыгожага хлопца ў нашым горадзе!

— Але як вы сюды трапілі? І чаму на вас гэтыя лахманы?

— Для канспірацыі,— зірнуўшы за дзверы, прыцішаным голасам сказала мамачка Тарэза.— Хутчэй збірайся, ты вольная! Мне ўдалося атруціць Ваўкалака!

— Што? — спалохана прашаптала Луіза.— Ат... ат... атруціць? Не можа быць!

— Чаго б я стала цябе падманваць,— занервавалася мамачка Тарэза.— Давай жа, хутчэй збірайся, а то гэтыя сабакі чаго добрага на нас накінуцца.

Луіза паднялася з ложка і, хістаючыся, пайшла да дзвярэй.

— Э, ды ты, відаць, яшчэ зусім хворая,— заківала галавой мамачка Тарэза.— Нічога, дома мы цябе хутка на ногі паставім.

— Я хачу яго ўбачыць,— прашаптала Луіза.

— Каго?

— Я хачу яго ўбачыць: жывога ці мёртвага.

— Ці не звар'яцела ты часам ад радасці — пляцеш няведама што,— захвалявалася мамачка Тарэза, але Луіза яе не чула.

**Раздзел чатырнаццаты ДАДОМУ**

Ваўкалак нерухома ляжаў на падлозе. Луіза схілілася над ім і скрозь слёзы папрасіла:

— Не трэба, не памірай!.

Яна гладзіла яго па густой поўсці і шаптала:

— Ну адзавіся! Я не хачу, каб ты паміраў! Ты такі харошы. І Ў ЦЯБЕ ДОБРАЕ СЭРЦА!

Толькі Луіза прамовіла апошнія словы, як Ваўкалак здрыгануўся, з цяжкасцю падняў галаву і страшна зароў.

Луіза з жахам адхіснулася ад яго. Ваўкалак зароў яшчэ мацней. Ён усхапіўся з падлогі. Затуліўшы лапамі твар, забегаў па пакоі з кутка ў куток і раптам з разгону перакуліўся цераз галаву і… тут жа ператварыўся ў чалавека.

На шум з суседняга пакоя выскачылі астатнія жыхары дома. Яны таксама на хаду куляліся цераз галаву і ператвараліся ў людзей, гасцей Гая. Сенбернар зрабіўся Нілам, а Даберман — Карнілам. Сіямская Кошка ператварылася ў маладую жанчыну, а Маленькае Сіямскае Кацяня — у яе дачушку. Папугай Лоры зрабіўся высокім элегантным мужчынам.

Мамачка Тарэза стаяла на верхніх прыступках лесвіцы і глядзела на ўсё гэта вырачанымі вачыма.

Ура! — падхапілі адразу некалькі галасоў.— Ура! Мы зноў людзі!

Усе пачалі абдымацца, цалавацца, танцаваць. Луіза апынулася ў самым цэнтры шумнай кампаніі. Яе таксама абдымалі, ёй дзякавалі, а яна ніяк не магла зразумець, за што.

Мамачка Тарэза, пакуль у доме стаяў вэрхал, палічыла за лепшае знікнуць. План яе праваліўся з трэскам, і цяпер трэба было думаць, як хутчэй адсюль выбрацца.

Каля варотаў яна ледзь не сутыкнулася лоб у лоб з бабулькай, на выгляд жабрачкай, якая, пазіраючы, як мамачка Тарэза з усіх ног імчыцца да машыны, што чакала наводдаль, адно ўсміхнулася, а пасля доўга прыслухоўвалася да шуму, які даносіўся з дому. Нарэшце яна знікла гэтак жа нечакана, як і з'явілася.

У той жа дзень Луіза вярнулася ў горад, як ні ўпрошваў яе Гай і яго госці застацца ў іх хаця б да заўтра.

— Не магу,— сказала Луіза.— Там жа Гардзей. Але я… але мы абавязкова прыедзем сюды. Вы ж усе цяпер мае лепшыя сябры.

Гардзей ляжаў на ложку, уткнуўшыся галавой у падушку. Калі ён пачуў голас сястры, то спачатку падумаў, што яму гэта падалося ці ў яго пачаліся слухавыя галюцынацыі.

— Гардзей! — пяшчотна паклікала Луіза.

Хлопец падняў галаву і не мог паверыць сваім вачам. Пакуль Луіза сама не падбегла і не абхапіла яго за шыю.

— Луіза,— нарэшце прамовіў Гардзей,— ён адпусціў цябе?! Луіза не адказала. Ды і як адразу адкажаш на такое пытанне?..

# ЗМЕСТ